

Премѹдрости божиеи книга починаетсѧ · зѹполне выложена на рѹскыи ѧзыкъ · докторомъ францискомъ скоринины(м) сынкомъ · изъславнаго града полоцька

*Тытульны ліст Кнігі «Прамудрасць Божая».*


Песнь песнимъ

ку царю иже сотвори бракъ сыну своему, и посла
рабы своя призвати званныя на бракъ • И не хотеяху
прийти • Сие Евангелие ясне поведаеть образку
семъ о немъже прежде написалъ есть Царь Сало
монъ духомъ с҃тымъ • Якобо Ева мати всехъ лю
дей скости спящего ерая Адама сотворена есть :
Тако и Церковъ Хр̃това мати всехъ Крестиянъ збо
ку висящего на кресте сына божия совершена есть:
И яко што е первое матери бытность плоти и крови
родящеся прияхомъ • Тако и што церкви Хр̃товы веру
ласки и силы крещающеся приимуемъ • Я яко попло
ти есмо сынове Адамови, тако по духу сынове
Хр̃тови • Сегодля слушне называется всей кни
зе Хр̃тосъ Женихъ и Любый • Церковже светая
его Невеста и Приятелка • Я тако пророковалъ есть
Царь Саломонъ прежде нарожения сына божия о лю
бви спасителеве юже имеяше къ церкви своей и к оиз
браннымъ ея • Подъ приповестию жениха и своею не
вестою о любви розмолвяющихъ • Дающи намъ на
уку иже хотимли мы божию ласку имети мусимы
г҃да бога напредъ и своего ближнего верне миловати :~
Конецъ Предословия :~

*Францыск Скарына.*
*З прадмовы да Кнігі*
*Песня Песняў Саламона.*



**У нумары 3/2017**

# НАША ВЕРА

Помнік Францыску Скарыну ў Празе.



Алесь Жлутка

# Францыск Скарына: жыццё дзеля Слова

**НАРАДЖЭННЕ**

Мы не ведаем дакладна, калі ў сям'і Скарынаў, у «слаўным месце Полацкім», прыйшоў на свет хлопчык, які прынёс гонар і славу не толькі роднаму гораду, але і ўсёй Айчыне. Ці здарылася гэтая шчаслівая падзея ў 1490 г. альбо на пяць ці дзесяць гадоў раней? А мо, бліжэй да праўды быў Мікола Шчакаціхін, калі, узіраючыся на Скарынаву эмблему «Сонца маладзіковае», убачыў у ёй закадаваную дату нараджэння дзіцяці, якая, на яго думку, прыпала на момант сонечнай зацьмы 6 сакавіка 1486 года[1]. Першую дату 1490 г. даследчыкі прапаноўваюць, зыходзячы з таго, што для паступлення ў зімовым семестры 1504/1505 гг. у Кракаўскі ўніверсітэт хлопец мусіў мець, згодна з тагачасным рэгламентам, не менш за 14 гадоў. Але падаецца, што нават маючы выдатныя здольнасці, перад універсітэтам ён мусіў мець больш часу, каб падрыхтаваць сябе і для навучання ва ўніверсітэце, і для перакладу ды выдання Святога Пісання. Атрыманне за мінімальны тэрмін, крыху больш чым за паўтары года, у канцы 1506-га, годнасці бакалаўра ў Кракаўскай *Alma Mater* можа сведчыць пра добрае і больш працяглае знаёмства з лацінскай пісьмовасцю і традыцыяй, прынамсі з лацінскай моваю. Для падрыхтоўкі і выдання кніг Бібліі ў Празе ў 1517 г. палачанін павінен быў таксама авалодаць кірылічнай граматай, спасцігнуць хрысціянскую традыцыю ўсходняга абраду, стаць абазнаным у богаслужбовай літаратуры. Час для гэтага ён меў толькі перад паступленнем ва ўніверсітэт, і час гэты, напэўна, быў даўжэйшы. Мабыць, будзе больш слушным прыняць за дату нараджэння дзіцяці 1485–1486 гг.

**СЯМ'Я**

У «Метрыцы Кракаўскага ўніверсітэта» за 1504/1505 гг.[2] і ў «Актах акадэмічных ступеняў» Падуанскага ўніверсітэта за 1512 г.[3] Скарына названы сынам Лукі. Полацкі купец Лука, ці Лук'ян Скарына, упершыню згадваецца 18 траўня 1492 г. у скарзе маскоўскага князя Івана III на дзеянні палачанаў, накіраванай каралю Польшчы і вялікаму князю ВКЛ Казімеру[4]. У 1512 г. Лук'яна Скарыны ўжо не было на свеце, бо ў «Актах...» Падуанскага ўніверсітэта побач з яго імем стаіць лацінскае «*quondam*», якое ў такіх выпадках азначала нябожчыка. Нічога не ведаем мы і пра маці хлопчыка. Брат Іван пайшоў па слядах бацькі, заняўшыся гандлем скурамі і футрамі. Упершыню мы знаходзім яго імя ў дэкрэце Жыгімонта I у снежні 1518 г. як сведкі па справе маёмасці нейкага Андрэя са Львова[5]. Іван памёр у 1528 ці 1529 г., пакінуўшы пасля сябе трох дарослых дзяцей: сына Рамана і дзвюх, не названых па імені, дачок. Імя Рамана ў дакументальных крыніцах з'яўляецца ў 1529 г. па справе падзелу маёмасці памерлага бацькі, пакінутай на захаванне ў доме познаньскага месціча Якуба Корбы[6]. Другі раз з Гданьска ў Познань у 1532 г. яго прывяла справа, распачатая

---

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Закончыў аддзяленне класічнай філалогіі Львоўскага ўніверсітэта імя І. Франко (1983 г.) Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). Пераклаў на беларускую мову паэзію Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

варшаўскімі юдэямі супраць дзядзькі Францішка. У судзе ён даказаў невінаватасць дзядзькі і вызваліў яго з вязніцы, куды той быў кінуты па фальшывым звінавачанні з боку памянёных юдэяў[7]. Далейшы лёс Рамана застаецца няясным. У 1535 г. за полацкую спадчыну ягонага бацькі судзіліся абодва швагры — Еська Сцепановіч і Міхна Аўсянік, жанатыя з яго сёстрамі. На судзе Еська Сцепановіч абвясціў, што не можа вырашаць нешта наконт маёмасці без свайго швагра Рамана, які «в Немъчех служитъ»[8]. З гэтага вынікае, што Раман у той час, магчыма, заставаўся ў Гданьску, які тады быў пад нямецкім уплывам, альбо ў нейкім іншым месцы на Захадзе, улічваючы тагачаснае шырокае значэнне паняцця «немцы». У запісах Полацкай рэвізіі ад 9 сакавіка 1552 г. фігуруюць яшчэ дзве асобы з прозвішчам Скарына: ігумен Пятніцкага манастыра Васька Скарына і райца Еська Скарына, які ў 1553 г. разам з другім райцам Гаўрылам Аляксеевічам быў адпраўлены Полацкаю радаю ў Рыгу дамаўляцца пра паляпшэнне гандлёвых стасункаў з Полацкам[9]. Ці мелі нейкія роднасныя сувязі гэтыя асобы з сям'ёю Францішка Скарыны, сёння мы сказаць не можам.

## ІМЯ

Не ўсё ясна таксама і з імем *Францыск*, якое атрымаў хлопчык. Наконт гэтага выказваюцца два меркаванні: альбо ён спачатку быў ахрышчаны паводле праваслаўнага абраду і меў іншае імя, а пасля паўторнага, каталіцкага хросту, быў названы Францішкам, альбо адразу быў ахрышчаны па каталіцкім абрадзе. Мяркуючы па ўсім, паходзіў ён з асяроддзя полацкага праваслаўнага купецтва; безумоўна, быў добра знаёмы з традыцыяй усходняга абраду, кірылічнай богаслужбовай літаратурай і біблійнымі тэкстамі і адрасаваў сваё выданні шырокім колам праваслаўнага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Зыходзячы з гэтага, некаторыя навукоўцы і праваслаўныя дзеячы прымалі версію паўторнага, каталіцкага хросту. Для падмацавання гэтай версіі даследчыкі абапіраліся на недакладную копію прывілея, выдадзенага каралём Польшчы і вялікім князем ВКЛ Жыгімонтам І Францыску Скарыну 25 лістапада 1532 года. У ім перад імем *Franciscus* стаіць *Georgius*, але адсутнічае азначэнне *egregius* — «*выдатны*», якое пастаянна ўжываецца ў іншых лацінскіх дакументах, дзе згадваецца Скарына[10]. Таму больш аб'ектыўныя даследчыкі адразу палічылі, што кракаўскі капіíст дапусціў банальную апіску, упісаўшы замест *egregius* сугучнае імя *Georgius*[11]. Канчаткова версію пра другое, праваслаўнае імя Скарыны — Георгій, «пахаваў» беларускі скарыназнаўца Георгій Галенчанка, які выявіў у Дзяржаўным архіве Познані запіс памянёнага дакумента ў познаньскія магістрацкія кнігі. У прэамбуле запісу сказана, што гэты прывілей з віслаю пячаткаю і подпісам Жыгімонта І прадставіў для ўпісання асабіста доктар Францыск Скарына і дакумент быў слова ў слова ўнесены ў кнігу. Як і чакалася, на месцы, дзе ў кракаўскай копіі чытаецца *Georgius*, у познаньскім запісе стаіць *egregius*[12].

Такім чынам, трэба канстатаваць, што ва ўсіх лацінскіх і кірылічных дакументах ды ва ўсіх сваіх творах Скарына называецца толькі адным імем — *Franciscus*, Францыск. З гонарам ён прадстаўляе сваё імя ў прадмовах і пасляслоўях, у «Малой падарожнай кніжцы» і нават зашыфроўвае яго ў акравершах. Гэта схіляе да высновы, што, хутчэй за ўсё, Францыск набыў сваё імя падчас адзінага хросту паводле лацінскага абраду.

## БЭРНАРДЫНСКАЯ НАВУКА

Імя Скарыны Францішак, безумоўна, указвае на яго канфесійную прыналежнасць, а таксама на крыніцу, з якой ён мог здабыць веды з лацінскай мовы, неабходныя для паступлення ва ўніверсітэт. Святы Францішак Асізскі, якому ён абавязаны сваім іменем, як вядома, быў заснавальнікам і патронам Ордэну братоў меншых, ці францішканаў, якія пачалі прапаведаваць неўзабаве пасля свайго заснавання таксама на тэрыторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага яшчэ ў XIII ст. Рэфармаванае іх адгалінаванне — францішканаў абсервантаў — было заснаванае Бэрнардынам з Сіены (1380–1444), які заклікаў сваіх паслядоўнікаў займацца прапаведаваннем і навучаннем. Летам 1453 г. на запрашэнне караля Казімера IV Ягелончыка і Кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага ў Кракаў на чале са знакамітым прапаведнікам Янам Капістранам прыбылі некалькі манахаў з гэтай супольнасці. За восем месяцаў побыту Капістрана да абсервантаў было прынята 130 новых членаў, пераважна з ліку выкладчыкаў і студэнтаў Кракаўскага ўніверсітэта[13]. Адразу ж пачалося будаўніцтва кляштара, прысвечанага Бэрнардыну з Сіены. Ад назвы кляштара францішкане абсерванты ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім сталі называцца бэрнардынамі, у адрозненне ад нерэфармаваных канвентуальных францішканаў. Супольнасць імкліва развівалася: узніклі кляштары на тэрыторыі Польшчы і Украіны, а ў 1468 г. быў заснаваны кляштар у Вільні. Пазней, у 1498 г., у Полацку таксама быў запачаткаваны бэрнардынскі кляштар, прысвечаны Найсвяцейшай Панне Марыі, з шырокімі правамі, у тым ліку парафіяльнымі. Цалкам верагодна, што віленскія бэрнардыны працавалі ў Полац-



Дворык найстарэйшага будынка Ягелонскага ўніверсітэта *Collegium Maius*, дзе вучыўся Францыск Скарына.

ку і раней. Вядома, што на місіі яны выпраўляліся і далей за Полацк, напрыклад, у Кіеў[14]. Школа ў Полацку магла быць створаная ўжо на самым пачатку іх працы. Заснавальнікамі кляштараў у Вільні і Полацку былі тагачасныя вікарыі, выхаванцы Кракаўскага ўніверсітэта, Мар'ян з Езёрка, які набыў у ім ступень бакалаўра[15], і Уладзіслаў з Гельнёва[16]. Адміністрацыйна віленскі і полацкі кляштары ўваходзілі ў склад Польскага вікарыяту (з 1517 г. Польскай правінцыі) францішканаў абсервантаў з цэнтрам у Кракаве.

Бэрнардыны вылучаліся тым, што прызнавалі правамоцнымі ўсе праваслаўныя таемствы і не патрабавалі пераахрышчвання[17]. Іх дзейнасць была скіраваная на паяднанне дзвюх галінаў хрысціянства: праваслаўя і каталіцтва. Выказвалася нават меркаванне, што менавіта бэрнардыны паспрыялі выданню ў 1491 г. у Кракаве першай друкаванай кірылічнай кнігі Актоіха на царкоўнаславянскай мове папярэднікам Скарыны ў друкарскай справе — Швайтполем Фіёлем. Прынамсі да гэтага выдання меў непасрэднае дачыненне сіндык Кракаўскага канвента бэрнардынаў Ян Турза[18]. Тое, што Скарына атрымаў хроснае імя ад патрона бэрнардынаў і пазней дзейнічаў у гэткім жа самым экуменічным кірунку, выдаючы Святое Пісанне і богаслужбовыя кнігі для праваслаўных вернікаў, дадаткова сведчыць пра яго сувязі з полацкімі бэрнардынамі і навучанне ў іх. Вельмі верагодна, што з іх дапамогаю ён стаў таксама студэнтам Кракаўскага ўніверсітэта. Ягоным апекуном і натхняльнікам на гэтым шляху мог быць Лявон з Ланьцута (горада на ўсход ад Кракава, што ўваходзіў у склад Рускага ваяводства, цэнтрам якога быў Львоў). Лявон быў манахам у Кракаве, дзе дакументальна засведчаны ў 1484 г. і дзе ў 1525 г. ён памёр. Ён стаў першым гвардыянам полацкага кляштара і кіраваў ім каля 15-ці гадоў (1498–1512?). Потым нейкі час (да 8 снежня 1512 г.) ён быў кусташам Віленскага канвента[19]. Па справах полацкага кляштара ён мусіў мець пастаянныя стасункі з Кракавам, а ў сталіцу вікарыяту Лявон з Ланьцута быў абавязаны з'яўляцца падчас капітулаў, якія адбываліся штогод і найчасцей у Кракаве[20]. Стала прабываць у Кракаве ён мусіў у 1512-1514 гг., калі быў кіраўніком Польскага вікарыяту бэрнардынаў, а таксама ў 1517-1520 гг., калі займаў пасаду правінцыяла Польскай правінцыі[21]. Сувязі полацкіх бэрнардынаў з Кракавам, а кракаўскіх з Ягелонскім універсітэтам і маглі паспрыяць паступленню туды Францыска Скарыны. Магчыма, пошукі ў бэрнардынскіх архівах змаглі б праліць святло на гэты перыяд у яго біяграфіі.

## ПА ВЕДЫ Ў КРАКАЎ

У Кракаў юнак выправіўся, найверагодней, альбо з купецкім абозам, альбо разам з кімсьці з братоў бэрнардынаў. Шлях, хутчэй за ўсё, пралягаў звычайным маршрутам: гасцінцамі з Полацка да Вільні, з Вільні да Берасця, Драгічына, Любліна і адтуль да Кракава. Відаць, на некалькі дзён, чакаючы запісу ў метрычную кнігу ўніверсітэта, што сведчыла пра паступленне, ён мусіў знайсці прытулак альбо ў якой-небудзь гасподзе, альбо ў кагосьці з бацькавых знаёмых па купецкай справе ці ў манахаў.

Выдадзеныя адносна нядаўна на высокім навуковым узроўні «Метрыка Кракаўскага ўніверсітэта»[22] і «Кніга прамоцыяў...»[23] дазваляюць нам удакладніць некаторыя акалічнасці паступлення Скарыны ва ўніверсітэт. Раней іматрыкуляцыйны запіс Скарыны ў «Метрыцы...» адносілі да 1504 г. і без указання больш дакладнай даты. Але трэба ўзяць пад увагу, што, у адрозненне ад сённяшняй практыкі, паступленне ва ўніверсітэт адбывалася на працягу ўсяго семестра. У кожны з дзён семестра, на якія не прыпадалі рэлігійныя святы, а іх вучэльня святкавала каля 90 дзён у год, маглі паслядоўна запісвацца па адным альбо па некалькі чалавек.

Акадэмічны год дзяліўся на два семестры: летні — з красавіка да кастрычніка, зімовы — з кастрычніка да красавіка наступнага года. Паўнамоцтвы рэктара доўжыліся адзін семестр, хоць ён мог пераабірацца і на наступны. Рэктара на зімовы семестр абіралі ў дзень св. Гала 16 ка-

стрычніка[24]. У зімовым семестры 1504/1505 гг., калі Францішак быў запісаны ў «Метрыку...», паўнамоцтвы рэктара выконваў Ян Пшыяцель, ці ў лацінізаванай форме Аміцын — доктар вызваленых навук і кананічнага права, Леадыцэйскі біскуп і плябан касцёла св. Мікалая[25]. Семестр доўжыўся з кастрычніка 1504 г. да красавіка наступнага, 1505 года. Найбольшая колькасць запісаў, як падлічыў даследчык гісторыі Ягелонскага ўніверсітэта Кшыштаф Барада, прыпадала на пачатак і канец семестра, г.зн. у зімовым семестры на кастрычнік-лістапад і сакавік-красавік[26]. Але толькі ў некалькіх семестрах за ўвесь перыяд ад 1400 да 1509 г. пазначаны дзённыя даты запісаў. На шчасце, прынамсі чатыры датаваныя, да таго ж зімовыя, семестры апынуліся блізкімі да семестра іматрыкуляцыі Скарыны: гэта семестр рэктарства Яна з Піліцы 1490/1491 гг., два семестры Мацея з Мехава 1501/1502 і 1505/1506 гг., найбліжэйшыя да Скарынавага семестра, і ідуць яны перад і адразу пасля яго, ды пазнейшы, таксама Мацея з Мехава, 1507/1508 гг.[27]

Наяўнасць дзённых датаў у гэтых семестрах дае нам магчымасць з вялікай верагоднасцю больш дакладна вызначыць час іматрыкуляцыі Францыска Скарыны. Самы ранні кастрычніцкі запіс у памянёных датаваных семестрах адносіцца да 19 кастрычніка, самы позні — да 28 красавіка (але не раней за 22 красавіка). Тым не менш, пры працэнтным раскладзе семестраў па месяцах, на красавік, хоць гэта і не поўны месяц, прыпадае найбольшы працэнт запісаў — ад 18 да 40 %, у сярэднім 25 %, на сакавік — ад 7 да 17 %, у сярэднім 14 %. У зімовым семестры 1501/1502 гг. у «Метрыку...» былі ўнесеныя імёны 154-х асобаў, з іх 11 у сакавіку, што складае 7 %, і 61 у красавіку — 40%. У зімовым недатаваным семестры 1502/1503 гг. былі



Частка старонкі з тэкстам прысягі, якую павінен быў складаць і Францыск Скарына. Унізе на словах з Евангелля, куды ўскладалі рукі прысяжнікі, пергамен працёрты ад дотыкаў тысячаў рук.

іматрыкуляваныя 91 чалавек, у наступным, таксама недатаваным 1503/1504 гг., — 108 асобаў. У зімовым датаваным семестры 1505/1506 гг., які ішоў адразу пасля Скарынавага, усяго запісалася толькі 74 асобы, з іх 13 у сакавіку — 17 %, і 16 у красавіку — 22 %. У зімовым недатаваным семестры 1504/1505 гг., які нас цікавіць, разам са Скарынам ва ўніверсітэцкую Метрыку былі ўпісаныя 120 асобаў. Францыск Скарына запісаны на 29-м месцы з канца спісу[28]. 29 канцовых запісаў складаюць 24 % ад агульнай колькасці. Паколькі імя Скарыны стаіць на пачатку гэтага працэнтавага адрэзку, то пры параўнанні з сярэднім працэнтам па красавіку можна лічыць, што ён быў іматрыкуляваны ў сакавіку-красавіку і, верагодна, бліжэй да пачатку красавіка, але, безумоўна, ужо ў 1505 г., а не ў 1504 годзе.

Запісы ў «Метрыцы...» рабіліся па пэўнай схеме: імя, імя бацькі, месца паходжання, сума грашовага ўнёску. Поўная стаўка складала 8 грошаў, але толькі як выключэнне пры паступленні яе ўносілі цалкам. Найчасцей абмяжоўваліся значна меншаю сумаю — 1–4 грошы, альбо нават абяцаннем аплаціць; сустракаюцца і запісы аб паступленні задарма — *gratis pro Deo* («задарма дзеля Бога»). Былі і выпадкі аплаты натураю: півам, мальвазіяй, воскам, соллю альбо нават банкетам для магістраў. Рэшта павінна была аплачвацца на працягу навучання, але абавязкова да моманту бакалаўрскага іспыту[29]. Іматрыкуляцыйны запіс Францыска гучыць так: *Franciscus Luce de Ploczko, [solvit] 2 grossos*[30]. Запіс у форме *Ploczko* (а не *Poloczko*) мог спараджаць сумнеў, ці ён увогуле адносіцца да Скарыны.

Параўнанне зместу і часу гэтага запісу з запісам 14 снежня 1506 г. у «Кнізе прамоцыяў Ягелонскага ўніверсітэта» аб наданні Францыску годнасці бакалаўра — *Franciscus de Poloczko Litphanus*[31] — змушае нас з пэўнасцю ідэнтыфікаваць абодвух Францыскаў як адну і тую самую асобу — Францыска, сына Лукі з Полацка, грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага. Час, крыху больш за паўтары года, за які Скарына набыў годнасць бакалаўра, упісваецца ў тэрмін, што патрабаваўся для гэтага: ад 10-ці месяцаў да двух гадоў[32]. У тым жа запісе аб прамоцыі на сту-

пень бакалаўра з 1506 г. разам з Францыскам прадстаўленыя яшчэ тры асобы, якія таксама ў адным семестры з ім паступілі ва ўніверсітэт у 1504 годзе. Апрача таго, ніякага іншага Францыска *de Ploczko* ці *de Poloczko* не запісана ні ва ўсёй «Метрыцы...», ні ва ўсёй «Кнізе прамоцыяў Ягелонскага ўніверсітэта». Усё гэта ўзятае разам не пакідае сумненняў у тым, што ў абодвух запісах — «Метрыкі...» і «Кнігі прамоцыяў...» — фігуруе адна і тая ж асоба — Францыск, сын Лукі, Скарына з Полацка.

Апрача паслядоўнага, на працягу ўсяго семестра, паступлення ва ўніверсітэт, былі і іншыя адрозненні ад сучаснай практыкі. Так, паступаючым не трэба было здаваць ніякіх экзаменаў. Патрэбныя былі толькі дастатковыя для чытання і слухання лекцыяў веды лаціны[33]. У Кракаўскі ўніверсітэт прымалі толькі прадстаўнікоў каталіцкага веравызнання[34]. Як ужо гаварылася, неабходна было зрабіць таксама нейкі грашовы ўнёсак, але перадусім іматрыкулянт павінен быў прынесці прысягу ўстаноўленай формы рэктару:

«Я, Н., прысягаю вам, пану рэктару і вашым наступнікам, якія законна ўступяць на пасаду, і абяцаю паслухмянасць ва ўсіх дазволеных і пачэсных справах, а таксама, што як магу буду дбаць пра дабро Кракаўскага ўніверсітэта, у якім бы стане я не апынуўся, і што за ўласную крыўду не буду караць сам, здзяйсняючы пакаранне раненнем, калечаннем ці пагрозай ужыць зброю, але буду прасіць рэктара пакараць крыўдзіцеля. Таксама, што не буду трымацца вучэння асуджанага ерэтыка Гуса. Няхай дапаможа мне Бог і гэтае святое Евангелле» (урывак са св. Лукі — 11, 27-28): «Калі Езус прамаўляў да народу, адна жанчына з натоўпу ўзняла голас і сказала Яму: Шчаслівае ўлонне, якое насіла Цябе, і грудзі, якія кармілі Цябе! А Ён сказаў: Больш за тое, шчаслівыя, хто слухае слова Божае і захоўвае яго!»[35]

Прысягу паступаючы складаў стоячы перад рэктарам і ўсклаўшы пальцы на гэтыя словы Евангелля. Тоўсты пергаміновы аркуш з тэкстам прысягі і евангельскімі словамі працёрся наскрозь ад ускладання тысячаў рук прынамсі з 1415-га да 1509 года[36]. Безумоўна, ён быў сведкам прысягі і нашага Скарыны ды адчуў на сабе дотык рукі будучага перакладчыка і пашыральніка Слова. Без складання прысягі ніхто не мог быць упісаны ў «Метрыку...», а значыць не мог лічыцца студэнтам і карыстацца ўсімі правамі і вольнасцямі ўніверсітэта. У сваю чаргу без запісу ў «Метрыку...» нельга было спадзявацца на атрыманне годнасці бакалаўра. Студэнты абавязаныя былі ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях і святах, якія адзначаліся ва ўніверсітэце і ва ўсіх афіцыйных набажэнствах. З усяго сказанага вынікае, што Скарына належаў да каталіцкага веравызнання (можна хіба толькі спрачацца пра тое, ці трымаўся ён лацінскага альбо грэцкага абраду).

*Заканчэнне будзе.*

1 Шчакаціхін, М. Калі радзіўся Францішак Скарына / М. Шчакаціхін // Полымя. 1925. № 5.
2 Metryka Uniwersytetu Krakowskiego z lat 1400-1508. T.1-2 / Wyd. A. Gąsiorowski, T. Jurek, I. Skierska, przy współpracy R. Grzesika. — Kraków, 2004. T. 1. — S. 612: Franciscus Luce de Ploczko [solvit] 2 grossos.
3 Acta graduum academicorum ab anno 1501 ad annum 1525 / A cura di Elda Martellozzo Forin. — Padova, 1969. — P. 226; Ghetti M.C. Il soggiorno padovano di Francisk Skorina // Manoscritti, editoria e biblioteche all'età contemporanea. Studi offerti a Domenico Maffei per il suo ottantesimo compleanno / Cur. Mario Acheri, Caetano Colli. — Roma, 2006. — P. 343: dominus Franciscus quondam domini Luce Scorina de Poloczko.
4 Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Уклад., прадм., камент., паказ. В. І. Дарашкевіча. — Мінск, 1988. — С. 46.
5 Францыск Скарына: зборнік... С. 46.
6 Тамсама. С. 112.
7 Тамсама. С. 125-157.
8 Тамсама. С. 49-50.
9 Тамсама. С. 52.
10 Упершыню надрукаваны ў: Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений (от 1387 до 1710 года), изданное Виленской археографической комиссией под ред. ученого секретаря М. Круповича. — Вильна, 1858. Ч. 1. — С. 35-36; Пазнейшыя выданні: Acta Tomiciana / Ed. V. Pociecha, Posnaniae, 1952. T. 14. P. 795-796; Znič. 1967. Nr. 94. S. 5; Запісы. Кн. 5. 1970. — С. 118-120; Францыск Скарына: зборнік... С. 156
11 Łowmiański H. Rec. na: Stankievič A. Doctar Francišak Skaryna, pieršy drukar biełaryski... // Ateneum Wileńskie. R. 3. Zesz. 9. Wydz. III. Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. — Wilno, 1925. — S. 163-164; Флоровский А. В. Чешская Библия в истории русской культуры (Франциск Скорина и продолжатели его дела) // Sbornik filologický. III. Třida Česke akademie věd a uměni. Sv. XII. — Praha, 1940-1946. — S. 187; Брага С. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. — Нью-Ёрк, 1967. — С. 12-38; Францыск Скарына: зборнік... С. 331.
12 Галенчанка Г. Канец застарэлага міфа: новы дакумент пра Скарыну // Полацк: карані нашага радавода. Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці. Міжнародная навуковая канферэнцыя 5-6 верасня 1995 года. — Полацк, 1996. — С. 72-79 (с. 76-79: фотарэпрадукцыя дакумента).
13 Vita clarissimi viri fratris Joannis de Capistrano, feliciter incipit, per fratrem Nicolaum de Fara, socium ejusdem // Acta Sanctorum. Octobris. T. X. Bruxellis, 1861. P. 466; Kantak K. Bernardyni Polscy. T. 1. 1453-1572. — Lwów, 1933. — S. 10.
14 Kantak K. Bernardyni... T. 1. S. 165.
15 Ibidem. S. 62.
16 Ibidem. S. 130-131.
17 Ibidem. S. 143.
18 Fijałek J. Początki cenzury prewencyjnej w kościele rzymskokatolickim w Polsce // Studia staropolskie. Księga ku czci Aleksandra Brücknera. — Kraków, 1928. — S. 171.
19 Memoriale Ordinis fratrum minorum a fratre Ioanne de Komorowo compilatum // Monumenta Poloniae historica. T. V. — Lwów, 1888. — P. 282; Kantak K. Bernardyni... T. 1. S. 179, 182.
20 Kantak K. Bernardyni... T. 1. S. 80-81.
21 Ibidem. S. 61.
22 Metryka Uniwersytetu Krakowskiego z lat 1400-1508. T.1-2. — Kraków, 2004.
23 Najstarsza księga promocji Wydziału Sytuk Uniwersytetu Krakowskiego z lat 1402-1541 / Wyd. A. Gąsiorowski, T. Jurek, I. Skierska. — Warszawa, 2011.
24 Boroda K. Studenci Uniwersytetu Krakowskiego w późnym Średniowieczu. — Kraków, 2010. — S. 31.
25 Metryka... S. 610.
26 Boroda K. Studenci... S. 54.
27 Metryka... S. 487-491, 581-585, 618-621, 637-639.
28 Metryka... S. 610-613.
29 Metryka... S. XXXVI-XXXVII.
30 Metryka... S. 612.
31 Najstarsza księga promocji... S. 273.
32 Boroda K. Studenci... S. 153.
33 Ibidem. S. 43.
34 Ibidem. S. 8.
35 Metryka... S. 3: Ego N. iuro vobis domino rectori et vestris successoribus canonice intrantibus obedienciam in omnibus licitis et honestis, et quod bonum Universitatis Studii Cracoviensis promovebo pro posse meo ad quemcunque statum devenero, et quod propriam iniuriam per me non vindicabo vindicta reali, utpote vulneracione, mutilacione aut armorum strepitu, sed super hoc officium rectoris mtplorabo. Item quod opinionem Hus heretici dampnati non servabo. Sic me Deus adiuvet et hec sancta Dei euangelia:
"In illo tempore loquente Iesu ad turbas, extollens vocem quedam mulier de turba dixit illi: Beatus venter, qui te portavit, et ubera, que suxisti. At ille dixit: Quinymo beati, qui audiunt verbum Dei et custodiunt illud."
36 Гл. дадатак на CD дыску да «Metryka...» P. 3.

Юры Лаўрык

# Праява францішканскай духовасці ў акафістах Скарыны

Літаратуразнаўцы яшчэ ў 80-я гг. мінулага стагоддзя высветлілі, што аўтарства двух гімнаграфічных твораў з «Малой падарожнай кніжкі», «Акафіста Найсаладзейшаму Імю Ісуса» і «Акафіста Яну Правазвесніку», належаць пяру самога першадрукара[1]. Пра гэта сведчаць і фразы ў акравершы: «Делал доктор Скоринич Францискоус» і «Писал доктор Скоринич Францискоус»[2].

Аргументаванне каталіцкасці Ф. Скарыны не з'яўляецца задачаю гэтай публікацыі (гэтаму пытанню прысвечаны артыкул А. Жлуткі), аднак, згадваючы названыя творы, мы не можам не адзначыць, што сам факт напісання Скарынам «Акафіста Яну Правазвесніку» выразна сведчыць супраць меркавання, нібы наш першадрукар мог быць пратэстантам: адным з прынцыпаў Рэфармацыі з'яўляецца менавіта адмаўленне культу святых; калі б Скарына быў яе прыхільнікам, напісанне такога гімна сталася б немагчымым.

Аднак найбольш гарачая палеміка вядзецца паміж прыхільнікамі каталіцкасці і праваслаўнасці Скарыны (прычым апошніх не бянтэжыць нават тое, што сам першадрукар паўсюдна называў сябе толькі *Францішкам* або *Доктарам Францыскусам*). З гэтага гледзішча асаблівую цікавасць для асэнсавання веравызнаўчых поглядаў Скарыны ўяўляе «Акафіст (і малітва) Найсаладзейшаму Імю Ісуса», які дае магчымасць звязаць рэлігійны светагляд аўтара з канкрэтнымі рэлігійнымі плынямі і літургічнымі з'явамі.

Звернем увагу на тое, што зварот да Імя Езуса не ўласцівы тагачаснай праваслаўнай літургіцы (толькі пазней згаданы акафіст, скапіяваны са Скарынавага выдання, увайшоў у духовае жыццё расійскіх стараабрадцаў і паўднёвых славянаў[3]). Затое ў каталіцкім свеце — асабліва ў разгляданы перыяд — культ Імя Езуса (з варыянтамі *Найсвяцейшае Імя Езуса*, *Найсаладзейшае Імя Езуса*) набывае шырокае распаўсюджанне не толькі ў літургічных тэкстах (літанія ды малітвы) і формах (набажэнства), але нават у архітэктуры і мастацтве (касцёл Іль Джэзу ў Рыме).

Культ Імя Езуса звязаны з пашанаю, якою аточана Імя Бога ў Святым Пісанні, а пэўныя яго праявы назіраліся на працягу ўсяго Сярэднявечча. Афармленне і развіццё гэтага культу звязана, перадусім, з асобаю выдатнага францішканскага прапаведніка XV ст. Бэрнардына з Сіены (1380–1444), які асабліва ўшаноўваў Імя Езуса і актыўна выступаў супраць яго бяздумнага вымаўлення ў клятвах, пашыраных сярод вернікаў. Разам з палымянаю вераю і неардынарнымі аратарскімі здольнасцямі св. Бэрнардын меў выразны драматургічны талент, дзякуючы якому яго казанні ператвараліся ў свайго роду тэатральныя дзеі, што збіралі аграмадныя натоўпы народу і паўсюдна схілялі людзей да направы свайго жыцця, споведзі і пакуты. Свае казанні прапаведнік звычайна пачынаў са звароту да Імя Езуса і ўзнясення ўгару таблічкі з выгравіраным на ёй надпісам — так званаю трыграмаю IHS: сімвалічным напісаннем імя Езуса ў грэкамоўнай версіі, якая паходзіла з першых стагоддзяў хрысціянства.

У 1422 г. у Венецыі св. Бэрнардын распачаў ажыццяўленне праграмы, скіраванай на пашырэнне ўшанавання Імя Езуса, прамаўляючы казанні на плошчах і арганізоўваючы масавыя працэсіі пад знакам IHS. Аднак праца Бэрнардына з Сіены выклікала ў касцёльнай ерархіі не толькі пэўнае неразуменне, але нават і спробы прыпісаць яму ідалапаклонства. Больш за тое, вядомы прапаведнік Саванарола з прычыны выкарыстання пласцінкі з імем Езуса абвінаваціў яго ў магічных практыках, а адзін з тэолагаў адрасаваў папу Марціну V скіраваны супраць Бэрнардына палемічны трактат.

У выніку Бэрнардын мусіў абараняць свае погляды і ўчынкі перад папскім судом: у 1426 г. пе-

---

**Юры Лаўрык** — вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 г. у Мінску. Закончыў бібліяграфічна-бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры, вывучаў тэалогію і гісторыю ў Люблінскім каталіцкім універсітэце (Рэспубліка Польшча). Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі хрысціянства, кніжнай культуры і асветы ў Беларусі.



Тытульны аркуш «Акафіста Найсаладзейшаму Імю Ісуса» з «Малой падарожнай кніжкі».

рад папам Марцінам V, а пасля, у 1431 г., і перад Яўгенам IV. Аднак Марцін V ухваліў яго дзейнасць, і нават запрасіў прамаўляць казанні ў Рыме, парэкамендаваўшы толькі дадаць да літараў IHS знак крыжа (з гэтага часу трыграма набыла больш звыклы для нас выгляд). Станоўча ацаніў працу Бэрнардына і папа Яўген IV.

Для нас вельмі важнымі з'яўляюцца яшчэ некалькі фактаў, якія датычаць асобы Бэрнардына з Сіены. Па-першае, ён увайшоў у гісторыю Каталіцкага Касцёла як рэфарматар францішканскага ордэну і ідэолаг аднаго з найбольш суворых яго адгалінаванняў — Ордэну братоў меншых св. Францішка рэгулярнае абсерванцыі (*Ordo Fratrum Minorum S. Francisci Regularis Observantiae*), прадстаўнікоў якога ў нас называюць бэрнардынамі. Па-другое, на Базэльскім Саборы ў 1438 г. ён выступаў як прыхільнік паяднання з Праваслаўнаю Царквою. І ўрэшце, па-трэцяе, неўзабаве пасля сваёй смерці, у 1550 г., Бэрнардын з Сіены быў кананізаваны Папам Рымскім Мікалаем V.

Пасля смерці Бэрнардына з Сіены ягоную дзейнасць працягваў яго вучань і паплечнік Джавані з Капістрана, вядомы таксама як Ян Капістран (1386-1456). Падобна свайму настаўніку, Ян Капістран меў дар ускалыхваць людскія душы і стаў годным прадаўжальнікам справы св. Бэрнардына — на ягоныя казанні таксама збіраліся шматтысячныя натоўпы, адбываліся навяртанні і споведзі. З часам ён набыў славу і аўтарытэт, бадай, не меншыя, чым меў Бэрнардын з Сіены, да таго ж ён паўсюдна імкнуўся ўшаноўваць памяць свайго настаўніка. Менавіта дзякуючы Яну Капістрану абсерванты атрымалі ў нас найменне бэрнардынаў.

У Кракаве першыя абсерванты — Уладзіслаў Венгр з паплечнікамі — з'явіліся ў 1452 г., але сапраўдны розгалас дзейнасць прадстаўнікоў гэтага руху атрымала толькі ў 1453 г., калі па запрашэнні Кракаўскага біскупа кардынала Збігнева Алясніцкага сюды прыехаў Ян Капістран. Пад уплывам яго казанняў каля сотні жыхароў Кракава — у тым ліку і частка прафесараў і студэнтаў Акадэміі — выказалі імкненне далучыцца да абсерванцкае супольнасці. У 1454 г. кардынал Збігнеў Алясніцкі ахвяраваў абсервантам пляц паблізу Вавеля, дзе неўзабаве быў узведзены касцёл пад тытулам нядаўна кананізаванага св. Бэрнардына, а таксама збудаваны канвент.

Праз пасрэдніцтва Яна Капістрана і іншых абсерванцкіх місіянераў кракаўскія неафіты ўспрынялі светапоглядную сістэму Бэрнардына з Сіены, у тым ліку, экуменічны, кажучы сучаснаю моваю, падыход да прыняцця ва ўлонне Каталіцкага Касцёла вернікаў Праваслаўнае Царквы (у прыватнасці, адмаўлялі неабходнасць іх перахрышчвання і дапускалі захаванне абрадавых адрозненняў аж да выкарыстання кваснага хлеба для Камуніі). Яны таксама выказвалі глыбокую пашану да Імя Езуса; сярод палымяных прапагандыстаў гэтага культу вядомы і кракаўскія абсерванты — напрыклад, благаслаўлёны Шыман з Ліпніцы[4].

Адзначым, што яшчэ пры жыцці св. Бэрнарда пад уплывам прамаўляных абсервантамі казанняў культ Імя Езуса даволі хутка пашыраўся спярша ў Італіі, а пазней і па-за яе ме-

жамі, набываючы ўвасабленне ў выглядзе адмысловых малітваў. З часам яшчэ адзін францішканін — Бэрнардын з Бусці (к. 1450 — к. 1513) — уклаў набажэнства да Імя Езуса і не раз звяртаўся ў Ватыкан з просьбаю зацвердзіць аднайменнае свята. Папа Сікст IV і папа Інакенці VIII гэтую просьбу ігнаравалі і толькі пазней, у 1530 г., папа Клімэнт VII дазволіў францішканам адзначаць гэтую ўрачыстасць 14 студзеня. З таго часу ўрачыстасць Найсвяцейшага Імя Езуса ўвайшла ў францішканскія Брэвіярыі і Імшал, а агульнакаталіцкаю яна стала толькі ў 1721 г. пры папу Інакенцію XIII. Літанія да Імя Езуса ў цяперашняй форме была зацверджаная толькі ў 1862 годзе. Апрача францішканаў, культ Імя Езуса актыўна пашыралі езуіты (якія нават абралі трыграму IHS у якасці эмблемы свайго Таварыства) і дамінікане, аднак праца ў гэтым кірунку ажыццяўлялася ў асноўным пазней — у 2-й палове XVI і ў XVII–XVIII стст.



Разгортка францішканскага Брэвіярыя з пачаткам набажэнства да Найсвяцейшага Імя Езуса.

З бегам часу Кракаўскі канвент абсервантаў пастулова пачынае пашыраць ідэі Бэрнардына з Сіены не толькі ў Польшчы, але і ў з'яднаным з ёю уніяй Вялікім Княстве Літоўскім: так у 1468 г. паўстае і першы ў ВКЛ Ковенскі канвент; у 1469 г. паслядоўнікі св. Бэрнардына прыбываюць у Вільню, у 1494 г. — у Гродна, а ў 1498 г. — у Полацак, дзе і быў ахрышчаны імі наш першадрукар.

Аднак той факт, што Скарына быў у 1506 г. кракаўскім студэнтам, ставіць пад сумненне гэтае меркаванне, бо ў такім выпадку ён меў бы падчас паступлення ў кракаўскую Акадэмію не больш за 8-9 гадоў. Рэч у тым, што імя першадрукара — Францішак — сведчыць менавіта пра лацінскі хрост, але паколькі абсерванты не практыкавалі паўторнага хрышчэння праваслаўных, можна меркаваць, што Скарына быў адпачатку ахрышчаны ў каталіцтва; і адбылося гэта, хутчэй за ўсё, не ў Полацку, бо, нягледзечы на адносна добрую вывучанасць гісторыі горада, нам нічога невядома пра існаванне там касцёла да з'яўлення абсервантаў, таму больш рэальным месцам хрышчэння Ф. Скарыны бачыцца Вільня, дзе бацька Францішка мог бываць (ці нават жыць) па гандлёвых справах, а абсерванты вялі актыўную прапаведніцкую дзейнасць ужо з 1469 года. Магчыма, там жа, у паслядоўнікаў св. Бэрнардына, юнак вывучаў і неабходную для навучання ў Кракаве лацінскую мову, бо мендыканцкія школы былі адкрытыя не толькі для саміх законнікаў, а для ўсіх ахвотных[5].

Напрыканцы мусім яшчэ сказаць колькі словаў пра сам «Акафіст Найсаладзейшаму Імю Ісуса». Арыентаваны на праваслаўнага верніка, ён быў складзены згодна з традыцыямі візантыйскай гімнаграфіі, таму марнаю справаю бачыцца супастаўленне яго з лацінскімі малітвамі да Імя Езуса ці, тым больш, з тэкстам пазнейшай па часе літаніі. Аднак закладзеная ў акафісце ідэя культу Найсвяцейшага Імя выразна сведчыць не толькі пра каталіцкасць аўтара гэтага твора, але і пра тое, што ён быў носьбітам францішканскай духовасці, якая ў гэты час найбольш актыўна пашыралася на нашых землях менавіта абсервантамі, якія неўзабаве — у год выдання Францыскам Скарынам першых кніг «Бібліі Рускай» — аформіліся ў самастойны Ордэн бэрнардынаў.

1 Турилов А. А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции. (К вопросу о научном описании и изучении рукописей традиционного содержания) // Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности : Материалы всесоюз. конф. [14–16 февр. 1979 г.] / Под ред. М. В. Кукушкиной, С. О. Шмидта; [Предисл. М. В. Кукушкиной]. — Ленинград.: Наука. Ленингр. отд-ние, 1981. — С. 241–247.

2 Параўн. факсімільнае ўзнаўленне названых твораў у выданні: Лабынцаў, Ю. А. «Зерцало жития…»: З літ. спадчыны Францыска Скарыны. — Мінск. : Маст. літ., 1991. — С. 53–77, 79–104. Таксама тэксты акафістаў надрукаваны ў выд.: Скарына, Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. — Мінск.: Навука і тэхніка, 1990. — С. 79–94.

3 Параўн., напрыклад: Турилов А. А. Новые списки гимнографических произведений Франциска Скорины // Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник / [Авт. предисл.: В. М. Конон; Редкол.: М. Б. Ботвинник (отв. ред.), А. И. Журавский, В. М. Конон, А. П. Грицкевич; Худож. В. И. Шелк. — Мінск.: Выш. шк., 1989. — С. 91–96.

4 Chrześcijaństwo w Polsce: Zarys przemiam (966-1945): Praca zespołowa pod red. Jerzego Kłoczowskiego. — Lublin, 1980. — S. 115.

5 Тамсама. — S. 84.

Мікола Купава

# Партрэт Францыска Скарыны

Заснаванне беларускага кнігадруку — самая значная і выдатная падзея ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, самая яркая старонка Залатога веку Беларусі. Адбылося гэта 6 жніўня 1517 года. І гэта была чацвёртая хрысціянская Біблія на нацыянальнай мове. Выданне беларускай Бібліі ў чэшскай Празе — справа надзвычай маштабная і шматгранная, за якою стаіць тытанічная падрыхтоўчая праца: пераклад Бібліі на даўнюю беларускую мову, праца перакладчыка, пісьменніка і рэдактара. Францыск Скарына амаль да кожнай кнігі напісаў свае прадмовы і пасляслоўі. Былі вынайдзеныя, створаныя і адлітыя шрыфты. Да кожнай кнігі створаны кампазіцыі ілюстрацыяў, заставак, загалоўных літараў, выраблены дошкі (клішэ) ілюстрацыяў (дрэварыты). Апрача гэтага, трэба было падрыхтаваць прыезд Скарыны ў Прагу і ўладкаваць у сталіцы Чэхіі сваю майстэрню або арандаваць друкарню, набраць работнікаў або прывезці іх з сабою і ўсім забяспечыць пражыванне ў вялікім горадзе. І ўсё гэта каштавала немалых грошай. Мяркую, што значную падрыхтоўчую працу Скарына правёў дома, у Вялікім Княстве. Але дзе? У Полацку ці Вільні? Мяркую, што ў Вільні — усё ж сталіца, сувязі, прадпрымальніцкія колы, улады і г. д. Зразумела, што такую маштабную працу можна было ажыццявіць пры магутнай фінансавай падтрымцы фундатараў Францыска Скарыны, але зараз мы будзем гаварыць выключна пра партрэт Ф. Скарыны, змешчаны ім у дзвюх кнігах Бібліі, у 1517 і 1518 гг.

Перад намі графічны партрэт Францыска Скарыны, надрукаваны ў кнізе «Ісус Сірахаў» (1517 г.) і ў кнізе «Царствы» (1518 г.). Гэта дрэварыт, для якога выкарыстоўвалі самшыт — цвёрдую пароду дрэва, магчыма, грушу. Партрэт Скарыны — твор выдатны, унікальны паводле ўсіх патрабаванняў кампазіцыі і зместу, а таксама яго ролі ў нашай гісторыі і культуры. Вось ужо 500 гадоў гэты партрэт з'яўляецца неад'емнай часткаю беларускай культуры і актыўна сімвалізуе Рэнесанс у ВКЛ, які ўзняў нашу культуру на сусветныя вышыні.

Перад намі адметны партрэт у інтэр'еры, які выдатна дэманструе канцэптуальныя падыходы да мастацтва эпохі Адраджэння. Партрэт з той галерэі партрэтаў, якія стваралі выдатныя прадстаўнікі эпохі Вітторэ Карпаччо, Леанарда да Вінчы, Альбрэхт Дзюрэр, Рафаэль. Скарына максімальна набліжаны да гледача, свядома вылучаны на пярэдні план кампазіцыі. Такі кампазіцыйны прыём цалкам адпавядае духу рэнесанснага мастацтва, але і інтэр'ер гаворыць пра тое ж самае. Ён максімальна нагружаны духоўна і матэрыяльна. Тут кожная рэч гаворыць пра значнасць героя выявы і напоўніцу раскрывае вобраз асветніка. На партрэце Ф. Скарына паказаны як пісьменнік і перакладчык. Справа ад яго на падстаўцы — кніга, у якую асветнік пазірае вельмі выразным поглядам. Леваруч ад асветніка мы бачым кнігі і на падаконніку, і на лаўцы. Тут, у спецыяльнай скрынцы, захоўваюцца дошкі (клішэ) дрэварытаў. Злева ад асветніка, на ўзроўні плячэй, змешчана кляпсэдра — пясочны гадзіннік, які сімвалізуе адметны час Скарыны і няўмольны поступ наперад. Важным элементам кампазіцыі партрэта з'яўляецца свечка з люстэркам-адбівальнікам. Вядома, гэта ўтылітарная рэч для святла, але ў мастацкім сэнсе гэтая свечка сімвалізуе святло навукі і мастацтва. Пча-

---

**Мікола КУПАВА** — мастак. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Оршы. У 1976 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Удзельнік шматлікіх мастацкіх выставаў. Сябра Саюза мастакоў з 1978 года. Працаваў выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы (1976—1978), мастацкім рэдактарам часопіса «Маладосць» (1982—1984), намеснікам дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава (1990—1996), выкладчыкам малюнка і акварэлі на архітэктурным факультэце БНТУ (2002—2006). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, гістарычнай кампазіцыі, партрэта, краявіду. Даследуе беларускую архітэктуру, у прыватнасці аршанскае абарончае і сакральнае дойлідства. Лаўрэат прэміі Беларускага фонду Тадэвуша Касцюшкі ў галіне грамадскай працы на ніве культуры і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны. Уладальнік вышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі — дыплома і медаля імя Францыска Скарыны. Жыве і працуе ў Мінску.



ла сімвалізуе працаздольнасць і працу наогул як дзейнасць чалавека. Столік, за якім сядзіць Ф. Скарына, накрыты ручніком з вышытым арнаментам, які ў спрошчаным выглядзе нагадвае беларускі. Унізе буйным планам паказаны герб Ф. Скарыны, прамяністае сонца і месяц з людскімі тварамі, якія сімвалізуюць асвету і святло навукі і кнігі як светачу Адраджэння. У верхнім левым куце кампазіцыі мы бачым армілярную сферу, якая сведчыць пра Скарыну як пра выдатнага навукоўца, гуманіста, асветніка, аднаго з самых адукаваных людзей эпохі Адраджэння. Вянчае вобраз Ф. Скарыны трыумфальная брама, якая знаходзіцца за спінаю асветніка, а ў



А.Флароў. Копія партрэта Ф. Скарыны 1830 г. Медзярыт. С.-Пецярбург.

самым версе над брамаю — вянец з дубовага лісця, над якім вісіць табліца з вядомаю датаю, напісанай кірыліцаю, — 1517. Гэта пачатак кнігадруку ў ВКЛ. А ўнізе дрэварыту — табліца з надпісам «Доктар Францыск Скарына».

А зараз мы звернем увагу на вельмі важныя дэталі партрэта. Злева і справа ад постаці Ф. Скарыны на геральдычных шчытах, на якія абапіраюцца ільвы (постаці таксама геральдычныя), змешчаны два знакі: ⊼ і ⏃, якія навукоўцы дагэтуль канчаткова не растлумачылі, але ўсе сыходзяцца на думцы, што гэта знакі фундатараў Скарыны, і мы з гэтым згодныя, і са свайго боку выказваем думку: леў — гэта асноўны элемент герба Чэхіі, таму можна з упэўненасцю сцвярджаць, што знак справа ад Скарыны — ⊼ — сведчыць, што асноўная фундацыя на выдавецкую дзейнасць першадрукара была здзейсненая ў Празе чэшскай. І гэты знак мы бачым ва ўсіх кнігах Бібліі Скарыны. Многія даследчыкі партрэта Ф. Скарыны сыходзяцца на думцы, што гэта манаграма Багдана Онкава, які быў самым вядомым фундатарам кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны. Пра гэта сведчаць запісы на старонках многіх выданняў нашага асветніка: «*А то ся стало накладом Богдана Онкава сына радцы места Віленскага*». Другім фундатарам працы Скарыны з віленскага асяроддзя прадпрымальнікаў і сяброў магістрата быў найстарэйшы бурмістр Вільні Якуб Бабіч, пра што піша сам Скарына: «*Совершиса в дому пачцівага мужа Якуба Бабіча, найстаршего бурмистра славного і вялікаго места Віленскага*». Дарэчы, у доме Якуба Бабіча пасля пераезду ў Вільню ў 1522 г. і была абсталяваная друкарня Ф. Скарыны, дзе ён друкаваў кнігі да 1525 года. Магчыма, другі герб, які змешчаны злева ад Скарыны, і ёсць геральдычны знак Бабіча, паказаны Скарынам толькі адзін раз і толькі на партрэце. Такая кампазіцыя гербаў двух віленскіх радцаў выглядае лагічнаю, але гэта толькі меркаванне, доказаў дагэтуль няма. Наогул, пытанне пра фінансаванне выдавецкай дзейнасці Скарыны даследаванае вельмі слаба. Ёсць звесткі, што значнае ўкладанне ў друкарскую справу Ф. Скарыны зрабіў К. Астрожскі, і мы знайшлі пацвярджэнне гэтага факту. На ілюстрацыі з кнігі «Лічбы» («*Людзі ізраэлевы з палка́мі сваімі каля храма Божага*») мы выявілі наступную геральдыку: як герб Ф. Скарыны, так і магчымы герб Б. Онкава, які шматкроць паўтараецца ў іншых гравюрах, так і герб К. Астрожскага, і герб Радзівілаў «Трубы». І што зусім нечакана — на гэтай гравюры змешчаны герб Свяшчэннай Рымскай імперыі — двухгаловы чорны арол. А гэта сведчыць пра тое, што Скарына меў фінансавую падтрымку ад імператара Максіміляна I — проста так геральдыка ў выданнях такога маштабу не ўжывалася.

У пошуках пацвярджэння ўдзелу ў грандыёзным мерапрыемстве вялікага гетмана ВКЛ К. Астрожскага мне пашчасціла выявіць і іншых фундатараў. Даследуючы партрэт Ф. Ска-

рыны, варта сказаць яшчэ наступнае: сам факт змяшчэння ў кнігах Бібліі, у сакральнай літаратуры, партрэта свецкай асобы, партрэта выдаўца, пісьменніка, асветніка, у пэўнай ступені аўтара аўтапартрэта — з’ява абсалютна ўнікальная. Скарына — не святы, не царкоўнік, не манах. Ён асветнік і рэфарматар думкі чалавецтва, першы вядомы дэмакрат у гісторыі ВКЛ. Гэта першы прыклад працы такога кшталту ў еўрапейскай культуры, у еўрапейскім мастацтве. Так, напрыклад, партрэт Ё. Гутэнберга з’яўляецца больш чым праз 100 гадоў пасля ягонага жыцця, у канцы XVI ст. Невядома, па якіх візуальных прыкметах ці вусных успамінах мастак кіраваўся ў працы над вобразам германскага першавыдаўца. Гэта амаль фантастычны партрэт, не параўнальны з партрэтам Ф. Скарыны, з ягонай мастацкай канцэпцыяй. І ў такім выпадку дапушчальная думка, што галоўную ролю ў драматургіі партрэта, пабудове ягонай кампазіцыі адыграў і выканаў сам Ф. Скарына. Без ягонай канцэптуальнай задумы, магчыма, нават падрыхтоўчых эскізаў, партрэта ў такім выглядзе не было б наогул.




Ілюстрацыя з тытула Кнігі «Лічбаў».

Эстэтычная крыніца, вытокі партрэта Скарыны беларускімі даследчыкамі вызначаюцца досыць дакладна. Ён вынікае з літоўскіх летапісаў, рукапісаў і рукапіснай кнігі, якія былі добра ілюстраваныя. Гэта мініяцюрныя партрэты з «Княскай сям’ёй», выява якой змешчаная ў «Ізборніку Святаслава» (1073), князя Яраполка, які княжыў у 1078–1086 гг. у Тураве, і ягонай жонкі; Аршанскае Евангелле XII ст. паказвае Луку і Мацвея пішучымі за столікамі, як і Скарыну. Вобразы «святых пісьменнікаў» адлюстраваныя ў Лаўрышаўскім, Шарашоўскім, Жыровіцкім і іншых Евангеллях. Вобразы сонца і месяца вядомыя ў еўрапейскай мастацкай культуры. Але толькі ў Радзівілаўскім летапісе сонца і месяц аб’яднаныя ў адзін вобраз. У беларускай народнай казцы «Удовін сын» гэты беларускі казачны герой, званяваўшы цмока, вызваляе сонца з месяцам і вяртае іх на неба. Мяркую, што казку гэтую, калі не чытаў Франак, то чуў у аповедах сваіх бацькоў і бабуль з дзядулямі. Радзівілаўскі летапіс складаўся ў XIII–XVI стст. Малюнкаў у ім было больш за 600. Гэта ёсць своеасаблівая сярэднявечная энцыклапедыя па многіх галінах культуры, гісторыі і мастацтва ВКЛ. І Скарына гэты летапіс мог вывучаць. А яшчэ было шмат іншых крыніцаў, якіх мы не ведаем. Радзівілаўскі летапіс у свой час быў вывезены ў Санкт-Пецярбург, дзе і захоўваецца цяпер. І Скарына — кніжнік, навуковец, пісьменнік — гэта ведаў і меў на ўвазе падчас працы над партрэтам уласнай персоны, захоўваючы і прымяняючы старажытныя традыцыі беларускага мастацтва ў працы над уласным партрэтам. Але як мастак, асветнік эпохі Адраджэння Ф. Скарына напоўніў свой партрэт усімі неабходнымі адзнакамі Рэнесанса, гуманістычным зместам, падняўшы выяву Чалавека да рэнесансных вышыняў.

Пра Біблію Ф. Скарыны пачыналі пісаць ужо ў XVI–XVIII стст. Адкрыццё ж партрэта належыць расейскаму навукоўцу І. Снегірову, які ў 1830 г. даў яго апісанне, хаця гэтае апісанне было зроблена паводле копіі А. Фларова. У 1864 г. партрэт Скарыны прыгадаў расейскі



Застаўка на 9-м аркушы Кнігі «Быццё».
1519, Прага.

навуковец і культурны дзеяч У. Стасаў. Ён сказаў: «...гэты партрэт з'яўляецца самай лепшай гравюрай у Бібліі Скарыны». Пазней партрэт даследавалі І. Каратаеў, Д. Равінскі і многія іншыя даследчыкі. Але, як правіла, яны карысталіся копіяй партрэта. Упершыню арыгінал партрэта рэпрадукаваў П. Уладзіміраў на франтыспісе сваёй манаграфіі ў 1888 г.

Уласна беларускае скарыназнаўства пачалося з навуковай дзейнасці прафесара Віленскага ўніверсітэта, доктара тэалогіі, філосафа, беларускага славіста Міхала Баброўскага, прыхільніка адраджэння беларускай дзяржаўнасці і культуры, які ў 1823 г. знайшоў Супрасельскі рукапіс у бібліятэцы Супрасельскага ўніяцкага кляштара, у якім быў змешчаны спіс прадмоваў Скарыны да ягонага пражскага Псалтыра 1517 года. М. Баброўскі напісаў працу, у якой разглядаў друкарскую дзейнасць Ф. Скарыны і ягоных паслядоўнікаў. На пачатку беларускага адраджэнння, у навейшым часе, у 1909 г., С. Палуян апублікаваў кароткую нататку пра Ф. Скарыну ў газеце «Наша Ніва». У «Каляднай пісанцы» 1913 г. прыгадваецца Скарына і ягоная дзейнасць. У далейшым, у другой палове 1910-х гадоў, М. Багдановіч напіша вершы, прозу і навукова-папулярныя артыкулы на тэму дзейнасці Скарыны. У 1920 г. М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (IV выданне, Вільня) змясціў біяграфічны нарыс пра Ф. Скарыну, у якім быў надрукаваны і партрэт першадрукара. У наступным выданні партрэт быў змешчаны на вокладцы. Пра Ф. Скарыну М. Гарэцкі пісаў і ў іншых публікацыях.



Застаўка да пражскіх выданняў «Песні Песняў», «Прамудрасць Божая», «Левіт» і «Лічбы».

Беларускія патрыятычныя, культурна-грамадскія і дзяржаўныя арганізацыі ўпершыню пачалі папулярызаваць дзейнасць Скарыны і, зразумела, яго партрэт. Больш за 100 гадоў таму ў Вільні ў 1915 г. была выдадзеная паштоўка, а ў 1918 г. выйшла ў свет марка новай незалежнай дзяржавы – БНР, з выявай Ф. Скарыны. Так пачаліся даследаванне і папулярызацыя дзейнасці Ф. Скарыны ў Беларусі ў навейшым часе. Але і гэтыя праекты трымаліся на копіі і на саматужных малюнках, у аснове якіх ляжаў не арыгінальны партрэт, а ў лепшым выпадку самастойныя версіі партрэта. У Савецкай Беларусі нацыянальнае скарыназнаўства пачало развівацца ў 1920-я гады. Па-ранейшаму досыць імкліва і вынікова складвалася і развівалася скарыназнаўства ў Заходняй Беларусі ў Вільні.

Аднак для таго, каб аддзяліць аўтэнтычны арыгінальны партрэт Ф. Скарыны ад недасканалых копій, спатрэбілася вельмі шмат часу, амаль усё XX стагоддзе. Аб гэтым і будзе размова на завяршэнні нашага аповеду пра партрэт Скарыны. Нават такі выдатны даследнік беларускага мастацтва, у тым ліку мастацкай скарыніяны, як М. Шчакаціхін у сваіх публікацыях спасылаўся на копіі партрэта, а не на арыгінал. Даследавалі партрэт першадрукара і іншыя навукоўцы: В. Ластоўскі, І. Дварчанін, У. Пічэта, М. Кацар, М. Алексютовіч, С. Александровіч, А. Коршунаў, В. Чапко, Я. Неміроўскі, Л. Царанкоў, Л. Баразна, У. Калеснік, Я. Юхо, М. Прашковіч і іншыя. Але ў іх публікацыях часцей за

ўсё фігуравалі копіі. У 1972 г. з друку выйшаў альбом «Гравюры Францыска Скарыны», падрыхтаваны Лявонам Баразною — выданне своечасовае і грунтоўнае для засваення мастацкай спадчыны першадрукара. Аднак і Лявон Баразна не здолеў вылучыць і аддзяліць копіі XIX ст. ад арыгінальнага партрэта Францыска Скарыны.

Найвялікшы ўклад у вывучэнне партрэта і ўсёй мастацкай спадчыны Ф. Скарыны ўнёс выдатны беларускі навуковец Віктар Шматаў, які па гэтай тэме абараніў доктарскую дысертацыю. Ён разам з У. Конанам даў грунтоўнае апісанне ўсіх ілюстрацыяў, змешчаных у кнігах беларускай Бібліі, і навуковы аналіз партрэта Ф. Скарыны, і, самае галоўнае, паказаў, што ў публікацыях партрэта 1517 і 1518 гг. фігуруе адзін партрэт, надрукаваны з адной аўтарскай дошкі; у кнізе «Царствы» (1518 г.) стаіць тая ж самая дата, напісаная кірыліцаю, — 1517, толькі знікла пчала. Ад сябе мушу дадаць, што другі партрэт — 1518 года — на 1 мм большы за партрэт 1517 года. І гэта лагічна: кожны мастак-практык ведае, што з цягам часу дошка ад ўздзеяння прэса расплюшчваецца. В. Шматаў паказаў, што арыгінальны партрэт Ф. Скарыны — гэта выдатны твор графічнага мастацтва Вялікага Княства Літоўскага, найвышэйшае дасягненне ў галіне выяўленчага мастацтва эпохі Адраджэння ў ВКЛ. Шматаў таксама даказаў, што копіі — толькі аддаленае падабенства да арыгінала, якія да творчасці Скарыны ніякага дачынення не маюць. Гэта адбылося ў 1986–1989 гг. Дзякуючы аналітычнаму розуму В. Шматава, яго эрудыцыі, энергіі і



Першая беларуская марка з выяваю Ф. Скарыны. 1918 г.

пошукаваму ўмельству партрэт Ф. Скарыны заняў сваю пачэсную нішу ў беларускім мастацтве.

Тым не менш, яшчэ і сёння з'яўляюцца публікацыі пра Ф. Скарыну, нават у прэстыжных выданнях па гісторыі беларускага мастацтва, якія ілюструюцца не арыгінальным партрэтам 1517 г., а копіяй 1830 г., што ў значнай ступені тлумачыцца некампетэнтнасцю мастацкіх рэдактараў і бескантрольнасцю аўтараў. Гэта адбываецца нават сёлета, падчас 500-годдзя беларускага кнігадруку.

У свой час В. Шматаў са скрухаю заўважыў, што ў матэрыяле пра партрэт, змешчаным у «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», нават не згадваецца пра партрэт нашага асветніка (БелСЭ, т. 8, с. 112, 1975 г.). Затое ў новай Энцыклапедыі (т. 12, 2001 г. выдання) у артыкуле «Партрэт» ёсць згадка пра партрэт Ф. Скарыны ў аб'ёме двух радкоў — прагрэс відавочны...

Сёння дзейнасць Ф. Скарыны, ягоную спадчыну вывучаюць у многіх краінах Еўропы: у Літве, Латвіі, Польшчы, Расіі, Чэхіі, Італіі, Даніі, Брытаніі, Украіне, а таксама ў ЗША. Увага да навуковага скарыназнаўства павінна панаваць у доме Скарыны — у Беларусі. На тэарэтычным і мастацкім узроўні мы павінны ўсведамляць, што беларускае скарыназнаўства прайшло два этапы: пачатковы і развіты, які сімвалізуе працу ў гэтай галіне В. Шматава. У XXI ст. ні ролю Скарыны, ні ягоную мастацкую творчасць нельга ацэньваць меркамі XX ст.

Партрэт Ф. Скарыны 1517 года — найярчэйшы твор мастацтва эпохі Адраджэння еўрапейскага ўзроўню. Калі мы дагэтуль не ведаем гравёра партрэта і хто хаваецца за манаграмаю *ЗМ*, то за зместам і формаю, ягонаю этнічнай і духоўнай напоўненасцю, гуманістычнай рэнесанснай ідэяй стаіць, безумоўна, сам Францыск Скарына. Мяркую, Лявон Баразна меў рацыю, калі пісаў пра аўтарства Ф. Скарыны ў стварэнні партрэта. Наогул, улучыўшыся ў вывучэнне мастацкай спадчыны Ф. Скарыны, разумееш, наколькі вялікая і неабдымная планета Скарыны, і можна дапусціць, што грунтоўнае даследаванне ўсёй спадчыны першадрукара па-сапраўднаму толькі што і пачалося, сягае да сваёй будучай вышыні. Невыпадкова сённяшнія чэшскія скарыназнаўцы называюць Ф. Скарыну чалавекам свету. І гэта лагічнае і справядлівае меркаванне. Нас жа асабліва ўзрушаюць і цешаць ягонае полацкае (літоўскае) паходжанне, ягоныя беларускія матывы і тытанічная ахвярная праца першадрукара, перакладчыка і пісьменніка на карысць нашай Бацькаўшчыны.



Васіль Жуковіч

# «Пчолы бароняць вуллі свае»

*Урыўкі з паэмы*

### 4. Маналог закаханага Скарыны

Светлая Маргарыта!
Гожая Маргарыта!
Радасць мая Маргарыта!
Я не магу табе сказаць адкрыта,
Як пра цябе мне жаўранак спявае,
Да сонейка ўзлятаючы над жытам,
Як пра цябе пяе салоўка ў гаі.
О Маргарыта!
Ты для мяне жаданая такая!
Ды я — кнігар, яшчэ — вандроўнік вечны,
Нібыта сон здзяйсняю вешчы, —
Займаюся святою справай...
Не ведаю, ці маю нават права
Стаць мужам, бацькам; і маўчу таму я,
Я не прашу, каб стала ты маёю,
А без цябе так часта я сумую,
Паранены тваёй красою!

Адно я добра знаю, Маргарыта, —
Нідзе не будзеш мною ты забыта.
Нідзе-нідзе
Мая любоў не прападзе.
Каханая, цябе я ўвекавечу
І ў Бога вымалю з табой сустрэчу!
Я мару пра цудоўнае спатканне,
Бо веру ў наша вечнае каханне.
Не быць, не быць табе забытай,
Сонейка-Маргарыта!
Доля мая — Маргарыта!
Шчасце маё — Маргарыта!

### 6. Францішкавы жніво і сяўба

*«...не толико словом, але и делом...»*
Францішак Скарына

Год тысяча пяцьсот сямнаццаты...

Дзень шосты жніўня рушыў вобмацкам
Праз туманы... У гэты час
Пад слаўным горадам пад Полацкам
Ішло жніво якраз.

Ну а ў Скарыны ў Празе свята —
Сяўбы-жніва гарачая пара:
Сышло з друкарскага варштата
Найперш выданне «Псалтыра»,

Аздобленае, адмысловае,
Яго сагрэтае душой,
Бо створанае роднай моваю,
Даступна яснаю, жывой.

Падобных будзе кніг нямала
У слыннага у кнігара...
Але здзяйсненне цуда-мары
Пайшло з выдання «Псалтыра».

Якая велічная з’ява —
Ягоны пражскі першадрук!
Святая мара стала явай,
Бо кніга пойдзе ў рукі з рук!

---

**Васіль Жуковіч** — паэт, навеліст, перакладчык. Нарадзіўся 21 верасня 1939 года на хутары Забалацце (Камянеччына). Скончыў Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Выдаў 30 кніг паэзіі, прозы, а таксама вершаў і казак для дзяцей, перакладаў. Сярод іх — аповесць «Як адна вясна...» (1980), зборнікі вершаў «Паклон» (1974), «У храме харасства і смутку» (2003), «Не завіце радзіму малой» (2009), «Пра што гаманілі рамонкі» (2012), «Хто хацеў бы пакатацца?» (2014), асобныя выданні перакладаў выбраных твораў Алішэра Наваі, украінскіх класікаў і інш. Жыве ў Мінску.

Яе займее Полацк родны,
Яна не праміне людзей
Дзеля учынкаў добрых, годных,
Дзеля цудоўных, чынных дзей...

Сардэчна дзякуе Скарына
Сябрам спагадлівым усім,
Друкарні Паўла Севярына
І Празе, й землякам сваім.

Удзячны Бібліі і Богу,
Свяшчэннай полацкай зямлі,
Крутыя ўзгадвае дарогі,
Якія к поспеху вялі.

## 12. Расстанне

Францішак каля хворай Маргарыты,
Лячыць яе спяшаўся, суцяшаць,
Пра дзень, у клопатах пражыты,
Сабраўся ён з настроем ёй казаць.

Усміхнуцца, прыўзняцца яна хацела,
Хоць маленькую радасць яму падарыць.
Неслухмяныя вусны!.. Знямоглае цела!..
У грудзёх штось агменем гарыць!

У лекарскіх навуках доктар,
Які зацьміў свяцілаў, можа, сто,
Сярод вучоных мудры дока,
А перад хворай любаю — ніхто!
Ніхто-ніхто, калі ніяк не можа
Дапамагчы пакутніцы сваёй!
Няўжо ніхто, нішто не дапаможа
З хваробай цяжкай развітацца ёй?!

С к а р ы н а:

Ты стала жонкай, стала мамай,
Самой асноваю сям'і.
Не стань маёю цяжкай драмай,
Кашмарам дзён, начэй маіх!

М а р г а р ы т а:

І з далёкіх і з блізкіх дарог
Да мяне ты спяшаўся штосілы.
Я кахаю цябе, бачыць Бог,
І сыходжу...
За мной не спяшайся, мілы!..

С к а р ы н а:

Шчаслівы аж ад першага спаткання
Быў я, а сёння я ў журбе.
Маё адзінае каханне,
Маё цудоўнае каханне,
Не пакідай мяне, малю цябе!

М а р г а р ы т а:

Любы мой, ты мяне ўспамінай
Часта-часта, але без адчаю.
Я сыходжу, мой родны, бывай!
Не спяшайся за мной, заклінаю...

Белым тварам яна прыпадае
Да бялюткай падушкі льняной.
Завядаючы, цвет прападае
На кароткай пуціне зямной.

## 14. Маральная чысціня

Сярод любові чалавечай,
Сардэчнай, шчырае такой,
Сутыкаўся з варажнечай
Неадступнаю людской.

Перасцярогай пэўных драмаў
Скарыны мудрасць паўстае:
Не капай пад іншым ямы,
Сам uвалішся ў яе!..

Скарына быў і ёсць, і будзе,
Як сонца, ён да нас ідзе.
Ён дабра жадае людзям,
Міру, згоды між людзей.

*2016*



*У афармленні выкарыстаны малюнкі Міколы Купавы.*



Зміцер Мшар. «Краявід з царквою». 2016 г. ДВП, алей.

# Крыніцы натхнення

«Горад Францішка Скарыны вачыма мастакоў» —пад такою назваю адбылося адкрыццё выставы, прымеркаванай да 500-годдзя беларускай Бібліі, у галерэі касцёла Святога Духа ў Віцебску (перад гэтым выстава экспанавалася ў Мінску, у касцёле святых Сымона і Алены).

Гэтая выстава — плён працы беларускіх мастакоў пасля двух пленэраў імя Івана Хруцкага — «Полацк Францішка Скарыны» (2015) і «Полацк вачыма Францішка Скарыны» (2016), якія праводзіліся на базе грэка-каталіцкай парафіі святога пакутніка Язафата ў Полацку, а іх арганізатарам быў айцец Аляксандр Шаўцоў, пробашч гэтай парафіі.

На выставе экспанаваліся карціны мастакоў Віктара Жукава, Івана Іванова, Вячаслава Літвіна, Андрэя Міхайлава, Зміцера Мшара, Сяргея Чарціліна, Андрэя Піскуна, Аляксея Яўсеева.

Ідэя правядзення такіх пленэраў саспела пасля размовы Апостальскага візітатара для грэка-католікаў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека і мастака Зміцера Мшара. Гэтыя пленэры і сталі часткаю падрыхтоўкі да юбілею беларускай Бібліі. Мэтаю першага пленэра, які старшыня грэка-каталіцкай парафіі ў Полацку, мастак Андрэй Піскун вельмі ўдала вызначыў як «братэрскі пленэр», было дапамагчы мастакам завязаць сапраўднае хрысціянскае сяброўства.

Першы пленэр, які адбыўся ў 2015 годзе, у 130-ю гадавіну смерці Івана Хруцкага, выбітнага беларускага мастака, сына ўніяцкага святара, прайшоў пад знакам ушанавання ягонай памяці. Для мастакоў была зладжана адмысловая экскурсія па родных мясцінах мастака, якую правёў полацкі краязнаўца Міхась Баўтовіч, вернік мясцовай грэка-каталіцкай парафіі. На могілках у Захарнічах, дзе пахаваны мастак і яго сваякі, архімандрыт Сяргей Гаек разам з грэка-каталіцкімі святарамі адслужыў за іх паніхіду.

Калі першы пленэр даваў мастакам больш шырокія магчымасці для выбару аб'ектаў малявання, то падчас другога яны, жывучы на працягу тыдня ў Полацку, імкнуліся «ўбачыць» Скарыну ў гэтым горадзе, адчуць з ім сваю сувязь, як расказваў мастак Зміцер Мшар, адзін з удзельнікаў пленэраў.

У пленэрах прымалі ўдзел

мастакі розных канфесій. «Нашыя пленэры міжканфесійныя, толькі адзін мастак пазіцыянаваў сябе як агностык, аднак у першую чаргу яны хрысціянскія», — адзначыў айцец Аляксандр Шаўцоў. Дарэчы, падчас другога пленэру адзін з яго ўдзельнікаў упершыню паспавядаўся і прыняў святую Камунію. Карціны мастакоў, створаныя падчас пленэраў, — перадусім вынік іх духоўных пошукаў і светаадчування. Так, Вячаслаў Літвін, які піша пераважна алеем, менавіта падчас пленэру здзейсніў своеасаблівы эксперымент, стварыўшы серыю акварэльных малюнкаў, на якіх лёгкія, амаль празрыстыя выявы прыгожа перадаюць атмасферу летняга Полацка ў сонечны дзень.

Айцец Аляксандр Шаўцоў адзначае, што адна з задачаў пленэраў — даць дарогу маладым мастакам. «Мы адмыслова запрашалі прыняць удзел у пленэрах не толькі шырокавядомых майстроў, але і даволі маладых мастакоў, каб даць магчымасць маладым павучыцца ў старэйшых, каб у такіх незвычайных варунках яны маглі атрымаць новыя імпульсы для творчага самавыяўлення і прадэманстраваць свае працы як мага больш шырокаму колу гледачоў. Большасць удзельнікаў пленэраў — гэта выпускнікі мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава», — распавёў айцец Аляксандр Шаўцоў.

Тэматычна карціны, прадстаўленыя на выставе, звязаныя з Полацкам, такім, якім яго ўбачылі мастакі праз прызму свайго ўнутранага свету. «Гэта іх адчуванне Полацка», — кажа айцец Аляксандр Шаўцоў. Але гэта не толькі краявіды і культавыя будынкі горада — гэта і спробы мастацкага рэканструявання яго выявы ў мінулым, як гэта зрабіў Аляксей Яўсееў, мастак з Віцеб-



В. Шчасны. «Пленэр у Полацку». 2015 г.



Андрэй Міхайлаў. «Від на Спасаўскі манастыр у Полацку». 2016 г.



Сяргей Чарцілін. «Грэка-каталіцкая царква ў Полацку».



Іван Іваноў. «Богаяўленскі сабор». 2015 г.



Станіслаў Ліцвін. «З акварэльнай серыі». 2016 г.

ска, на карціне пад сімвалічнаю назваю «Камень». На пярэднім плане карціны камень — «знак, які спрадвеку ставіцца на перакрыжаванні дарог», — нагадвае мастак.

Даволі разнастайнаю з'яўляецца і манера выканання карцінаў — ад рэалістычнай да сімваліцкай, пры гэтым звяртае на сябе ўвагу імкненне да імпрэсіянізму, што яскрава бачна на прыкладзе карцінаў Зміцера Мшара.

Прыцягваюць увагу працы Сяргея Чарціліна, зробленыя мастыхінам, сярод якіх «Краявід у Полацку» вылучаецца сваёю лірычнасцю і каляроваю гамаю.

«У гэтых працах адчуваецца дух Івана Хруцкага і Францішка Скарыны», — кажа айцец Аляксандр Шаўцоў.

У гэтым годзе ўдзельнікі полацкіх пленэраў, дзякуючы архімандрыту Сяргею Гаеку, атрымалі магчымасць маляваць на пленэрах у Кастамлотах (Польшча) і ў парафіі святога Амэ ў дэпартаменце Вагезы ў Францыі. «Гэта рэалізацыя праграмы, якую мы распачалі правядзеннем пленэраў імя Івана Хруцкага, — развіццё і падтрымка мастацтва, крыніцаю натхнення якога з'яўляецца хрысціянства», — адзначыў архімандрыт.

У планах айца Аляксандра Шаўцова — стварэнне пры парафіі святога пакутніка Язафата ў Полацку мастацкай галерэі, якая будзе адчынена для ўсіх, хто цікавіцца мастацтвам.

*Кацярына Лаўрыненка*

*Фотарэпрадукцыі Анатоля Бандарчука-Вошлава.*

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел V
## Эрас, або каханне

Адмовіцца заглыбіцца ў каханне цалкам і памятаць пра лёгкасць, нават калі ўсё вельмі сур'ёзна — гэта асабліва важна ў сувязі з тым станам, у які магутнасць Венеры прыводзіць большасць (спадзяюся, што не ўсіх) закаханых. У мужчыну, хоць і ненадоўга, абуджаецца надзвычайная дэспатычнасць, уладарнасць, уласцівая заваёўніку ці захопніку, а ў жанчыне — у такой жа празмернай ступені — падданасць і ахвярнасць. Гэтым бывае абумоўленая жорсткасць і бязлітаснасць любоўных гульняў: «балючае і жаданае любоўнае сціскание», як у Шэкспіра[42]. Як могуць нармальныя людзі нават падумаць пра гэта? Як хрысціяне могуць сабе гэта дазволіць?

Я лічу, што гэта можа быць бясшкодным і бяскрыўдным пры адной умове. Неабходна ўсведамляць, што ў каханні мы сутыкаемся з пэўнага роду «язычніцкім сакрамэнтам». У сяброўстве, як мы гаварылі, кожны выступае выключна самім сабою, асобаю, індывідуальнаю адзінкаю. Але ў каханні мы — не толькі мы самі, а прадстаўнікі нечага іншага. Гэта не прыніжэнне, а ўзбагачэнне — усведамляць, што праз нас дзейнічаюць сілы, больш даўнія за нас і менш асабовыя. На імгненне мы становімся кропкаю, у якой факусіруюцца мужчынскасць і жаноцкасць свету, тое, што заваёўвае, і тое, што паддаецца. Мужчына грае ролю неба-айца, жанчына — зямлі-маці, ён увасабляе форму, яна — матэрыю. Мы мусім надаваць тут адпаведнае глыбокае значэнне выразу «грае ролю». Ён ні ў якім разе не азначае «быць крывадушным, прыкідвацца». Мы прымаем удзел, граем — з аднаго боку, у містэрыі, абрадзе, а з іншага боку — у маскарадзе або нават шарадзе.

Жанчына, успрымаючы як рэальнасць ролю поўнай ахвярнасці, становіцца ідалапаклонніцаю, аддае чалавеку тое, што належыць аднаму Богу. Мужчына, усур'ёз прэтэндуючы на ўладу, да вяршыняў якой каханне на нейкі час узносіць яго, звычайнага чалавека, паводзіць сябе як самы фанабэрысты блазан і да таго ж блюзнерца. Але калі на законных падставах немагчыма патрабаваць нечага або згадзіцца на нешта, гэта на законных падставах можна абыграць. Па-за абрадам, па-за спектаклем ён і яна — дзве несмяротныя душы, дзве вольнанароджаныя дарослыя асобы, два грамадзяніна. Мы, хутчэй за ўсё, памылімся, калі палічым, што сужэнствы, дзе ўладарнасць мужа вельмі моцна выяўляецца і прызнаецца ў любоўным акце, характарызуюцца гэткімі ж дамінантнымі адносінамі і ў іншых сферах сямейнага жыцця, больш імаверна нават, што ўсё наадварот. Але ўнутры абраду і пастаноўкі двое становяцца богам і багіняю, між імі няма роўнасці, і ў адносінах няма сіметрыі.

Некаторыя палічаць дзіўным, што я знаходжу элемент абраду або маскараду ў дзеянні, якое часам лічыцца самым рэальным, самым шчырым і абсалютна непадробным з усіх. Ці ж мы не найбольш з'яўляемся самімі сабою, калі аголеныя? У пэўным сэнсе — не. Само слова «аголены» — дзеепрыметнік мінулага часу, аголены чалавек — той, якога агалілі, аблупілі або знялі скурку, як у арэха або плода. З незапамятных часоў нашыя продкі лічылі, што аголены чалавек выглядае ненатуральна, ненармальна. Гэта не той, хто не пажадаў апранацца, а той, каго з нейкіх прычынаў распранулі. Лёгка заўважыць, напрыклад, у мужчынскай лазні, што аголенасць падкрэслівае агульначалавечае і сцірае індывідуальнае. У гэтым сэнсе мы больш з'яўляемся самі сабою, калі апранутыя. Распрануўшыся, каханкі перастаюць быць выключна Янам і Марыяй, у іх узрастае ўніверсальнае «Ён» і «Яна». Можна сказаць, што яны апранаюцца ў аголенасць, як у цырыманіяльны ўбор або ў касцюм, гуляючы ў шарады. Але ўсё адно трэба асцерагацца, каб не стаць памылкова сур'ёзнымі, асабліва тады, калі мы прымаем удзел у язычніцкім сакрамэнце нашых любошчаў. Неба-айцец — толькі язычніцкая мара пра Таго, Хто нашмат магутнейшы за Зеўса і нашмат больш мужны за мужчыну. А смяротны чалавек — нават не неба-айцец і не можа надзець на сябе гэтую карону. Ён носіць толькі яе падабенства, выразанае з бліскучай паперы. Я не кажу пра ўсё гэта з пагардаю. Мне падабаюцца абрады, я люблю хатнія тэатральныя пастаноўкі, мне мілая нават гульня ў шарады. Папяровымі каронамі можна карыстацца як сапраўднымі і (у адпаведным кантэксце) з сур'ёзнымі мэтамі. У рэшце рэшт яны не нашмат больш недаўгавечныя, «калі ім дапаможа ўяўленне»[43], за любыя іншыя зямныя знакі ўлады і велічы.

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

Але я не магу разважаць пра язычніцкі сакрамэнт, не падкрэсліваючы, не перасцерагаючы ад небяспекі пераблытаць яго з непараўнальна вышэйшаю таямніцаю і сакрамэнтам. Прырода каранує мужчыну ў адным кароткім дзеянні, хрысціянскі закон каранує яго ў сталых адносінах сужэнства, даючы ў дар (а можа, варта сказаць, навязваючы яму?) такую ўладу. Гэта зусім іншая каранацыя. Мы можам лёгка памыліцца, занадта сур'ёзна ўспрыняўшы прыродную таямніцу, і гэтак жа можам паставіцца да хрысціянскай таямніцы недастаткова сур'ёзна. Пісьменнікі хрысціяне (асабліва Мільтан) часам гавораць пра ўладу мужа з такім самазадавальненнем, што кроў у жылах стыне. Трэба ізноў звярнуцца да Святога Пісання. Муж кіруе жонкаю толькі ў той меры, у якой Хрыстус кіруе Касцёлам. Ён мусіць любіць яе, як Хрыстус палюбіў Касцёл і, чытаем, «аддаў сябе за яго» (Эф 5, 25). Такім чынам, падобная ўлада найпаўней ўвасабляецца не ў тых мужах, якімі мы ўсе павінны імкнуцца стаць, а ў тых, чыё сужэнства больш падобнае да ўкрыжавання, дзе жонка атрымлівае шмат, а дае мала, дзе яна зусім нявартая свайго мужа і па самой сваёй натуры менш здольная любіць. Бо ў Касцёле няма іншай прыгажосці, апроч той, якой надзяляе Жаніх, Ён не атрымлівае, а сам робіць Касцёл прыгажуняю. Намашчэнне на гэтае жудаснае валадарства выяўляецца для мужа не ў радасцях сужэнства, а ў яго смутках, у слабасці і пакутах добрай жонкі і хібах дрэннай, у яго нястомнай і заўжды сапраўднай апецы і ў яго невычэрпнай здольнасці прабачаць: прабачаць, а не згаджацца на злое. Як Хрыстус бачыць у заганным, ганарлівым, фанатычным, вялым і абыякавым зямным Касцёле тую Нявесту, што аднойчы стане перад ім без адзінай плямы і заганы, і дзейнічае, каб зрабіць Касцёл менавіта такім, гэтак жа і муж, чыя ўлада падобная да ўлады Хрыстовай (а іншай яму і не дадзена), ніколі не адчайваецца. Ён — кароль Кафетуа, які і праз дваццаць гадоў усё яшчэ спадзяецца, што дзяўчынка-жабрачка аднойчы перастане хлусіць і пачне мыць за вушамі.

Гаворачы пра гэта, я зусім не маю на ўвазе, што можа быць мудра або годна стварыць сужэнства, заснаванае на такіх пакутах. Няма ні мудрасці, ні годнасці ў тым, каб шукаць непатрэбнага мучаніцтва або наўмысна набівацца на ганенне і пераслед. Але, тым не менш, у праследаваным і пакутуючым хрысціяніне найбольш ясна ўвасабляецца вобраз яго Пана. Такім чынам, у гэтых жудасных сужэнствах, калі яны ўжо займелі месца, «валадарства» мужа, калі ён толькі здолее яго стрываць, найбольш падобнае да Хрыстовага.

Самая заўзятая феміністка не павінна зайздросціць майму полу і кароне, ускладзенай на мужчынаў язычніцкім або хрысціянскім сакрамэнтам, бо адна з іх — папяровая, а другая — цярновая. Сапраўдная небяспека не ў тым, што мужы занадта ахвотна ўхопяцца за другую карону, а ў тым, што яны дазволяць жонкам або прымусяць іх забраць яе сабе.

Ад Венеры-жарсці, пачуццёвага складніка Эрасу-кахання, я звярнуся цяпер да Эрасу ў цэлым. Тут паўтараецца тая самая схема. Як Венера ў межах Эрасу насамрэч не ставіць сабе за мэту атрымаць задавальненне, гэтак жа і Эрас не ставіць сабе за мэту шчасце. Мы можам думаць, што ставіць, але досвед даказвае нам іншае. Кожны ведае, што бессэнсоўна спрабаваць разлучыць каханкаў, даводзячы ім, што іх сужэнства будзе нешчаслівым. Не толькі таму, што яны вам не павераць. Часцей за ўсё, яны і праўда не вераць. Але нават калі і вераць, гэта не пераканае іх разысціся, таму што найвыразнейшая прыкмета кахання менавіта ў тым, што закаханы лепш раздзеліць няшчасце з каханаю асобаю, чым згодзіцца быць шчаслівым на любых іншых умовах. Нават калі абое каханкі — сталыя і дасведчаныя людзі, якія цудоўна ведаюць, што разбітыя сэрцы ў рэшцэ рэшт загойваюцца, і ясна прадбачаць, што, рашуча прымусіўшы сябе прайсці праз агонію расстання, яны гадоў праз дзесяць амаль абавязкова дасягнуць большага шчасця, чым гэтае сужэнства ў прынцыпе здольнае ім даць, нават тады яны ўсё ж не разлучацца. Для Эрасу ўсе гэтыя разлікі неістотныя, гэтак жа, як халодныя жорсткія суджэнні Лукрэцыя неістотныя для Венеры. Нават калі ўжо не атрымліваецца адпірацца, бо цалкам зразумела, што сужэнства з каханаю асобаю ніколі не будзе шчаслівым, калі гэты саюз нават прэтэндаваць не можа на тое, каб прапанаваць у жыцці нешта іншае, апроч апекі над невылечным інвалідам, безнадзейнай беднасці, выгнання, прыніжэння і ганьбы, Эрас без ваганняў скажа: «Усё гэта лепш, чым расстанне. Лепш быць няшчасным з ёю, чым шчаслівым без яе. Няхай нашыя сэрцы разаб'юцца, але яны разаб'юцца разам». Калі наш унутраны голас гэтак не гаворыць, значыць гэта не голас Эрасу.

Вось веліч і жуда любові. Але звярніце ўвагу на тое, што, як і раней, поруч з веліччу ідзе гуллівасць. Каханне, як і жарсць, заўжды з'яўляецца прадметам бясконцых жартаў. Нават калі абставіны, у якіх апынаюцца закаханыя, настолькі трагічныя, што назіральнікі не могуць стрымаць слёзы, яны самі — у патрэбе, у шпітальнай палаце, падчас візіту ў вязніцу — час ад часу нечакана напаўняюцца радасцю, якая глыбока ўражвае выпадковага гледача (але не іх) сваёю невыноснаю кранальнасцю. Мы вельмі памыляемся, думаючы, што насмешка заўсёды бывае зласліваю. Пакуль у каханкаў не з'явіцца дзіця, з якога можна пасмейвацца, яны заўжды смяюцца адно з аднаго.

Менавіта ў велічы Эрасу хаваецца зерне не-

бяспекі. Каханне прамаўляе як бог. Яго поўная адданасць, безразважнае грэбаванне асабістым шчасцем, тое, як яно выходзіць за межы сябелюбства, гучыць як пасланне з вечнага свету.

Аднак жа каханне не можа само па сабе, такім, якое ёсць, стаць голасам Бога. Бо Эрас, прамаўляючы так велічна і дэманструючы выхад па-за межы сябе, можа заахвоціць закаханага як да добрага, так і да злога. Вельмі павярхоўна было б лічыць, што пачуццё, якое схіляе да граху, заўсёды ніжэйшай якасці, больш жывёльнае або нязначна-дробнае, чым тое, што вядзе да вернага, плённага хрысціянскага сужэнскага саюзу. Любоў, што стварае саюзы, поўныя жорсткасці, клятвапарушэнняў, якія змушаюць да самазабойстваў і даводзяць да забойстваў, не заўсёды бывае проста неўпарадкаванаю жарсцю або марнымі сантыментамі. З гэткай жа імавернасцю гэта можа быць высокае каханне, што ўзнікае ва ўсім сваім бляску, ва ўсёй сваёй неімавернай да болю шчырасці, гатовае на любую ахвяру, апроч адрачэння.

Некаторыя філасофскія школы лічылі, што голас Эрасу пераўзыходзіць усе межы, і гэта апраўдвае абсалютнасць яго загадаў. Платон лічыў, што каханне — гэта калі на зямлі душы пазнаюць адна адну пасля таго, як былі разлучаныя ў папярэднім, нябесным існаванні. Сустрэць каханую асобу — значыць зразумець, што «мы кахалі яшчэ да нараджэння». Гэта цудоўная алегорыя, якая раз'ясняе нам пачуцці закаханых. Але, прыняўшы яе за літаральную праўду, мы сутыкнемся з цяжкасцямі і збянтэжанасцю, бо трэба будзе прызнаць, што ў тым нябесным забытым жыцці справы ішлі не лепш, чым тут, на зямлі, бо Эрас можа звязаць мужоў і жонак, якія зусім не падыходзяць адно аднаму. Мноства нешчаслівых (і гэтае няшчасце можна было прадбачыць) сужэнстваў былі заключаныя па ўзаемным каханні.

У нашыя часы часцей прымаюць за праўду тэорыю, якую можна назваць тэорыяй Шоў. Сам Шоў назваў бы яе «метабіялагічным» рамантызмам. Паводле рамантызму Шоў, голас Эрасу — гэта голас *élan vital,* жыццёвай сілы, «інстынктыўнай патрэбы эвалюцыі». Апаноўваючы тую ці іншую пару, гэтая сіла шукае бацькоў (або продкаў) для з'яўлення звышчалавека. Яна абыякавая і да асабістага шчасця гэтых людзей, і да правілаў маралі, бо мае за мэту тое, што Шоў лічыць нашмат больш важным: будучае ўдасканальванне нашага біялагічнага віду. Але, калі б гэта было праўдаю, усё адно застаецца незразумелым, ці мы павінны, і, калі так, чаму мы павінны, слухацца гэтай сілы. Усе вобразы звышчалавека, якія нам малявалі да гэтай пары, настолькі агідныя, што хочацца адразу прыняць цэлібат, каб толькі пазбегнуць рызыкі зачаць падобную істоту. Па-другое, гэтая тэорыя непазбежна вядзе да высноваў, што жыццёвая сіла не вельмі добра разумее сваю ўласную справу. Дагэтуль, нават калі мы бачым моцнае каханне паміж двума асобамі, гэта не гарантуе, што іх дзеці будуць «добрага гатунку», і нават не гарантуе, што ў іх наогул будуць дзеці. Двое добрых «пародзістых вытворцаў» (як кажуць у жывёлагадоўлі), а не двое добрых каханкаў — вось гарантыя нарадзіць удалых дзяцей. І наогул, у якіх краях блукала гэтая жыццёвая сіла на працягу безлічы пакаленняў, калі нараджэнне дзяцей вельмі рэдка адбывалася ва ўзаемным каханні і вельмі часта — у сужэнствах па дамоўленасці, у нявольніцтве і гвалце? Ці ў яе толькі нядаўна з'явілася гэтая прыўкрасная ідэя паляпшэння чалавечага віду?

Хрысціяніну не дапаможа тэорыя трансцэндэнтнасці Эрасу паводле Платона або Шоў. Мы не пакланяемся жыццёвай сіле і нічога не ведаем пра сваё ранейшае існаванне. Мы не мусім безумоўна падпарадкоўвацца голасу кахання, калі яно прамаўляе да нас як боства. Аднак мы не можам таксама ігнараваць яго або адмаўляць яму ў богападабенстве. Гэты від любові насамрэч падобны да самой Любові. У ім ёсць сапраўдная блізкасць да Бога (паводле падабенства), і, адпаведна, ніякім чынам няма блізкасці праз набліжэнне. Эрас, калі яго ўшаноўваць, не забываючы пра любоў да Бога і міласэрнасць да бліжняга, можа стаць для нас сродкам набліжэння. Поўная адданасць, уласцівая каханню, — гэта ўбудаваная ў саму нашую прыроду парадыгма або ўзор любові, якую мы мусім выказваць Богу і іншым людзям. Як для тых, хто любіць прыроду, прырода напаўняе зместам паняцце «слава», гэтак жа каханне напаўняе зместам слова «міласэрнасць». Быццам бы сам Хрыстус прамаўляе да нас праз Эрас: «Адпаведна гэтак жа, з такою ж шчодрасцю, без розніку, вы мусіце любіць Мяне і найменшых з Маіх братоў». Ушанаванне кахання абумоўленае для нас рознымі чыннікамі, і, зразумела, залежыць ад абставінаў. Некаторыя мусяць цалкам адмовіцца ад Эрасу (але не пагарджаць ім). Некаторыя, выкарыстоўваючы каханне як паліва і мадэль для свайго сужэнства, могуць узяць шлюб. Але аднаго Эрасу для гэтага будзе недастаткова, каханне застанецца жыццяздольным толькі тады, калі яго няспынна стрымліваць і падмацоўваць больш высокімі прынцыпамі.

Эрас, якому бязмежна пакланяюцца і якога безумоўна слухаюцца, становіцца дэманам. Але менавіта такіх пакланення і паслухмянасці ён патрабуе. Богападобна абыякавае да вымаганняў чалавечага эгаізму, каханне дэманічна паўстае супраць любых вымаганняў Бога і чалавека, калі яны пярэчаць яму. Як казаў паэт:

*Закаханых людзей дабрыня не ўзрушыць,*
*Супраціў іх, пакутнікаў, раніць балюча.*

«Пакутнікі» — вельмі дакладнае слова. Некалі даўно, пішучы пра сярэднявечную любоўную

паэзію, я звяртаў увагу на ўласцівы ёй дзіўны, напалову выдуманы «культ любові» і быў настолькі сляпы, каб паставіцца да яго як да чыстага літаратурнага феномена. Цяпер я лепш дасведчаны. Эрас па сваёй уласнай натуры вітае падобнае пакланенне. З усіх відаў любові каханне, на сваёй вяршыні, найбольш богападобнае, таму найбольш схільнае патрабаваць ад нас пакланення. Эрас па сутнасці імкнецца ператварыць каханне ў культ.

Тэолагі заўжды баяліся ў каханні пагрозы ідалапаклонства. Мне здаецца, яны мелі на ўвазе, што каханкі схільныя абагаўляць адно аднаго. Я не лічу гэта рэальнаю пагрозаю, не ў сужэнстве — дык дакладна. Мілая і простая будзённасць, практычныя звычкі сямейнага жыцця робяць падобнае пакланенне абсурдным, гэтак жа, як і прыязнасць, якая амаль заўжды атуляе каханне сужэнцаў. Я вельмі сумняваюся, што нават у рамантычны перыяд заляцанняў той, хто хоць раз адчуваў тугу па Вечным або хаця б марыў яе адчуць, дапусціць думку, што каханая можа задаволіць гэтую тугу. Як пілігрым-паплечнік, якога пранізвае такое самае імкненне, як сапраўдны сябра, каханая можа стаць выдатным і важным памочнікам у гэтай справе, але яна сама ў якасці аб'екта, на які скіраваная гэтая надпрыродная туга, будзе выглядаць (прабачце за грубасць) проста як ідыётка. Мне здаецца, што сапраўдная небяспека не ў тым, што каханкі пачнуць абагаўляць адно аднаго, а ў тым, што яны пачнуць абагаўляць само каханне.

Зразумела, я не маю на ўвазе, што яны пачнуць будаваць Эрасу алтары і чытаць малітвы. Ідалапаклонства, пра якое я кажу, можна заўважыць у вельмі распаўсюджанай памылцы, з якою інтэрпрэтуюць словы Хрыста: «Даруюцца ёй грахі многія, таму што яна вельмі палюбіла» (гл. Лк 7, 47). З кантэксту, асабліва з прыпавесці пра даўжнікоў, якую Езус распавядае перад гэтымі словамі, становіцца зразумела, што яны павінны значыць: «Яе вялікая любоў да Мяне сведчыць пра тое, наколькі вялікія грахі, якія Я прабачыў ёй». (Словы «таму што» ў кантэксце фразы маюць тое ж значэнне, што і ў такім прыкладзе: «Ён, мусіць, яшчэ не выйшаў з хаты, таму што яго капялюш яшчэ ляжыць пры ўваходзе». Тое, што яго капялюш яшчэ ляжыць, з'яўляецца не прычынаю таго, што ён яшчэ ў хаце, а доказам таго, што ён яшчэ тут.) Але мноства людзей разумеюць словы Хрыста зусім інакш. Па-першае, яны невядома з якой прычыны лічаць, што грахі той жанчыны абавязкова звязаныя з блудам, хаця з гэткай жа імавернасцю яна магла пазычаць грошы пад вялікі працэнт або несумленна займацца гандлем, або быць жорсткаю з дзецьмі. І далей яны так інтэрпрэтуюць словы Пана: «Я прабачаю ёй распусту, таму што яна была вельмі моцна закаханая». Атрымліваецца, што вялікае каханне апраўдвае і амаль дазваляе — амаль асвячае — любыя дзеянні, прычынаю якіх становіцца.

Заўважце, якім тонам закаханыя кажуць пра ганебны ўчынак: «Мы зрабілі так, таму што кахаем». «Я зрабіў так, бо баяўся», ці «Я зрабіў так, бо разззлаваўся», — чалавек кажа зусім інакш. Ён гаворыць, вылучаючы прычыну, якая можа яго апраўдаць, бо адчувае, што яму неабходнае прабачэнне. А закаханыя рэдка так робяць. Заўважце, з якім хваляваннем, з амаль рэлігійнаю палкасцю яны вымаўляюць слова «каханне». Яны не хадайнічаюць перад судом, нагадваючы пра «змякчальныя акалічнасці», а нібыта апелююць да закону. Споведзь амаль ператвараецца ў пахвальбу, нават з адценнем выкліку. Яны сапраўды лічаць сябе пакутнікамі. У самых крайніх выпадках словы закаханых сапраўды з'яўляюцца выразам спакойнай і сур'ёзнай, але непахіснай вернасці богу кахання.

«Паводле законаў кахання ўсё гэта будзе годна», — кажа Даліла ў Мільтана. У гэтым увесь цымус: «паводле законаў кахання». «У каханні» мы маем «свае законы», уласную рэлігію, свайго ўласнага «бога». Там, дзе ёсць сапраўдны Эрас, супраціў яго загадам адчуваецца як адступніцтва, здрада, а тое, што па-хрысціянску называецца спакусамі, набывае ў каханні голас абавязкаў, амаль рэлігійных абавязкаў, выяваў пабожнага і палкага служэння каханню. Эрас выбудоўвае вакол каханкаў сваю рэлігію. Бэнжамен Канстант[44] зазначыў, што каханне за некалькі тыдняў ці месяцаў стварае для дваіх агульнае мінулае, якое, як здаецца закаханым, доўжыцца са спрадвечных часоў. Яны бясконца звяртаюцца да яго з захапленнем і пашанаю, як псальміст да гісторыі Ізраэля. Гэтае мінулае — Стары Запавет у рэлігіі кахання, летапіс прысудаў і міласцяў Эрасу да выбранай пары аж да таго моманту, калі яны зразумелі, што кахаюць адно аднаго. Тады пачынаецца іх Новы Запавет. Цяпер яны падпарадкуюцца новаму закону — таму, які ў іх рэлігіі адпавядае Боскай ласцы. Яны — новыя стварэнні. «Дух» Эрасу пераўзыходзіць усе іншыя законы, і яны не маюць права яго «засмучаць».

Для іх каханне апраўдвае любыя ўчынкі, на якія яны без яго не адважыліся б. Я не маю на ўвазе толькі тыя (або ў асноўным тыя), што закранаюць цнатлівасць. У роўнай меры гэта ўчынкі несправядлівасці або неміласэрнасці да ўсіх, хто «ў знешнім» свеце. Яны ўспрымаюцца як доказы адданага і заўзятага кахання. Закаханыя могуць сказаць адно аднаму з амаль фанатычным ахвярным агнём у голасе: «Дзеля кахання я забыўся пра сваіх бацькоў, я пакінуў сваіх дзяцей, падмануў свайго партнёра, пакінуў сябра ў вялікай патрэбе». Усё гэта годна паводле законаў кахання. Вызнаўцы рэлігіі Эрасу могуць нават адчуваць асаблівую заслугу ў падобных ахвярах, бо які дар, ускла-

дзены на алтар кахання, можа быць даражэйшы за ўласнае сумленне?

У той жа час Эрас жорстка жартуе са сваімі адэптамі, бо, прамаўляючы, здавалася б, з берагоў вечнасці, каханне застаецца зменлівым пачуццём. Яно — самае крохкае з усіх відаў любові. Свет гудзе ад скаргаў пра непастаянства кахання. Дзівіць і бянтэжыць, як спалучаюцца ў каханні гэтая зменлівасць і ўрачыстыя запэўненні ў тым, што яно будзе вечным. Закахацца — значыць імкнуцца і абяцаць быць верным некаму ўсё жыццё. Закаханы прыносіць клятвы тады, калі яго пра гэта не просяць, і ніяк не можа ўстрымацца ад гэтага. «Так будзе заўжды, гэта сапраўднае» — амаль адразу скажа закаханы, і скажа шчыра, не крывадушнічаючы. Ніякі досвед не здольны пазбавіць ад гэтай ілюзіі. Усе мы ведаем людзей, нанова закаханых праз кожныя пару гадоў, і кожны раз яны шчыра ўпэўненыя, што «цяпер усё па праўдзе», што іх блуканні завяршыліся і яны знайшлі сапраўднае каханне, і будуць верныя адно аднаму да смерці.

Аднак у пэўным сэнсе Эрас мае права даваць такія абяцанні. Каханне мае такую прыроду, што мы маем рацыю, не дапускаючы нават думкі пра тое, што яно праміне. Адным скачком каханне пераадолела высачэзную сцяну нашага эгаізму,ператварыла прагавітасць у альтруізм, адкінула асабістае шчасце прэч як нешта нязначнае і цвёрда паставіла інтарэсы іншага чалавека ў цэнтр нашага існавання. Нечакана і без аніякіх высілкаў мы выканалі ў адносінах да аднаго канкрэтнага чалавека запаведзь любіць бліжняга, як сябе самога. Гэта вобраз, прадчуванне таго, якімі мы мусім стаць, калі Бог, які ёсць Любоў, запануе ў нас бязмежна. Каханне можа быць нават (калі скарыстацца ім правільна) падрыхтоўкаю да гэтага. Проста «выпасці» з яго, «раскахаць», гэта падобна да — дазвольце назваць гэта не вельмі прыгожым прыдуманым словам — «разадкуплення». Эрас вымушаны абяцаць тое, што сам выканаць не ў стане.

Ці магчыма для нас знаходзіцца ў гэтым стане неэгаістычнай свабоды ўсё жыццё? Ды хоць бы тыдзень пратрымацца! Нават у самых шчырых каханкаў гэты ўзнёслы стан мінае. Нешта падобнае мы перажываем і пасля навяртання да веры: старое «эга» аказваецца зусім не памерлым, як здавалася б. І там, і там «эга» можна збіць з ног і пакласці на лапаткі, але хутка яно зноў выпрастаецца, і калі нават не ўстане адразу на ногі, то, прынамсі, прыўзнімецца на локцях, калі няздольнае будзе раўсці ва ўсю сілу, то працягне пахмурна бурчэць і па-жабрачы скавытаць. А Венера часта можа скаціцца назад да адной толькі сексуальнай пажадлівасці.

Але такія памылкі і падзенні не змогуць зруйнаваць сужэнства дваіх «годных і разважлівых» людзей. Калі яны ставяць сужэнства пад пагрозу і, магчыма, руйнуюць, значыць пара абагаўляла сваё каханне. Яны палічылі, што Эрас мае ўладу і праўдзівасць Бога. Яны чакалі, што адно толькі пачуццё назаўжды дасць ім тое, што ім патрэбна. Калі гэтыя чаканні не апраўдваюцца, людзі пачынаюць вінаваціць само каханне або, часцей, сваю пару. Насамрэч задача Эрасу, які прынёс свае велізарныя абяцанні і на адно імгненне бліскавічна паказаў вам, да чаго падобнае спаўненне гэтага абяцання, на гэтым выкананая. Ён, як хросны бацька, прынёс прысягу, але выконваць яе мусім мы. Мы павінны працаваць, каб зрабіць сваё штодзённае жыццё як мага больш блізкім да таго, што мільгнула перад намі ў тым бліскавічным адкрыцці. Мы павінны выконваць працу Эрасу, калі самога Эрасу ўжо няма. Добрыя закаханыя ведаюць усё гэта, а тыя з іх, хто не схільны да рэфлексіі або не вельмі добра ўмее выказваць свае думкі, скажуць ўсяго некалькі агульнапрынятых фразаў, накшталт «любіш ездзіць — любі і саначкі цягаць», «не трэба чакаць зашмат», варта мець «хоць кроплю здаровага розуму» і гэтак далей. І ўсе добрыя закаханыя хрысціяне ведаюць, што гэтую задачу, якою б сціплаю яна ні выглядала, можна выканаць толькі з дапамогаю пакоры, міласэрнасці і Божай ласкі, бо гэта па сутнасці і ёсць жыццё хрысціяніна з адной канкрэтнай перспектывы.

Такім чынам Эрас, як і іншыя віды любові, адкрывае сваё праўдзівае аблічча, і яно ашаламляе нас больш за іншыя з прычыны сваёй магутнасці, слодычы, грознасці і ўзвышанасці. Але каханне не можа аднымі сваімі сіламі зрабіцца тым, чым мусіць зрабіцца. Яму патрэбны дапамога, кіраванне. Боства Эрасу памірае або становіцца дэманам, калі толькі не падпарадкуецца Богу. Добра, калі каханне проста памірае. Але яно можа жыць, бязлітасна скаваўшы разам двух людзей, якія катуюць адно аднаго, перапоўненыя ўшчэнт атрутаю сваёй любові-нянавісці, калі кожны з усіх сілаў прагне забраць і няўмольна адмаўляецца хоць нешта даць, калі кожны раўнуе, падазрае, абураецца і крыўдуе, змагаецца за ўладу, рашуча імкнецца быць вольным і не даваць волі, падсілкоўваючыся скандаламі. Пачытайце «Ганну Карэніну» і не спадзявайцеся, што такое можа адбыцца толькі ў Расіі. Той збіты шаблонны выраз, калі каханкі гавораць, што «з'елі б» адно аднаго, можа стаць жудасна блізкім да праўды.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*

Паводле: «*The Four Loves*», *C. S. Lewis*, 1958.

*Працяг будзе.*

---

[42] Шэкспір, «Антоній і Клеапатра», акт 5, сцэна 2.
[43] Шэкспір, «Сон у Іванаву ноч», акт 5, сцэна 1.
[44] Бэнжамен Канстант (*Benjamin Constant*, 1767–1830) — французска-швейцарскі палітык і пісьменнік.

# Вера як сродак пазнання Бога

## *Ад перакладчыка*

Святы Ян ад Крыжа. Гравюра XVIII ст.



Другая кніга «Узыходу на гару Кармэль» святога Яна ад Крыжа прысвечана дзейнай *цёмнай ночы духу*. Пасля таго, як у першай кнізе аўтар растлумачыў, што трэба зрабіць, каб увайсці ў *цёмную ноч пачуццяў* і прайсці праз яе, ачысціўшыся ад усіх пачуццяў і жаданняў, у наступнай кнізе святы тлумачыць, якім чынам душа павінна ачысціць свае пачуцці — уяўленне і фантазію, а таксама духоўную пазнавальную здольнасць розуму ад усіх вобразаў, уяўленняў, паняццяў, ведаў, каб увайсці ў цёмную ноч духу, абапіраючыся выключна на веру. Іншымі словамі, іспанскі містык тлумачыць, як ачысціць і спустошыць пазнавальныя здольнасці душы ад усіх матэрыяльных прадметаў, якія не вядуць да любоўнага пазнання Бога.

Для таго, каб чытанне аўтарскага тэксту было больш лёгкім і зразумелым, неабходна даць кароткае тлумачэнне гнасеалагічнай канцэпцыі асобы, на якую абапіраецца святы Ян ад Крыжа. Маецца на ўвазе філасофская канцэпцыя пазнання Арыстоцеля і Святога Тамаша Аквінскага, паводле якой чалавек не мае ў сабе ніякіх прыроджаных ведаў і ўсё, што ён пазнае, пазнае звонку. Гэта значыць, што чалавек можа пазнаць толькі вонкавыя матэрыяльныя прадметы з дапамогаю пяці цялесных пачуццяў: зроку, слыху, нюху, дотыку і густу. Яны таксама называюцца *вонкавымі пачуццёвымі здольнасцямі* пазнання. Паколькі матэрыяльныя прадметы канкрэтныя і частковыя, то і пачуццёвае пазнанне канкрэтнае і частковае ў адрозненне ад абстрактнага і агульнага.

Усё тое, што пазнаецца з дапамогаю вонкавых пачуццёвых здольнасцяў, адпаведна іх прыродзе (зрок пазнае бачны аспект рэчаў, слых — гукавы аспект і гэтак далей), перайначваецца ў *выявы, формы і фігуры* (*phantasmata*), якія, паводле антрапалогіі св. Тамаша, знаходзяцца ва ўнутраных пачуццях ці ва *ўнутраных пачуццёвых здольнасцях — уяўленні і фантазіі*, як у своеасаблівай ёмкасці. Напрыклад, калі мы бачым нейкі прадмет, няхай гэта будзе стол, і проста заплюшчым вочы, мы можам уявіць форму стала. Тое ж адбываецца і з гукамі, пахамі, смакамі і дотыкавымі ўспрыманнямі. Дзякуючы такім унутраным пачуццёвым здольнасцям, як уяўленне і фантазія, чалавек можа ствараць вобразы, рабіць параўнанні, мець асацыяцыі і гэтак далей. Але ўсе гэтыя выявы і вобразы нясуць на сабе адбітак пачуццёвасці, а значыць матэрыяльнасці і, як вынік, яны таксама канкрэтныя і частковыя.

На наступнай ступені пазнання *розум ці інтэлект* з гэтых выяваў, формаў і фігураў абстрагуе паняцці і далей праз меркаванне і рацыянальнае разважанне выпрацоўвае веды і разуменне. Паняцці, суджэнні і веды, паколькі яны

абстрагаваныя ад канкрэтных матэрыяльных аспектаў, з'яўляюцца агульнымі і ўніверсальнымі. Нягледзячы на гэта, яны таксама маюць абмежаванасць, паколькі яны паходзяць выключна з вонкавага досведу, гэта значыць з пачуццёвага матэрыяльнага ўспрымання.

Святы Ян ад Крыжа ў адпаведнасці з гэтай канцэпцыяй пазнання тлумачыць, чаму душа павінна вызваляць свае ўнутраныя пачуццёвыя здольнасці ад усіх уяўленняў, выяваў і вобразаў, а свой розум — ад усіх паняццяў, ведаў і разуменняў. Маюцца на ўвазе не ўсялякія выявы ці паняцці, а тыя, што датычаць пазнання Бога, бо святы звяртаецца да духоўных асобаў, гэта значыць да тых асобаў, якія ўступілі на шлях духоўнага жыцця, мэтаю якога з'яўляецца злучэнне з Богам. Ягонае вучэнне прызначана для іх як кіраўніцтва на шляху пазнання і любоўнага паяднання з Богам.

Паколькі Бог — гэта чысты Дух, нашыя пазнавальныя здольнасці ў гэтым жыцці не могуць пазнаць Яго непасрэдна, а толькі апасродкавым чынам, гэта значыць — праз веру, бо паколькі нашае пазнанне звязана з вонкавым матэрыяльным светам і мы пазнаем, у тым ліку і Бога, выкарыстоўваючы вонкавыя і ўнутраныя пачуцці, і толькі ад іх розум атрымлівае інфармацыю, якую выкарыстоўвае для стварэння абстрагаваных агульных ведаў, нашае пазнанне Бога не можа быць дасканалым, бо яно заўсёды нясе ў сабе абмежаванасць матэрыяльнага характару. Адзіны сродак, праз які мы можам па-сапраўднаму пазнаваць Бога, — гэта вера.

Вера — гэта адна з трох тэалагальных цнотаў, якая ўдасканальвае нашую разумовую здольнасць, у той час як *надзея* дасканаліць нашую памяць, а *любоў* — нашую волю, скіроўваючы яе да Бога.

У другой кнізе «Узыходу на гару Кармэль» гаворка ідзе менавіта пра веру як пра непасрэдны і найпрасцейшы сродак пазнання Бога. Вера — гэта звышнатуральная здольнасць — уменне (*habitus*) ці цнота (*virtus*), дадзеная нам Божаю ласкаю ў момант сакрамэнту хросту. Вера — гэта здольнасць пазнання Бога, дадзеная нам самім Богам. Па сваёй прыродзе яна цалкам духоўная, пазбаўленая ўсяго матэрыяльнага, найяснейшая сама па сабе, але для нашага розуму, які пазнае толькі матэрыяльныя рэчы праз вонкавыя і ўнутраныя пачуцці, гэтая здольнасць застаецца цьмянай і невідавочнай. Аднак пазнанне Бога магчыма толькі праз яе. Вось чаму святы Ян ад Крыжа настойвае ў сваёй другой кнізе на неабходнасці вызваляць уяўленне і фантазію, гэта значыць унутраныя пачуццёвыя здольнасці, ад усіх натуральных вобразаў і ўяўленняў Бога, паколькі яны матэрыяльныя і частковыя і не адпавядаюць Божай сутнасці, а таксама заклікае ачысціць свой розум ад усіх натуральных паняццяў і ведаў пра Бога, паколькі яны таксама паходзяць з матэрыяльнага досведу. Паводле святога, калі душа прывязваецца да гэтых вобразаў і паняццяў, яны замінаюць ёй увайсці на сапраўдны шлях злучэння з Богам — гэта значыць на шлях чыстай веры. Такая душа ніколі не дасягне дасканалай чысціні духоўнасці, дзе Бог прамаўляе да яе. Таму ўваход на шлях веры азначае адмаўленне ад уласнага пазнання, спусташэнне сваіх пазнавальных здольнасцяў і згоду ўвайсці ў *змрочную ноч няведання,* што на самай справе з'яўляецца *любоўным агульным пазнаннем Бога*.

Гэтае няведанне ўласцівае гэтаму жыццю. Поўнага ж ведання і бачання Бога душа дасягне толькі тады, калі вызваліцца ад матэрыяльнага цела, гэта значыць — пасля смерці, а ў зямным існаванні душа можа містычна злучыцца з Богам, але толькі праз веру, пагадзіўшыся на адсутнасць рацыянальнага разумення. Гэтая адсутнасць ведаў па сутнасці і ёсць звышразуменнем. Душа павінна зрабіць дзейснае намаганне, каб вызваліць сябе ад усяго, што яна сама можа зразумець пра Бога натуральным чынам, каб застацца ў чуйным няведанні — *цёмнай ночы духу*. І адзіны дзейсны сродак для гэтага — вера.

На старонках другой кнігі «Узыходу на гару Кармэль» святы Ян ад Крыжа тлумачыць, як душа крок за крокам павінна пазбавіцца ад сваіх уласных уяўленняў і ведаў пра Бога, дае парады і прыводзіць слушныя аргументы, узятыя са Святога Пісання, каб дапамагчы духоўным асобам свядома ўступіць на шлях чыстай веры, а гэта значыць — зрабіць усё, каб увайсці ў *цёмную ноч духу*.

*Святлана Грэсві*

---

**Святлана Грэсві** (Святлана Грачухіна) — доктар філасофіі. Нарадзілася ў Мінску. Закончыла гістарычны факультэт мінскага педінстытута, а таксама філасофскі і тэалагічны факультэты Рымскага Папскага ўніверсітэта імя св. Тамаша Аквінскага. Абараніла доктарскую дысертацыю па праблемах метафізікі ў Папскім Латэранскім універсітэце ў Рыме. Аўтар кніг «Крытычны аналіз кампетэнцыйнага падыходу ў адукацыі» (2008), «Філасофска-антрапалагічная мадэль адукацыі» (2009), «Гістарычны і эпістэмалагічны аналіз адукацыйных канструктаў "кампетэнцыя" і "адукацыйная мэта"» (2014). Працуе кансультантам Спецыяльнай камісіі па ўніверсітэцкай акадэмічнай рэформе ў горадзе Кузко (Перу).

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка Цёмнай ночы — ноч духу, што апявае другая страфа песні.**

### РАЗДЗЕЛ 1

**У якім тлумачыцца другая страфа песні.**

***У змроку, з упэўненасцю спусцілася***
***Па таемных сходах, пераапранутая,***
***О шчаслівы лёс!***
***У змроку, нікім не заўважаная,***
***бо дом мой ужо заснуў.***

1. У гэтай другой страфе песні душа апявае свой шчаслівы лёс, бо яна здолела агаліць свой дух і пазбавіцца ўсіх духоўных недасканаласцяў і жадання валодаць духоўнымі рэчамі. І тым больш шчаслівы яе лёс, чым большыя высілкі яна зрабіла, каб усыпіць дом духоўнай часткі душы і ўвайсці ва ўнутраную цемру — гэта значыць у духоўную аголенасць, адкаснуўшыся ад усіх рэчаў, як пачуццёвых, гэтак і духоўных, абапіраючыся толькі на чыстую веру і праз яе ўзыходзячы да Бога. Менавіта таму душа называе веру *таемнымі сходамі*, бо ўсе яе прынцыпы — таемныя, схаваныя для пачуццяў і для розуму. Вось чаму душа занураецца ў суцэльную цемру, у поўную адсутнасць натуральнага святла для пачуццяў і розуму. Яна выходзіць па-за межы прыроды і розуму, каб па гэтай Божай лесвіцы веры ўзысці і пранікнуць у самыя глыбіні Бога.

І таму гаворыцца ў песні *пераапранутая*, бо, узыходзячы па сходах веры, душа змяняе сваю вопратку, свае людскія паводзіны і мэты на Божыя. І з прычыны гэтага пераапранання яе не пазнаюць і не спыняюць ні прамінальныя рэчы, ні рацыянальныя, ні д’ябальскія. Ніводная з гэтых рэчаў не можа пашкодзіць таму, хто крочыць у веры. Больш за тое, душа настолькі схаваная, абароненая і недасяжная для ашуканстваў сатаны, што сапраўды крочыць, як тут гаворыцца, *у змроку, нікім не заўважаная*, бо для д’ябла святло веры цямнейшае за змрок. І таму мы можам сцвердзіць, што душа крочыць таемна і прыхавана, незаўважна для сатаны. Далей гэта стане больш зразумелым.

2. Душа кажа, што яна выйшла *ў змроку з упэўненасцю*. І гэта таму, што той, каму пашчасціла ўвайсці ў *цемру веры*, як мы казалі, рушыць гэтым шляхам вельмі ўпэўнена, бо абапіраецца на веру, як сляпы на павадыра, пакідаючы ў баку ўсе прыродныя вобразы і духоўныя сэнсы.

Душа дадае таксама, што, калі яна выйшла ў ноч, *увесь дом заснуў*, а гэта значыць, што, калі яна дасягае злучэння з Богам, яе духоўная і рацыянальная частка, усе яе прыродныя здольнасці, яе парыванні і пачуццёвыя ўзрушэнні засынаюць. Вось чаму нельга сказаць, што душа выйшла ўзрушаная, як у *першую Ноч пачуццяў*. Бо для таго,

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

каб увайсці ў *Ноч пачуццяў* і агаліцца з усяго пачуццёвага, неабходна было, каб душа ўзрушылася пачуццёваю любоўю. Адначасова, каб усыпіць дом духу, неабходна, каб усе духоўныя здольнасці, упадабанні і жаданні адмовіліся самі ад сябе ў чыстай веры. Як толькі гэта адбудзецца, душа злучыцца з Каханым у простым паяднанні чысціні, любові і падабенства.

3. Неабходна заўважыць, што ў першай страфе, калі гаворыцца, што душа выйшла ў *цёмную ноч*, маецца на ўвазе яе пачуццёвая частка, у другой жа страфе гаворка ідзе пра яе духоўную частку, і гэта яна выходзіць у цемру, паколькі змрок духу значна большы за цемру пачуццяў. Змрок ночы значна цямнейшы за цемру, у якой, нягледзячы на адсутнасць святла, яшчэ можна нешта разгледзець. Але ў змроку нічога не бачна. Такім чынам, у цемры *Ночы пачуццяў* застаецца невялічкае святло, таму што разуменне і розум пакуль не аслепленыя, у той час як на працягу *Ночы духу*, гэта значыць веры, розум і пачуцці пазбаўляюцца ўсялякага святла. І таму гаворыцца, што душа выходзіць *у змроку, але з упэўненасцю*, бо, чым менш яна дзейнічае, выкарыстоўваючы свае прыродныя здольнасці, тым больш упэўнена яна крочыць у веры.

Пра ўсё гэта я буду гаварыць больш падрабязна ў другой кнізе, але неабходна, каб верны чытач вельмі ўважліва сачыў за маімі разважаннямі, бо я буду тлумачыць вельмі важныя рэчы для тых, хто мае сапраўдную духоўнасць. І нават калі гэтыя рэчы трохі цьмяныя, я ўпэўнены, што разуменне адной адкрые шлях да яснага разумення наступных.

## РАЗДЗЕЛ 2

**У якім пачынаецца гаворка пра другую частку Цёмнай ночы і пра яе прычыну — веру, і ў якім з дапамогаю двух разважанняў даводзіцца, што гэтая ноч найбольш змрочная ў параўнанні з першай і трэцяй.**

1. З гэтага моманту я пачну гаварыць пра другую частку *Цёмнай ночы* — веру, якая, як я ўжо казаў, з'яўляецца найвыдатнейшым сродкам для дасягнення мэты, якой ёсць Бог, які з'яўляецца для душы прычынаю трэцяй часткі гэтай ночы.

Вера, як сродак, параўноўваецца тут з поўначчу[1]. Вось чаму можна сказаць, што для душы яна значна больш змрочная, чым першая частка ночы, і пэўным чынам яна таксама змрачнейшая, чым трэцяя яе частка. Бо сапраўды, першая частка, гэта значыць *Ноч пачуццяў*, падобная да прыцемкаў, калі паступова становяцца нябачнымі ўсе пачуццёвыя рэчы, але святло яшчэ не цалкам знікла, як гэта бывае апоўначы. Падчас трэцяй часткі ночы, калі пачынае віднець і набліжаецца дзённае святло, ужо не так змрочна, як апоўначы, бо ўжо зусім блізка яўленне і пазнанне дзённага святла, якое параўноўваецца з Богам. Таму, гаворачы зямною моваю, сапраўды Бог для душы — гэта абсалютная цёмная ноч, гэтаксама, як і вера. Але калі душа пройдзе праз усе тры часткі ночы, якія для душы натуральна з'яўляюцца цемраю, напрыканцы Бог пачынае звышнатуральна асвячаць душу промнем свайго Божага святла, гэта і будзе пачаткам дасканалага злучэння, бо яно адбываецца адразу ж пасля трэцяй часткі ночы, і таму можна сказаць, што гэта апошняя частка менш змрочная.

2. Другая частка ночы больш змрочная, чым першая. Першая ноч датычыць ніжэйшай часткі чалавечай душы — пачуццёвай, і, як вынік, яна больш знешняя. Другая ж частка ночы — ночы веры — датычыць найвышэйшай часткі чалавечай душы — рацыянальнай, і, як вынік, яна больш унутраная, а значыць і больш цёмная, бо яна пазбаўляе душу рацыянальнага святла ці, дакладней кажучы, асляпляе. І таму справядліва параўнаць яе з поўначчу — самым глыбокім і змрочным часам ночы.

3. Цяпер жа я паспрабую прадэманстраваць, якім чынам другая частка ночы з'яўляецца ноччу для духу, падобна як першая яе частка ёсць ноччу для пачуццяў. Далей я таксама скажу, штó гэтай ночы духу перашкаджае і штó душа павінна дзейсна зрабіць, каб увайсці ў яе. І ўжо ў трэцяй кнізе мы пагаворым пра бяздзейнасць душы і пра тое, як Бог дзейнічае ў ёй без яе ўдзелу, каб увесці яе ў цёмную ноч веры.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

---

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

[1] Для іспанскай мовы характэрная гульня словаў, таму паняцце «*el* ***medio***» азначае «сродак», «па*сярэднік*», у той час як «la ***media*** noche» азначае «поўнач», «*сярэдзіна* ночы».



Ксёндз Ян Шуткевіч у сваім доме ў Вільні.

# СВЯТАР ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

У гісторыі ёсць нейкая дзіўная заканамернасць: людзі, дзякуючы якім адраджалася гістарычная памяць і аднаўлялася амаль разарваная сувязь пакаленняў, самі чамусьці заставаліся ў ценю. Так было з дзеячамі эпохі Адраджэння: іх імёны ведае кожны, іх унёсак у духоўную і культурную скарбонку чалавецтва цяжка пераацаніць, але пра іх саміх засталося вельмі мала дакладных звестак, і нават дасведчаныя даследчыкі не могуць сказаць, што гэта былі за асобы ў штодзённым жыцці. А між тым менавіта яны вярнулі Еўропе зніклую памяць пра яе вялікую антычную мінуўшчыну, паказалі яе непаўторную прыгажосць, аднавілі цэласнасць культурнага набытку Старога Свету. Дзякуючы ім тое, што было недаацэнена і занядбана ў часы змрочнага Сярэднявечча, заняло сваё належнае месца ў жыцці людзей, якія па-новаму асэнсавалі сваю чалавечую годнасць, адчулі сябе нашчадкамі вялікай цывілізацыйнай спадчыны і носьбітамі непрамінальных каштоўнасцяў. Развіццё сапраўднага, нескажонага гуманізму стала прадвеснем хрысціянскага персаналізму, які ў пастановах Другога Ватыканскага Сабору і ў вуснах Вялікага Папы-славяніна святога Яна Паўла II прагучаў кароткім і ёмістым маніфестам: «Чалавек — гэта шлях Касцёла».

Хрысціянскі каталіцкі гуманізм у XX стагоддзі быў выпакутаваны ў цяжкім супрацьстаянні з пачварнымі, нялюдскімі ідэалогіямі марксізму-ленінізму і нацызму. Мы добра ведаем, да якіх жахлівых наступстваў прывяло змаганне з найвышэйшымі праявамі чалавечага духу: з непрамінальнымі каштоўнасцямі, з класічнай культурай, са свабодай слова і нават думкі, а перадусім — з верай у Бога і ў вечнае жыццё. Гэтае змаганне, што вялося пад цынічнымі хлуслівымі лозунгамі пабудовы «светлай будучыні», насамрэч мела на мэце поўнае зняволенне чалавека, яго выкарыстанне ў якасці жывой рэчы. Вынікі гэтага змагання на нашай зямлі — разбураныя і апаганеныя святыні, спустошаныя і пазбаўленыя годнасці чалавечыя душы. Сярод такога жудаснага разбурэння, перадусім духоўнага і маральнага, неабходна было пачынаць вялізную, тытанічную працу адбудовы і адраджэння, працу непасільную для слабых чалавечых магчымасцяў, а часта і няўдзячную.

Для гэтай працы былі неабходныя сапраўдныя тытаны духу, сапраўдныя Асобы, людзі маштабу эпохі Адраджэння. І адным з іх па Божай волі і з Божай ласкі стаў ксёндз Ян Шуткевіч — сапраўдны Чалавек і сапраўдны Святар. 4 чэрвеня на 85-м годзе жыцця ён адышоў у вечнасць, і цяпер, калі яго цела спачыла ў задуменнай цішы гродзенскіх могілак ва ўрочышчы Сакрэт, мне застаецца толькі запознена шкадаваць, што ў размовах з ім не распытаўся як след пра яго жыццёвы шлях. Таму, узгадваючы сёння ксяндза Яна, я магу падзяліцца не столькі фактамі з яго біяграфіі, колькі сваімі ўражаннямі ад гэтай яскравай, неардынарнай асобы, якая тут, на зямлі, так і застанецца для нас з вамі шмат у чым таямніцаю...

Сваё святарскае служэнне Ян Шуткевіч распачаў у 1983 годзе, калі паміраючай «імперыяй зла» кіраваў таксама смяротна хворы стары КДБшнік Юрый Андропаў. Апошнія канвульсіі бязбожнага нялюдскага рэжыму балюча адчуваліся тады ў грамадстве, у якім ужо многія прагнулі пераменаў: прагнулі нарэшце адчуць сябе людзьмі, прагнулі свежага паветра сва-

боды, прагнулі чыстай вады высокай культуры, прагнулі святла Божай праўды. І толькі лічаныя адзінкі валодалі гэтымі каштоўнасцямі ў такой ступені, што маглі дзяліцца імі з іншымі. І як толькі наогул выжылі гэтыя людзі (а менавіта такім і быў ксёндз Ян) у страшэнных жорнах савецкай сістэмы?

Пра сваё ранняе дзяцінства будучы святар, які прыйшоў на свет 3 ліпеня 1932 года, распавядаў няшмат: вялікі светлы пакой у прыгожым белым палацы на беразе маляўнічага возера, вялікі кудлаты сабака на бліскучай падлозе... А потым дзесьці загінуў бацька, і маці з маленькім Ясем уцякла на Гродзеншчыну, туляліся... З маленства чулы да прыгажосці, да гармоніі, разлітай у Божым свеце, Ян меў вялікія здольнасці да музыкі, што прывяло яго на дырыжорскае аддзяленне Маскоўскай кансерваторыі. Аднак не сімфанічным аркестрам было наканавана дырыжыраваць Яну Шуткевічу, а нязграным аркестрам душаў чалавечых: вучыць іх слухаць Божую гармонію і настройваць па ёй знявечаныя атэізацыяй свае інструменты-сэрцы. Не толькі санаты з кантатамі гучалі з-пад ягоных рук, але загучала з новаю прыгажосцю застылая ў камені музыка адноўленых руплівым святаром занядбаных святыняў у Паставах, Камаях, Лучаі, Лынтупах, мінскай архікатэдры...

Ксёндз Ян, які стаў святаром, ужо маючы за плячыма паўстагоддзя жыцця, вызначаўся сапраўды маладым запалам у сваім душпастырскім служэнні. Яго руплівасць і адданасць Касцёлу яшчэ да святарства была адзначана нават у савецкім друку, калі Ян Шуткевіч стаў героем... антырэлігійнага фельетона! Яму, няўрымсліваму, да рэшты адданаму справе, не заўсёды было лёгка стрымліваць свой кіпучы характар і вулканічную эмацыйнасць. Маючы далікатны, вытанчаны слых, ён не зносіў ніякага фальшу ні ў музыцы, ні ў жыцці і як патрабавальны дырыжор аднолькава рэзка рэагаваў і на фальшывыя ноты, і на фальшывыя паводзіны. Ксёндз Ян, які як ніхто ўмеў бачыць прыгажосць і твораў мастацтва, і кожнага Божага стварэння, абураўся, калі гэтая прыгажосць была скажоная штучнасцю, удаваннем, фарысействам, што, на жаль, часам сустракаецца ў паводзінах нясталых хрысціянаў і нават некаторых духоўных асобаў. Ён быў натурай выбуховай, але бязмежна чулай; чалавекам, поўным разумення і спачування да нашай кволасці, неабыякавым да патрэбаў тых, хто быў побач з ім, заўжды гатовым дапамагаць кожнаму, хто толькі да яго ні звяртаўся. Пры гэтым як бы цяжка не было яму самому, ён ніколі ні ў кога не прасіў дапамогі з-за сваёй вялікай сціпласці, якой у ім многія нават не падазравалі...

Апошнія дваццаць гадоў жыцця ксяндза Яна Шуткевіча прайшлі ў галоўным цэнтры хрысціянства на нашых землях, у нашай старажытнай сталіцы Вільні. Ніколі не забудуся ягоны дом ва ўтульным завулачку на Звярынцы, ціхім і зялёным віленскім раёне, яго заўсёды гасцінна адчыненыя дзверы і самога гаспадара, нязменна радага гасцям, з яго асаблівай паблажлівай і злёгку іранічнай усмешкай чалавека, які шмат бачыў, шмат перажыў, але не зламаўся, не расчараваўся, не ачарсцвеў душою, што захоўвала ў сабе шмат чыстых, дзіцячых рысаў непапраўнага рамантыка. Адкрытасць, шчырасць, шляхетная высакароднасць без ценю фанабэрыі ці самаўзвышэння — вось што было ўласціва ксяндзу Яну — чалавеку і святару, які па моцы веры, адукаванасці і ўзроўні культуры быў асобаю сапраўды маштабаў эпохі Адраджэння. Шчодра адораны Богам, ён не пакідаў толькі для сябе нічога, чым бы не быў гатовы ахвяраваць і падзяліцца.

Калі я наведаў яго ў апошні раз, я бачыў, як моцна ён быў стомлены, як цяжка пакутаваў ад хваробаў. Але ксёндз Ян па-ранейшаму з непадробнаю жывою цікаўнасцю распытваў мяне пра Беларусь, пра жыццё нашага Касцёла, з якім ён быў нават на адлегласці так моцна звязаны і які так аддана любіў. Каля ног пажылога святара сядзеў сабака: не такі, як быў у ягоным дзяцінстве, а невялікі французскі бульдог, што змяніў яго папярэдніх верных чацвераногіх сяброў — таксаў. Хіба што толькі ў адносінах з імі ксёндз Ян не саромеўся ў поўнай меры паказаць сваю кранальную пяшчоту і цеплыню, што не змяшчаліся ў ягоным вялікім сэрцы, якому ўжо патрэбна была дапамога кардыястымулятара. А са сценаў, з якіх калісьці паглядалі строгія і светлыя вочы святых са старажытных абразоў, — іх калісьці было нямала ў гэтага тонкага знаўцы і аматара сакральнага мастацтва, — сумна тырчэлі пустыя цвікі. Абразы былі прададзены, а грошы ўкладзены ў адбудову і аздабленне апошняй святыні, адноўленай святаром-адраджэнцам: віленскага касцёла святога Барталамея на Зарэччы, які стаў родным для беларусаў Вільні (сёння там рэгулярна цэлебруецца святая Імша на беларускай мове).

Ойча Яне, дзякуй Вам за дабрыню, якой на працягу Вашага вялікага жыцця карысталіся многія, у тым ліку не раз і я. Дзякуй за прыклад вернасці і адданасці ў служэнні Богу і людзям, за Вашу непадробную любоў, якая не магла схавацца, нягледзячы ні на што. Таму цяпер, стаўшы перад Езусам, Вы, напэўна, пачуеце з Ягоных вуснаў словы, падобныя да тых, якія Боскі Настаўнік скіраваў калісьці да свайго вучня Барталамея: «Вось сапраўдны чалавек, у якім няма падману. Сапраўды кажу табе: убачыш Анёлаў Божых і Сына Чалавечага, якому ты верна служыў на зямлі і з якім цяпер будзеш у небе навекі».

*Дыякан Мікола Гракаў*

# Імгненні жыцця ў здымках і ўспамінах

Ксёндз Ян Шуткевіч меў звычку падпісваць свае фотаздымкі разгорнута, падрабязна, часам пішучы на адвароце цэлую нататку. Напрыклад, як вось на гэтым, які я атрымала ад яго з Вільні на Вялікдзень 1998 года: «Вялікі чацвер каля касцёла св. Барталамея. Прыбіў да сцяны круцыфікс, а да брамы прымацаваў дзве вербачкі. Асвяціў і памаліўся. Было віленскае тэлебачанне для беларусаў. Гэта штурм ужо 6-га касцёла для беларускіх католікаў. Такі мой лёс...»

Пра свой няпросты, драматычны лёс ксёндз Ян распавёў нам неяк адразу пасля прыезду ў Мінск, у маі 1994 года. Так здарылася, што рэдакцыя часопіса «*Ave Maria*» тады мясцілася ў пакойчыку на другім паверсе архікатэдры, дзе якраз распачыналася рэстаўрацыя. Тады ўвогуле ўсё распачыналася.

Ксёндз Ян часам заходзіў да нас выпіць гарбаты і проста паразмаўляць. Ён толькі што прыехаў з Паставаў, яшчэ сumaваў па сваёй былой парафіі, цяжка прывыкаў да шумнага і тлумнага Мінска... Ніколі не забуду тае першай нашай размовы, калі ён распавядаў пра сваё маленства, пра палац Тышкевічаў пад Трокамі, у якім ён нарадзіўся, пра смерць бацькі, пра ўцёкі з маці ў Гродна, пра іх напаўгалоднае тулянне, пра матулін страх за ягонае жыццё і пра тое, як з-за гэтага страху яна змяніла іх графскае прозвішча Тышкевіч на звыклае і непрыкметнае — Шуткевіч...

Чамусьці з тае першай размовы вельмі выразна запомніўся акуратна зацыраваны на локцях яго чорны світар...

Значна пазней, калі ксёндз Ян паказаў мне вышытыя ім касцёльныя арнаты, я зразумела, што цыраваў ён той світар сам...

Але, нягледзячы на некаторыя знешнія дэталі, якія, здавалася, аніяк не адпавядалі яго графскаму паходжанню, у ім адчуваўся прыроджаны арыстакратызм: у яго тонкім адухоўленым аблічы, у прыгожых руках, у манерах, якія ён часам знарок хаваў за ўяўную простасцю, а часам, наадварот, падкрэслена дэманстраваў. Усё залежала ад настрою і ад тых, хто быў побач... Зразумела, што яму нялёгка было насіць у сабе драму перажытага ў маленстве і ў раннім юнацтве страху, прыніжэння, беднасці, стратаў... Здавалася, ён пастаянна жыў з гэтаю ўнутранаю драмаю, не могучы ад яе адкаснуцца і яе забыць. Яна адчувалася ў ім, у яго характары: ён быў вельмі ранімы, эмацыйны, успыльчывы, часам калючы і не вельмі лёгкі ў стасунках... І пры тым у яго было добрае, чулае сэрца, якое заўсёды адгукалася на чужы боль і на патрэбы іншых...

Ксёндз Ян быў ад прыроды багата адоранаю, рознабаковаю асобаю: у яго быў абсалютны слых, ён ведаў і любіў музыку, тонка разумеў і цаніў жывапіс, архітэктуру і мастацкае слова, цікавіўся тэатрам...

Аднойчы ён падараваў мне два свае здымкі яшчэ з часу вучобы ў Маскоўскай кансерваторыі. І з аднаго, і з другога пазіраў прыгожы юнак з сумным вытанчаным аблічам. На адвароце аднаго было напісана: «Пасля экзамена ў кансерваторыю. Пробны здымак для фільма „Рамэо і Джульета“. На жаль, мама і мой дзядзька, ксёндз з Рыгі, не дазволілі здымацца, а шкада, можа, быў бы другі Жан Марэ... Масква, 1960 г.»

Іншы здымак быў падпісаны больш лаканічна і сур'ёзна: «Для афішы дыпломнага канцэрта... І што з таго? Масква, 1965 г.»

А «з таго», дарэчы, быў таксама не абы-які вынік — прэстыжная праца дырыжора струннага аркестра ў маскоўскім Вялікім оперным тэатры. І невядома, як бы далей склалася музычная кар'ера адоранага гродзенскага хлопца, каб не перамагло іншае пакліканне — пакліканне да святарства... Ён пакінуў Маскву, вярнуўся ў Гродна, працаваў нейкі час выкладчыкам у музвучэльні... У нашых з ім размовах ксёндз Ян не раз згадваў, як прыязджаў у маю Белагруду на Лідчыне, да ксяндза Казіміра Шаняўскага і іграў падчас Імшы на старажытных белагрудскіх арганах за слоік вясковай смятаны, якую пасля адвозіў маме ў Гродна. Такая тады была плата і такія былі заробкі...

У Каўнаскую духоўную семінарыю ён паступіў толькі напрыканцы 70-х і таму сакрамэнт святарства атрымаў ужо ў сталым узросце, маючы за плячыма добрага паўвеку. Можа, таму і подпіс такі іранічны зрабіў на адным з першых святарскіх здымкаў: « Святой отец Иоан... Лынтупы, 1984 г.»

Гэта быў пачатак яго святарскай працы на Віцебшчыне: у Лынтупах, Лучаі, Камаях, Паставах, дзе засталіся адноўленыя ім не толькі будынкі касцёлаў з густоўным інтэр'ерам, але і жывы



«Пасля экзамена ў кансерваторыю…»
Масква, 1960 г.



Выпускнік Маскоўскай кансерваторыі Ян Шуткевіч.
Масква, 1965 г.



Лынтупы. 1984 г.



З уратаваным крыжам у мінскай архікатэдры. 1994 г.



Ксёндз Ян Шуткевіч каля алтара Пана ў мінскай архікатэдры з кардыналам Казімірам Свёнткам, кс. Юзафам Пятушкам, дыяканамі Аляксандрам Тарасевічам і Дзмітрыем Барылам. 1997 г.



Ксёндз Ян Шуткевіч каля касцёла св. Барталамея. Вільня. 1998 г.

Касцёл, які дасюль яго ўдзячна памятае...

Шмат здымкаў у маім архіве з мінскага перыяду жыцця ксяндза Яна Шуткевіча (1994–1997). Вельмі шкадую, што не змагла адшукаць тых, якія ў свой час зрабіў вядомы фатограф Віктар Жылін для публікацыі артыкула ксяндза Яна ў часопісе «Беларусь». На жаль, Віктар таксама ўжо даўно адышоў у вечнасць. Памятаю, што на адным з тых здымкаў ксёндз Ян быў з крыжам, з тым самым, з якім прыйшоў у нашу катэдру 15 мая 1994 года, і які ў свой час, яшчэ на пачатку 50-х гадоў, уратаваў, пакрыёма вынесшы з мінскай катэдры, калі бязбожныя ўлады канчаткова разбуралі і рабавалі галоўную каталіцкую святыню, ператвараючы яе ў Дом фізкультуры. Гэты адноўлены ім і адрэстаўраваны старажытны барокавы крыж, які цяпер стаіць каля галоўнага алтара архікатэдры і служыць як працэсійны падчас касцёльных урачыстасцяў, адна з нямногіх катэдральных святыняў, якую ўдалося ўратаваць і захаваць. Гэта таксама заслуга ксяндза Яна і памяць пра яго...

Зразумела, ксёндз Ян пакінуў гэты крыж тут, калі ад'язджаў у чэрвені 1997 года з Мінска ў Вільню. Ад'язджаў неяк спешна, не дачакаўшыся рэкансэкрацыі катэдры, у рэстаўрацыю якой уклаў гэтулькі сваіх фізічных і духоўных сілаў...

«*Пакінуць крыж свой і пайсці — якое простае рашэнне...*», — напісала я тады ў вершы, прысвечаным яму. Ведаю, што гэтым яго пакрыўдзіла. Пасля зразумела, што рашэнне з'ехаць з Мінска было для яго далёка не простым і нялёгкім, але на тое былі свае прычыны і, напэўна, такая была Божая воля. Відавочна, трэба было вярнуць яшчэ адзін, шосты па ліку касцёл, цяпер ужо для віленскіх беларусаў, касцёл



Малітва за Беларусь у Вастрабрамскай капліцы. 1998 г.

св. Барталамея на Зарэччы. І ксёндз Ян з гэтым выдатна справіўся. Са знішчанага, закуранага ангара, у які літоўскія бязбожнікі ператварылі старажытную святыню, каб адліваць у ёй скульптуры сваіх бальшавіцкіх ідалаў, ксёндз Ян зрабіў прыгожы, светлы Божы дом. На здымках, якія я ў той час атрымлівала ад яго з Вільні, адлюстраваныя многія старонкі адраджэння гэтага касцёла пры старым Полацкім шляху...

Адзін з апошніх здымкаў ксяндза Яна, датаваны 2010-м годам, я атрымала з такім подпісам: «Ці ўсё ў сваім жыцці я зрабіў добра?..» Менавіта гэты павялічаны здымак суправаджаў святара ў яго апошняй дарозе, стаяў каля ягонай труны ў гродзенскім пабэрнардынскім касцёле, у якім цэлебравалася пахавальная св. Імша...

«Ці ўсё ў сваім жыцці я зрабіў добра?..» Хочацца верыць, што ксёндз Ян ужо атрымаў адказ на гэта пытанне, якое яго так хвалявала. І адказ напэўна станоўчы...

Ён усё ж вярнуўся ў Беларусь, якую любіў, пра якую думаў, за якую перажываў і пастаянна маліўся. Шкада толькі, што вяртанне гэтае было амаль незаўважаным для тых, з кім і для каго ён тут працаваў, — для вернікаў з яго любімых Паставаў, з Мінска і Гродна...

Няхай жа наша малітоўная ўдзячная памяць будзе суцяшэннем і падтрымкаю для яго светлай душы.

*Крыстына Лялько*



Ксёндз Ян Шуткевіч. Вільня. 2010 г.



Кс. Ян Шуткевіч з кардыналам Казімірам Свёнткам, кс. А. Парахневічам, кс. М. Сапелем, дыяканамі А. Клімантовічам і Я. Крэмісам. Мінск. 1995 г.

# Памяці ксяндза Яна Шуткевіча

...У той час яшчэ не было сотавых тэлефонаў, але трубка ўжо не была прывязаная да тэлефона провадам, што дазваляла свабодна рухацца, калі не сядзелася падчас размовы. Голас, які я пачуў у тэлефоне, добра пастаўлены, упэўнены, меў адметны тэмбр. Была ў ім лёгкая арыстакратычная высакамернасць. Словы гучалі няспешна, з ледзьве ўлоўным незразумелым акцэнтам, што надавала рытміцы і мелодыцы маўлення абаяльную своеасаблівасць. Уладальнік голасу сказаў, што ён ксёндз Ян Шуткевіч, і тэлефануе мне па рэкамендацыі арцыбіскупа Казіміра Свёнтка. Ксёндз прапанаваў мне сустрэцца па адрасе Плошча Свабоды, 9.

Мы сустрэліся ў адным з пакояў прыбудовы фасада «Дома фізкультуры», які шмат гадоў хаваў фасад касцёла XVIII стагоддзя. Дні гэтай прыбудовы заканчваліся, і я падумаў, што і пакой — месца, дзе мы сустрэліся, таксама хутка знікне, быццам яго і не было, і застанецца толькі прывід, захаваны ў маёй памяці на ўзроўні другога яруса вежаў адноўленага касцёла... Цяпер тое жыццё, напоўненае радаснымі ілюзіямі, здаецца шчаслівым сном, прадвесцем новага жыцця... Размова ішла пра даследаванне сценаў і скляпенняў помніка архітэктуры на прадмет наяўнасці роспісаў.

Гледзячы на маладжавага ксяндза, я намагаўся вызначыць яго ўзрост і зразумець, хто перада мною: наперадзе была доўгая сумесная праца, у якой важным было агульнае разуменне праблемаў рэстаўрацыі. Высветлілася, што ксёндз Ян, будучы студэнтам дырыжорскага факультэта Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, сябраваў з рэстаўратарам. У нас раптам адшукаўся агульны знаёмы — Віктар Васільевіч Філатаў, вядомы аўтар адзінага ў СССР падручніка па рэстаўрацыі тэмпернага жывапісу. Гэта зрабіла нашы адносіны больш даверлівымі...

На жаль, ксёндз Ян нядоўга (1994–1997) выконваў абавязкі пробашча ў мінскай архікатэдры. Думаю, калі б ён прадоўжыў служыць пасля кансэкрацыі касцёла, то і катэдра сёння выглядала б інакш, ва ўсялякім разе скляпенні бакавых наваў пэўна былі б раскрытыя. Пацвярджэннем гэтаму — касцёлы ў Паставах і Лынтупах, да рэстаўрацыі якіх ксёндз Ян прыклаў сваю энергію, веды і густ. Ды і касцёл беларускай дыяспары ў Вільнюсе, падняты з разрухі і занядбання, таксама сведчыць пра творчыя і арганізатарскія здольнасці ксяндза Яна. Аднак ці ж мне з нартэкса разважаць пра святароў? Не ўмеючы спасцігнуць святасць рэчаіснага, я толькі назіраў за тым, хто чыніў святыя дзеянні. Намагаючыся прывесці сваю душу ў адпаведнасць з малітваю і казаннем таго, хто абвяшчаў Божае слова, я думаў пра рознае. Зрэшты, пра ксяндзоў я мяркую па іх адносінах да маёй справы — справы рэстаўрацыі мастацкіх помнікаў...

Ксёндз Ян у мае сумненні не

паглыбляўся. З яго рук я прыняў святы хрост і ўзяў шлюб з маёю жонкаю пад рыштаваннямі ў алтарнай частцы архікатэдры падчас яе адраджэння. І гэта назаўжды жыве ўва мне як сімвал майго духоўнага станаўлення...

Кантактуючы з ксяндзом Янам, я міжволі памятаў, што ён некалі быў музыкантам. Часам мне здавалася, што ён, стоячы перад парафіянамі, уяўляе сябе дырыжорам самага дасканалага па сваіх выканаўчых магчымасцях аркестра...

Яму было ўласціва вострае, чулае ўспрыманне жыцця. У яго быў сапраўды багаты ўнутраны свет. Ведаючы пра нягоды, якія выпалі на долю ксяндза Яна, можна было толькі падзівіцца яго заўважнай інфантыльнасці і капрызлівасці, невядома як ацалелым і да сталага ўзросту... Ён быў рамантыкам. Адным з апошніх, напэўна...

Ксёндз Ян цікавіўся старым жывапісам і калекцыянаваў яго. Аднойчы ён паказаў мне абраз і, наракаючы на яго стан, папрасіў адрэстаўраваць. Той абраз быў у такім стане, што і абразом яго ўжо назваць не выпадала, але ксёндз Ян настойваў, і я, не гарантуючы поспеху, узяўся за працу. Вынік быў нечаканы, і я запрасіў ксяндза Яна ў майстэрню, каб параіцца з ім. Дзверы былі адчыненыя, і ён увайшоў неяк непрыкметна. Увайшоў — і заспяваў! Напэўна, гэтак натхніў яго выгляд абраза. Я замёр у здзіўленні — такой непасрэднай і шчырай рэакцыі на вынік рэстаўрацыі я ніколі не бачыў. І ўжо не ўбачу. Але я і цяпер чую яго голас, адценні маўлення, інтанацыі, помню мелодыку яго голасу і тэмбр...



Магіла кс. Яна Шуткевіча
на Гродзенскіх могілках.
Фота Ул. Хільмановіча.

Адышоў — і дзе ён? У маёй памяці ён жыве ў прыбудове перад сённяшнім фасадам адроджанага касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі на Плошчы Свабоды ў Мінску.

Неардынарны, яркі чалавек — ксёндз Ян Шуткевіч.

*Аркадзь Шпунт*

## Замест белых півоняў на свежую магілу ксяндза Яна Шуткевіча

О, Езу Хрыстэ, будзь пахвалёны!
Першая споведзь хлопцаў, дзяўчатак.
Па ўсім нашым краі цвітуць півоні —
Лета пачатак.

Можна не есці, толькі надыхацца
паветрам родным...
А ксёндз Ян Шуткевіч ў труне вярнуўся
з Вільні ў Гародню.

Паміж Гародняй, Менскам і Вільняй –
высокі крыж надмагільны.

Падпілавалі, як дуб грымотны.
Над крыжам ясных зорак салют.
Якія хлопцы былі ў Гародні,
падчас маёй маладосці тут!

На дзірванах Вялікага Княства,
у рытмах бязбожнікаў і паганства
меў таленты: мог быць музыка, разьбяр,
ды Езус на службу сваю забраў.

Споўніў ён Божае прадвызначэнне —
святыняў і душ людскіх адраджэнне.
Няўтульна ў савецкім Мінску маліцца, —
з’ехаў у Вільню, таксама ў сталіцу...
Мог бы спачыць на Росах,
каб не матулін крыж гэты родны.
Святога лета звон шматгалосы...
Ксёндз Ян вярнуўся ў Гародню.

*Данута Бічэль.*
*7 чэрвеня 2017 г.*

# КЛЮШЧАНЫ КАЗІМІРА СВАЯКА

У чэрвені гэтага года балючая вестка абляцела Беларусь — згарэў дашчэнту каталіцкі касцёл у Клюшчанах...

Касцёл быў драўляны, гожы, залаціста-жоўтае дрэва яго сценаў і вежаў ззяла ў сонечных промнях у пагодныя вясновыя і летнія дні, а ў змроку і шэрані восені-зімы выпраменьвала назапашанае святло і цяпло на наваколле. Больш за 230 гадоў назад, у 1785 годзе, была ўзнесена гэтая святыня нашага краю, выстаяла і перажыла ўсе войны двух мінулых стагоддзяў, ацалела ў ліхалеццях жорсткай барацьбы з рэлігіяй, а ў канцы XX стагоддзя аднавілася для службы Божай. Ажылі вакол яе ды па ўсёй Беларусі легенды і ўспаміны, звязаныя з жыццём і адраджэнскай дзейнасцю ў 1910-1920-я гг. святара і паэта Казіміра Сваяка (кс. Кастуся Стэповіча).

Родная вёска Казіміра Сваяка Барані, дзе ён нарадзіўся ў лютым 1890 года, належала да клюшчанскай парафіі, таму і касцёл у Клюшчанах увайшоў у жыццё будучага святара і паэта ўжо з самага ранняга дзяцінства. Атрымаўшы святарскія пасвячэнні, кс. Канстанты Стэповіч неўзабаве быў накіраваны на душпастырскую службу ў родную парафію і разгарнуў там у 1915 — 1916 гг. кіпучую дзейнасць па гуртаванні вакол касцёла парафіяльнай моладзі, працуючы на ўмацаванне нацыянальнай свядомасці, пашырэнне беларускай мовы, асветы, культуры быту. Ён ініцыяваў і заахвочваў правядзенне шматлікіх культурна-асветных мерапрыемстваў, распаўсюджванне беларускіх газетаў і кніг, пастаноўку спектакляў, наладжванне вечарынаў з дэкламацыямі і хорам, прапагандаваў здаровы лад жыцця, свабодны ад алкаголю і пустых забаваў. У касцёле гучалі казанні святара на беларускай мове.

А час быў ліхі і неспрыяльны — ішла Першая сусветная вайна, Клюшчаны знаходзіліся ў акупаванаай зоне. Аднак менавіта тады сем пачатковых школаў для вясковых дзяцей былі адчыненыя і працавалі, а ксёндз рупіўся і пра сшыткі, і пра падручнікі, і пра абутак, адзенне для вучняў са згалелых беларускіх сем'яў і нават сам выкладаў. Як душпастыр ён ездзіў па парафіі, наведваў хворых і канаючых, спавядаў, намашчаў, адгукаючыся сэрцам на невымерны людскі боль, падзяляючы цярпенні, бо ў гэты ваенны час да ўсяго бушаваў яшчэ і тыф.

Ды менавіта тады далёка ў ваколіцах разносілася слава «Хаўруса Сваякоў» — гуртка моладзі, якая спявала ў хоры і ладзіла на чале са сваім святаром усе тыя культурна-выхаваўчыя імпрэзы і гутаркі, дух якіх яшчэ і сёння лунае над клюшчанскім наваколлем. Гэта было жывое ўвасабленне ідэі маладой Беларусі, якую сэрцам успрыняў малады святар Кастусь Стэповіч. «Хаўрусу Сваякоў» у Клюшчанах прысвяціў Казімір Сваяк у 1919 г. і свой знакаміты верш:

Гадкі са тры дзяржаўся ты удала,
Старонцы роднай ўсё стараючы(сь) служыць:
Як мог і як умеў: не быстра, ані вяла —
Змагаўся русняка з прасоння разбудзіць.

Так думцы вось тваёй хай багаславіць Бог,
Каб буйна узрасла для Бацькаўшчыны роднай;
А помні, брат Сваяк: наперад без трывог
Ідзі ўсё дальш і дальш па пуціне свабоднай.

А еслі ж пуціна калючкамі наб'ецца, —
Не бойся болькі ты, абы ісці ледзь мог;
Бо пэўна нас каліся нямала сабярэцца:
Сапхнём тады карчы з усіх сваіх дарог [1].

Пра святарскую службу, дбанне пра парафію, спробы прышчапіць беларушчыну ў касцёле захаваліся запісы ў вядомым дзённіку святара-паэта «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», дзе мы знойдзем і яго глыбокія развагі над праявамі быту і быцця, волі людской і волі Божай. Менавіта ў Клюшчанах К.Сваяк спазнаў сэрцам сутнасць свайго апостальства: «Мой Божа! Чую я падзячнасць за тое, што мысль мая — маўляў каля вялікага цэнтру — круціцца каля вечнае ідэі: «*Deo servire regnare est*» — служба Богу — гэта панаванне...»[2].

Толькі на працягу аднаго года — з восені 1915 да восені 1916 (бо ўжо 2.XI.1916, паводле запісу ў дзённіку, ён развітаўся з роднай старонкай) — доўжыўся вікарыят кс. Кастуся Стэповіча ў Клюшчанах, але ж насамрэч ён здолеў агарнуць гэты куточак Беларусі і гэты касцёл легендарным арэолам.

Перажываючы сёння боль з-за страты клюшчанскага касцёла, варта памятаць пра яго незвычайную ролю ў духоўным адраджэнні Беларусі і маліцца аб будучым аднаўленні святыні.

*Ірына Багдановіч*

---

1 Сваяк К. Выбраныя творы / Уклад., прадм., камент. І.Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – С. 100.

2 Тамсама. С. 361.

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), «Залатая Горка» (2016), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

Ірына Багдановіч

# КАСЦЁЛ У КЛЮШЧАНАХ

*Памяці святара і паэта Казіміра Сваяка*

I.
Хаўрус беларусаў збіраў ён і вёў
У прышласць — з народам для Бога!
Шукаў самавітых нязблудных шляхоў
І творчасці Духа Святога.

Клюшчаны, радзіма, касцёл на гары
Ўвесь золатам дрэва ільсніцца
На сонцы, пад небам — так Бог сатварыў
Яго для людзей, каб маліцца.

Бара́ні ўзрасцілі яму святара
З душою і сэрцам паэта,
І ён ля жывога таго алтара
Меў Бога жывога за мэту.

II.
Святыня — цудоўны Ўсявышняга дар,
У неба адкрытая Брама.
Маліўся і жыў для Нябёсаў святар
І для Беларусі таксама.

Парафія, людзі, яго землякі,
Цярпенні, вайна ды нястачы,
Канаючых споведзі, тыфус ліхі,
Збаўленне з той долі лядачай...

За веру, за праўду — дар мовы сваёй —
Выводзіў ён з цемры бяздольных,
Спяваў з ім натхнёна «Хаўрус Сваякоў»,
Каб вольным быў Край паміж вольных.



«Збярэцца нас болей, сапхнем мы карчы
З дарогі свайго адраджэння», —
Казаў так святар і прасіў памагчы
Дух Божы ў ахвяры служэння.

III.
Для вёсак, мястэчак, для ўсіх хутароў,
Што ўзгоркі абселі й лагчыны,
Да Бога адсюль, між чароўных бароў,
Узносіўся спеў за Айчыну.

І золата вежаў імкнула ў блакіт
Людскія спадзевы-маленні,
І велічна ззяў гэтых дум далявід
У кожным, што йшло, пакаленні.

IV.
Ці сніў хоць калі, ці прадбачыў святар,
Што згіне дашчэнту ў пажары
Святыня, што сонечна ззяла, як дар
На поўным надзеі абшары?

Хто быў ліхадзеем, чыёю рукой
Вадзіў вораг роду людскога?
На брата католіка выйшаў вайной
Хто з цемры аблудства сляпога?..

Мы ўсе — пагарэльцы! Прытулім Хрыста!
Ён страціў клюшчанскія сцены,
А чулыя сэрцы, як дом свой, дастаў —
Адкрыты і верай праменны.

V.
Ты, Божа, для вернікаў цуд сатвары:
З пажару, з руіны, з няволі,
Нарэшце народ наш здабудзь на гары
І болей не страць нас ніколі!

Збудуй нам каўчэг як каплан-капітан,
Каб хвалі патопу не змылі,
Даруй нам наш грэх, што ўвяліся мы ў зман
І мовай чужой гаварылі!

Мы ўсе — пагарэльцы, ў варожай сяўбе
Дух веры, аднак, не загіне!
Прытулім у сэрцах Хрыста да сябе
І так адбудуем святыню!

*26–27 чэрвеня 2017 г.*
*Касцёл у Клюшчанах дашчэнту згарэў*
*раніцай 6 чэрвеня 2017 г.*

Алена Вальчук

# Сямейныя традыцыі выхавання як фактар фарміравання хрысціянскага светабачання Янкі Купалы



Ад моманту нараджэння значную ролю ў станаўленні асобы, выпрацоўцы ёю індывідуальнай быційнай канцэпцыі, вызначэнні маральна-этычных прыярытэтаў як асновы жыццёвага выбару і рэгулятара сацыяльных паводзінаў у грамадстве адыгрывае сям'я. Заснаваная на хрысціянскіх прынцыпах любові і павагі да бліжняга, яна садзейнічае духоўнаму развіццю чалавека, гарманізацыі яго стасункаў з навакольным светам.

З вядомых на сённяшні час матэрыялаў не толькі біяграфічнага, але і гістарычна-культуралагічнага характару вынікае, што фарміраванне індывідуальнасці Яся Луцэвіча — у будучыні паэта Янкі Купалы, крышталізацыя яго хрысціянскіх поглядаў на самым значным першапачатковым этапе жыцця адбывалася ў сямейным асяроддзі збяднелай беларускай шляхты, якая належала паводле веравызнання да рымска-каталіцкай канфесіі і з пашанаю ставілася да рэлігійных традыцый.

Паводле біяграфіі Івана Дамінікавіча Луцэвіча, ён прыйшоў на свет 7 ліпеня (па новым стылі) 1882 года ў сям'і Дамініка Ануфрыевіча і Бянігны Іванаўны Луцэвічаў. Бацькі паэта з самога дзяцінства былі далучаны да веры Хрыстовай. Дамінік Ануфрыевіч, які нарадзіўся 4 мая 1846 г. у шляхецкай сям'і Ануфрыя і Валерыі Луцэвічаў — уладальнікаў засценка Лазараўшчына Ігуменскага павета Мінскай губерні, 12 мая быў ахрышчаны паводле рымска-каталіцкага абраду ўздзенскім вікарыем, ксяндзом Юзафам Свянціцкім[1]. З'яднаўшыся з Касцёлам, ён на працягу ўсяго свайго жыцця не парываў гэтай повязі, а калі адчуў блізкі подых ранняй смерці, папрасіў, каб яго пахавалі на цвінтары кораньскага касцёла святога Антонія[2].

Згодна з успамінамі пляменніцы Янкі Купалы Я.Ю. Раманоўскай, сям'я Валасевічаў, з якой паходзіла маці паэта Бянігна Іванаўна, таксама вызначалася адданасцю ў веры. Бабуля паэта Кацярына не толькі выдаткавала грошы на ўзвядзенне касцёла ў Рубяжэвічах і амбоны ў ім, але і «падаравала касцёлу ікону Маці Божай Вастрабрамскай...[3]

Будучы шчырымі католікамі, Дамінік і Бянігна Луцэвічы ў адпаведнасці з традыцыяй праз абрад хросту далучылі да Хрыстовай веры свайго першынца, аб чым сведчаць запісы ў метрычнай кнізе радашковіцкага касцёла Вілейскага дэканата Вілейскай епархіі за 1882 год: «*Тысяча восемьсот восемьдесят второго года июля двенадцатого дня в Радошковичском р[имско-] к[атолическом] приходском костеле крещен младенец по имени Иван кс. Станиславом Сульжинским, вилейским деканом, с совершением всех обрядов таинства. Дворян: Доминика и Богумилы с Волосевичей Луцевичей зак[онных супр[угов], сын, родившийся 25 июня сего года в имении Вязынке. Восприемниками были Иосиф Банцаревич с Олимпиею Замбржицкою*»[4].

Гэты дакумент цікавы яшчэ і тым, што на прыкладзе асобнай сям'і ён яскрава перадае пануючую атмасферу ў беларускім грамадстве напрыканцы XIX ст. Так, згодна з вышэйпрыведзеным запісам, бацькі Янкі Купалы па-ранейшаму адносілі сябе да шляхты, хоць у 1860-я гг. былі пераведзены ў стан мінскіх мяшчанаў, бо не змаглі пацвердзіць сваю прыналежнасць да гэтага саслоўя. На думку Г. Кісялёва, будучы «ўнутрана нязгодныя» з рашэннем уладаў, сваімі паво-

---

**Алена Вальчук** — кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў Брэсце. Закончыла філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна (1999), аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2002). У 2010 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Біблейскія матывы ў творчасці Янкі Купалы». Даследуе беларуска-іспанскія літаратурныя ўзаемасувязі.

дзінамі яны сведчылі аб «пэўнай апазіцыйнасці»[5] да царскага ўраду. Выяўляючы цвёрдасць уласнай пазіцыі, бацькі паэта такім чынам заяўлялі пра непрымальнасць несправядлівага стаўлення да сваіх правоў, баранілі свой чалавечы гонар. Не менш істотна і тое, што іх смелы ўчынак быў падтрыманы святаром — духоўным настаўнікам, які не пабаяўся выказаць хрысціянскую салідарнасць з вернікамі. Думаецца, што гэта мела глыбокі сімвалічны змест і, магчыма, прадвызначыла лёс Янкі Купалы як абаронцы пакрыўджаных, прарока, які сілаю свайго таленту клікаў беларусаў змагацца за правы «людзьмі звацца» і верыць у шчаслівую будучыню, асветленую Хрыстовай любоўю, знаходзячы на гэтым няпростым шляху паплечнікаў сярод святарства, што шчыра падтрымлівала ідэі нацыянальнага адраджэння.

Далучыўшы дзіця да жыцця Касцёла, бацькі садзейнічалі таму, каб яно магло выконваць неабходныя абрады. Паколькі на той час службы адпраўляліся на польскай мове, то з яе засваення распачынаўся працэс навучання ў каталіцкіх сем'ях, даючы магчымасць маладому пакаленню «...*шаптаць пацеры, мовіць пахвалёнку, уваходзіць у хату, карыстацца рэлігійнымі кніжкамі і катэхізісам, малітоўнікам, кантычкай (зборнікам рэлігійных песняў)*...»[6].

Бацька будучага паэта быў арандатарам, таму яго сям'і даводзілася часта пераязджаць, што не спрыяла сістэматычнай адукацыі сына. Аднак, клапоцячыся аб тым, каб Ясь атрымаў першапачатковыя веды, Дамінік Ануфрыевіч наймаў для яго так званых вандроўных настаўнікаў. З гэтай мэтай у сям'ю Луцэвічаў быў запрошаны і настаўнік Патаповіч. Яго падыход да працэсу навучання заключаўся ў тым, каб вучань запамінаў малітвы, якія здольны Ясь спасціг «з ходу»[7]. Затым ён адправіўся па веды ў Аўгустова і Слабодку да бацькавых знаёмых Стацкевіча і Ляскоўскага, дзе па чарзе правучыўся адну зіму[8] ў двух «дарэктараў».

Пазней, раскрываючы прычыны распаўсюджанасці такога тыпу настаўніцтва сярод беларусаў напрыканцы XIX ст., Янка Купала ў адным з лістоў да Л. Клейнбарта пісаў, што было вельмі мала школаў і навучалі ў іх пераважна па-польску. «*Не абыходзілася і без пераследу вандроўных настаўнікаў, а таксама бацькоў*»[9].

Імкненне царскіх уладаў разбураць культурныя і рэлігійныя асновы быцця беларускай шляхты, ствараючы перашкоды ў рэалізацыі права на свабоду сумлення, выклікала ў мясцовага насельніцтва не толькі ўнутраны супраціў, але і ўзмацняла яго прывязанасць да традыцыйных каштоўнасцяў, нягледзячы на пагрозу пакарання. Бацькам Яся Луцэвіча няпроста было адшукаць настаўніка, які б не толькі даў іх сыну неабходныя веды, але і садзейнічаў яго духоўнаму росту. Таму, калі будучы паэт перастаў наведваць хатняга настаўніка ў Гаянах, бацька аддаў яго пад апеку фельдфебеля з ваеннага лагера, што мясціўся недзе пад Мінскам. У выніку Ясю давялося засвойваць на памяць трапары (тэксты малітоўных спеваў праваслаўнага набажэнства)[10]. Для таго, каб вучыць іх, Ясь павінен быў валодаць рускай мовай. У аўтабіяграфіі, напісанай у 1940 г., Янка Купала адзначаў: «*Грамоте меня учили сначала по-польски при посредстве вольнонаёмных бродячих учителей. Но однажды мне попался русский «календарь», на котором написано было «Дозволено цензурой». Впоследствии я вспоминал эту, казавшуюся мне безобидной, надпись с горькой иронией, но тогда меня заинтересовал русский шрифт, отличный от знакомого мне латинского, и с помощью няньки я быстро овладел русской грамотой*»[11].

Аднак у асяроддзі, дзе гадаваўся будучы творца, гучала не толькі польская, але і беларуская мова. Нягледзячы на тое, што першая з іх *«была ў сям'і Луцэвічаў... афіцыйнай, святочнай, параднай»*, якой *«карысталіся, калі прымалі паважаных гасцей, калі звярталіся да пана, калі ездзілі на фэст, калі маліліся ў касцёле»*[12], другая займала не менш значнае становішча і выкарыстоўвалася значна часцей у побыце, пры стасунках з людзьмі.

Паходзячы з сям'і беларускай шляхты рымска-каталіцкага веравызнання, паэт з дзяцінства, дзякуючы выхаванню бацькоў, далучыўся да каталіцкай традыцыі, засвоіў хрысціянскія духоўныя каштоўнасці, якія сталі асноваю яго светапогляду.

**Літаратура**

1 Дзяшкевіч, М. Ад вытокаў радаводных : літ-крыт. арт., нарысы, успаміны пра аўт. / М. Дзяшкевіч. — Мінск : Маст. літ., 1990. — С. 17.
2 Палупанаў, У. Невясёлыя абразкі з Лагойшчыны: пра магілу Дамініка Луцэвіча / У. Палупанаў // Роднае слова. 1994. № 7/8. — С. 135.
3 Макарэвіч, В. З сузор'я радаводу / В. Макарэвіч // ЛіМ, 29 лістап. 2002. С. 13.
4 Пуцявінамі Янкі Купалы: дакументы і матэрыялы / Уклад., уступ. арт. і імян. паказ. Г.В. Кісялёва. — Мінск : Навука і тэхніка, 1981. — С. 45.
5 Кісялёў, Г. Дык дзе ж хрысцілі Купалу? / Г. Кісялёў // Радаводнае дрэва : Каліноўскі — эпоха — наступнікі / Г. Кісялёў. — Мінск : Маст. літ., 1994. — С. 278.
6 Гінтаўт, Ф. З картатэкі памяці : успаміны і нарысы / Ф. Гінтаўт. — Гродна : ГрДУ, 2000. — С. 46.
7 Юрэвіч, У. Янка Купала: нарыс жыцця і творчасці / У. Юрэвіч. — Мінск : Нар. асвета, 1983. — С. 25.
8 Купала, Я. Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. — Мінск : Маст. літ., 2003. Т. 9. Кн. 1. — С. 264.
9 Тамсама.
10 Тамсама.
11 Рагойша, В. Напісана рукой Купалы : арх. знаходкі / В. Рагойша. — Мінск : Выд-ва БДУ, 1981. — С. 107.
12 Вольскі, В. Матэрыялы да біяграфіі Янкі Купалы (1882—1910) / В. Вольскі // Любімы паэт беларускага народа. — Мінск, 1960. — С. 47.

Лідзія Камінская

# «Паклічу толькі светлае...»

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Брыля*



Калі Іван Антонавіч заходзіў у рэдакцыю часопіса «Роднае слова» і сядаў каля майго стала (ад чаго я ў момант бянтэжылася), па рэдакцыі з дзвярэй у дзверы разбягалася вестка: «Брыль прыйшоў!». Заходзіў ён рэдка і нічога, апрача свайго радаводу (ўгаварылі!), у нас не друкаваў — проста жыў побач, на вуліцы Дразда, а мы — на Гвардзейскай. Ён любіў пагартаць наш часопіс, хоць тады ўжо чытаў менш, бо страціў вока. У мяне нават пыталіся, чаму ён сядае менавіта каля майго стала і называе мяне Лідачкаю. А вось так — былі ў яго свае сімпатыі, а мы яго любілі (і ён гэта адчуваў) ужо са школы, калі перажывалі за яго Галю з аднайменнага апавядання «Галя» (1953) і за яе балючае каханне да адзінага ва ўсім свеце Сярожкі з яго трактарам і гармонікам. З гэтага апавядання мы, якім бацькі пра каханне не расказвалі і свайго не дэманстравалі, разумелі, што каханне ёсць, што яно бывае і на ўсё жыццё, і нават тады, калі ты замужам за іншым, і што яно светлае, чыстае і таямнічае, бо кахаеш не за пшанічны чуб над блакітнымі вясёлымі вачыма, а немаведама за што, і што каханне па-над усім — ёсць жа ў Брылёвым апавяданні тое, што называюць сацыяльным кантэкстам, а хвалююць толькі Галіны перажыванні. І адкуль мужчына, Янка Брыль, ведае, што робіцца ў жаночым сэрцы? «*А трактар гудзе і гудзе... Там — не Сярожка. Ды гэта нічога. Ноччу будзе зноў ён. Зноў будзе балець па ім яе душа, да самага світання... Няхай сабе. Абы толькі гудзеў*». І пераважаюць у гэтым апавяданні — лета, жніво, шчодрасць, напоўненасць і перапоўненасць прыроды, яе багацце, яе плён. І гэткая ж Галіна душа, у якой каханне нібыта аднятае (не з ёю ж Сярожка!), а яна напоўненая і перапоўненая — багатая, бо каханне — Божы дар, а Яго дары беднымі не бываюць...

Дзіўны гэты занятак — пісьменніцтва. З аднаго боку — самасцвярджэнне, з другога — агаленне ўласнай душы, яе амаль безабароннасць — заўсёды «пад прыцэлам», пад крытыкаю. Творчыя людзі, асабліва ў нас, часта гавораць пра неспрыяльныя ўмовы для творчасці, укручанай у абставіны, залежнай ад падзеяў у грамадстве, у гісторыі, але жыццё паказвае, што і неспрыяльнасць можа быць спрыяльнаю, калі ёсць талент, вядома. Стаў жа Кастусь Міцкевіч Якубам Коласам, а Ясь Луцэвіч — Янкам Купалам («*Пакіньма на́пуста на лёс свой наракаць...*»).

Што спрыяла Янку Брылю? Нарадзіўся ў 1917 годзе, шасцігадовым хлопчыкам стаяў каля бацькавай труны, яшчэ не асэнсоўваючы страты. У літаратуру прыйшоў у 1937 годзе, у свае 20 гадоў. Пра што можна было пісаць у гэты час? Ён напісаў шчымліва-горкае апавяданне «Марыля» пра тое, як было знявечанае, растаптанае, знішчанае жыццё без віны вінаватай жанчыны. У 1938 годзе ў Кіеве па даносе быў расстраляны яго родны брат Валодзя. У 1939 годзе салдат польскай арміі Іван Брыль трапіў у нямецкі палон, дзе было складана не страціць чалавечай годнасці; у 1941 годзе ўцёк з палону (пасля другой спробы!), прайшоў (якое лёгкае слова!) вайну ў партызанах... І пасля вайны выпрабаванняў яму хапіла. «*Выпрабаванні некалькімі дыктатурамі рознага кшталту і калібру. Выпрабаванні яўным і тайным кіраўніцтвам, цэнзурай, якая называлася "галоўлітам", і рэдактурай, якая была па сутнасці цэнзурай*» (Янка Брыль, «Блакітны зніч», 2004).

«*Что сказать мне о жизни, // что оказалась длинной*, — пытаўся Іосіф Бродскі, — *только с горем я чувствую солидарность, // но пока мне рот не забили глиной, // из него раздаваться будет лишь благодарность*»... А наш Янка Брыль быў «солидар-

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978-1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980-1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986-1992), у часопісе «Роднае слова» (1992-2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

ным» з радасцю, са святлом («*З далечыні гадоў паклічу толькі светлае*», — пісаў ён).

Ён нарадзіўся светлым, і на яго шляху было нямала светлых людзей, якія цягнуліся да яго святла, распазнаючы ў ім духоўную роднасць па закладзеным, удыхнутым Богам генетычным кодзе. І гэта яму спрыяла.

Светлаю была яго маці, якая любіла, каб ёй чыталі кніжкі ўслых («наслуханая», — казаў Іван Антонавіч), светлаю была яго любімая настаўніца ў Турэцкай сямігодцы Мар'я Пранеўская, якая падчас акупацыі загінула ў канцлагеры Калдычэва.

«Прыехаўшы ў 1973 г. у Варшаву для атрымання літаратурнай прэміі імя Уладзімежа Петшака, Я. Брыль запрасіў на сваё свята сына пані Мар'і, цяпер вядомага медыка, Юрэка Пранеўскага, перапісваўся з яго сястрой Янінай, што працавала бібліятэкарам у Шчэціне. Абое яны паслужылі прататыпамі вобразаў дзяцей настаўніцы ў «Сірочым хлебе». Вобраз пані Мар'і — гэты першы ў творчасці Я. Брыля вобраз інтэлігенткі, ён свеціцца святлом чалавечнасці... Яе вобраз адпавядае таму ідэалу, пра які пісаў А. Чэхаў...» (У. Калеснік, «Янка Брыль», 1990).

Да А. Чэхава ў Івана Антонавіча была асаблівая любоў, пра якую ён светла, радасна, удзячна напісаў у эсэ «Мой Чэхаў» (1959). «*Чэхаву*, — піша Янка Брыль, — *я абавязаны вельмі многім <...> Антон Паўлавіч першы з найбольш любімых пісьменнікаў унёс папраўку ў маё юнацкае безагаворачнае захапленне Талстым — не толькі непараўнальным мастаком, але і філосафам. Праўда, папраўкі такія ўносіла перш за ўсё само жыццё <...> сама заходнебеларуская рэальнасць, у якой я жыў і шукаў сваю сцежку. А вось першай чэхаўскай папраўкай быў іменна "Ванька" <...> Не памятаю, дзе гэта ён, Чэхаў, гаварыў, што любоў да чалавека трэба насіць не толькі ў сэрцы, але і ў галаве. Не ведаю... лепш будзе сказаць — не думаў ніколі над тым, скрозь сэрца ці скрозь розум прапушчана яго любоў, скажам, да Ліпы з мёртвым сыночкам на руках, калі яна ідзе пад зорным вясновым небам... Аднак такога глыбокага, чыстага, невымоўна паэтычнага выяўлення любві да простага, пакрыўджанага чалавека няма, здаецца, ні ў аднаго з пісьменнікаў*» (Янка Брыль, Збор твораў у пяці тамах. Том 1. 1979).

...Добра было Янку Брылю — яму спрыялі і Гогаль, і Талстой, і Чэхаў! А колькі яшчэ, з усяго свету, імёнаў, якіх не пералічыць, — мудрых, чалавечных, дасціпных і нават вясёлых. Можа, гэта яны дапамаглі Янку Брылю вытрываць той боль, з якім пісаліся «Птушкі і гнёзды» (1963), апавяданні «Адзін дзень» (1946–1952), «Маці» (1957), «Memento mori» (1958), дапамаглі прайсці, як казаў Алесь Адамовіч, «*па дантавых кругах хатынскай памяці народнай*», калі шмат гадоў разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам запісвалася кніга «Я з вогненнай вёскі...» (1975).

Што ён думаў пра існаванне Бога, пра хрысціянства? Чулы да дзяцей, да кожнай безабароннай істоты, да «братоў нашых меншых», Іван Антонавіч хацеў мець адказ на балючае пытанне: за што? Вось адзін з яго запісаў з кніжачкі «Блакітны зніч»: «*Цяжка чытаю "Розу Мира" Данііла Андрэева. Над нагрувашчваннем прамудрых развяг і тлумачэнняў, скрозь іх і за імі раптам убачыліся першыя хрысціяне ў рымскім цырку, перад тым найстрашнейшым момантам, калі на арэну, дзе застылі ў жаху ахвяры, вырвуцца галодныя ільвы. Сярод ахвяраў — дзеці. Як жа ім іхнія бацькі, маці, дзядулі і бабулі, у душах, у свядомасці якіх ёсць <u>тое</u>, за што звяры будуць іх разрываць, як усе тыя блізка-дарослыя скажуць дзецям, святым у сваім няведанні, за што ім гэты жах звышпакутлівай смерці? А потым я сігануў з той старадаўняй далечы ў свой час, у гады фашысцкай акупацыі, у апавяданні тых, што ўвайшлі ў кнігу памяці "Я з вогненнай вёскі...", у жахі дарослых і дзяцей, у моманты перад расстрэлам, у тую самую немагчымасць сказаць, растлумачыць свята-нявінным: <u>што</u> <u>гэта</u>...*»



Вокладка першай кнігі.

Адсутнасць адказу, безабароннасць і бездапаможнасць Божых стварэнняў, вядома ж, выклікалі нямала розных думак і развагаў. «*Я буду маліцца за вас, — кажа і Папа Рымскі, больш істотна не могучы дапамагчы ў бядзе*» (Янка Брыль, «Парастак», 2006). Прачытаўшы ў «Аргументах і фактах» пра тое, што сын ярага нацыста Бормана, даведаўшыся, кім быў яго бацька, стаў святаром, Янка Брыль пераказвае жудасную гісторыю пра тое, як падчас Варшаўскага паўстання салдаты вермахту «зачышчалі» бункеры ад паўстанцаў. «*З аднаго такога сховішча раптоўна выскачыла і кінулася наўцёкі шасцігадовая дзяўчынка, але спатыкнулася і ўпала... "Пырні гэтую поскудзь штыком!" — сказаў обер-лейтэнант, і салдат забіў дзяўчынку. Яе карыя вочы, звернутыя да яго з жахам і просьбай-умольваннем, ён памятаў дваццаць пяць гадоў. Не займеў сваіх дзяцей, не мог бачыць чужых і глядзець ім у*

*вочы*». Гэты салдат прыходзіў на споведзь да Бормана-малодшага, жадаючы сам сабе найбольшых пакутаў у пекле, а праз тыдзень пасля споведзі павесіўся...

Вядома, Іван Антонавіч чытаў Біблію і нават параўноўваў тэксты на розных мовах. Яму «*цікава было параўноўваць гучанне пэўных мясцін у тэксце — польскае з царкоўна-рускім, што даўно засела ў памяці ўзнёслай красою*» («Парастак»).

Маці Івана Антонавіча Анастасія Іванаўна была веруючай і хадзіла на абедню ў царкву, а брат Ігнат (1901–1960), «ва ўладзе маральнага максімалізму», як напісаў У. Калеснік, начытаўшыся Ф. Дастаеўскага, пад уплывам вобраза Алёшы Карамазава ў 13 гадоў спрабаваў уцякаць у манастыр, а праз гады, трохі павучыўшыся ў медыцынскім інстытуце, а потым у сельскагаспадарчым, потым стаўшы настаўнікам, ажаніўшыся, урэшце вырашыў стаць святаром. Іван Антонавіч неахвотна развражаў услых пра тое, што для яго было невытлумачальным, але перакананні бліжніх (і дальніх) паважаў і не раз думаў пра тое, «*...што ўсё яно не так сабе, а павінна ж мець пэўны найвышэйшы сэнс. Занадта вялікі, занадта прыгожы наш свет, каб яму існаваць толькі каб існаваць, без высока-разумнай мэты*» («Парастак»).

У асобных апавяданнях Янкі Брыля нашы літаратуразнаўцы


Янка Брыль. 1938 г.

(Д. Бугаёў, У. Калеснік) бачылі выразныя біблейскія сімвалы (поле, каласы, жніво) і вобразы, у якіх увасоблены Крыжовы шлях Хрыста і Яго Галготы. Такі вобраз старой жанчыны з апавядання «Маці» (1957). Па сутнасці яна зрабіла тое, што рабілі многія сумленныя людзі падчас вайны — прытуліла ў хаце партызанаў і, загадзя ведаючы, што ёй пагражае за гэта, прыняла смерць.

«Перад намі відовішча апошняга шляху маці. У свядомасці яе самой ён асацыіруецца са шляхам пакут Хрыста, з вядомым ёй пакутлівым шэсцем на Галгофу. Праўда, аўтар з назвай "пакутлівы шлях", якая перадае матчына ўспрыманне падзеі, уводзіць паралельна сваё свецкае, рэалістычнае разуменне, у якім сутыкаюцца прыгожы,


З сябрам Уладзімірам Калеснікам. 1951 г.

узвышаны пачатак са зніжаным канцом. Гэта шлях "*ад роднай хаты да свежай ямы ў лапухах*". <...> Кранаюча апісана гэта шэсце маці і злоўленых ворагамі чатырох байцоў. Аўтар, як кінаапаратар, высвечвае тут рукі. Рукі байцоў скручаны ззаду калючым дротам, ворагі не перасталі баяцца гэтых мужных рук, а рукі маці не страшныя забойцам, худыя, свабодныя, і яна трымала іх, як на споведзі — "*мазалямі да мазалёў*". <...> У фінале апавядання аўтар уводзіць імправізаваную малітву маці. Гэта малітва за жыццё родных сыноў, што па сваёй волі, па абавязку сумлення пайшлі ў пекла вайны выганяць захопнікаў, і за сыноў названых, за сыноў іншых мацярок» (У. Калеснік, «Янка Брыль», 1990).

Зразумела, што старая жанчына ў сваім шляху на смерць не думала пра тое, што яна гераіня. «*Не думала аб тым, што не з адным толькі жахам глядзелі на іх паход сустрэчныя, — што вобраз яе засядзе ў сэрцы многіх мужчын горкім, няўмольным дакорам, што вочы і рукі яе ўспамінаць будуць нават дужыя людзі, выганяючы з душ апошні страх перад начной партызанскай атакай*» (Янка Брыль, «Маці». Збор твораў у пяці тамах. Том 1. 1979).

Дарэчы, у старой жанчыны з апавядання «Маці» няма ўласнага імя — магчыма, гэтак Янка Брыль, для якога ў літаратуры і жыцці не было дробязяў, падкрэсліў наканаванасць кожнага, хто прыйшоў на свет з іменем «чалавек», годна прыняць і пранесці на ўласную Галготу свой крыж...

...Усе мы створаныя па Божым вобразе і падабенстве, але ў большасці з нас гэты вобраз з цягам жыцця скажаецца, заплямліваецца, здрабняецца — так марнуецца Божы дар. У кімсьці Божы вобраз пакутуе, але ў кімсьці радуецца, хоць, як і ўсе, чалавек цягне свой нялёгкі крыж. Іван Антонавіч быў вылеплены надзвычай хараша, прыгожа, моцна, скульптурна — на вуліцах на яго азіраліся. У ім гарманічна, нату-

ральна спалучалася мужнае і чулае, чуллівае, дарослае і дзіцячае. Жыццё, гады, узрост адбіралі фізічнае, скульптурнае, але душа яго была светлаю, прыгожаю — самая таемная Божая задума (*«Господи! Душа сбылась: умысел Твой самый тайный»*, — як пісала М. Цвятаева) рэалізавалася ў Янку Брылю напоўніцу — наўрад ці ён страшэнна парушыў хоць адну з Божых запаведзяў, а як ён сапраўды любіў бліжняга, могуць расказаць не толькі яго самыя бліжнія, але і дальнія. Чалавек быў яму цікавы сам па сабе, а не з-за яго значнасці ў грамадстве, а для сябе, для дасканалення ў сабе чалавечнасці, у яго быў цвёрды прынцып: быць лепшым, але лепшым не за каго-сьці, а за самога сябе ўчарашняга.



Янка Брыль з Розаю Станкевіч, Хрысцінаю Лялько і Данутаю Бічэль. 1982 г.

Дзве апошнія прыжыццёвыя кніжачкі Янкі Брыля — «Блакітны зніч» (2004) і «Парастак» (2006) — выйшлі ў нашым каталіцкім выдавецтве «Про Хрысто». Было ў гэтым нешта знакава-сімвалічнае: замыкалася яго жыццёвае кола, і ён, народны пісьменнік Беларусі, беларускі Чэхаў, які меў добры пяцітомнік сваіх твораў і выданне ў «Кнігазборы», у руках трымаў (з радасцю!), нібы пачатковец у літаратуры, танюсенькія кніжачкі ў мяккіх вокладках — напрыканцы жыцця і творчасці, як напачатку... У «Блакітным знічы» Іван Антонавіч яшчэ раз развітаўся са сваёй Ніначкаю, змясціўшы ў кніжачцы частку іх перапіскі і, сярод іншага, запытаўся: *«Няўжо мы ўсе панараджаліся, жывем дзеля таго, каб паміраць? Наіўна простае, глыбока страшнае і крыўднае пытанне»*...

Будучы народным пісьменнікам, ён і на могілках лёг сярод народу (у Калодзішчах), каб і тут быць побач са сваёю Ніначкаю, любасць і бязмерную павагу да якой пранёс праз усё жыццё.

Ён памёр 25 ліпеня 2006 года. Многія пісьменнікі ў гэты час былі на сваіх лецішчах, у вёсках, у ад'ездзе, і таму атрымалі па пошце яго кніжачку «Парастак» з аўтографам ужо пасля яго смерці — і ў гэтым таксама праявілася яго любоў, яго ўвага і павага да бліжняга. Я атрымала ад яго кніжачку ў дзень свайго нараджэння — 8 ліпеня.

...Дарэчы, прадзеда Янкі Брыля звалі Іосіф (Ёсіп, Язэп) Брылевіч, а Брыль — гэта вясковая мянушка. Каталіцтву Іван Антонавіч сімпатызаваў праз сяброўства з Хрысцінаю Лялько, а яго ўнукі — Антон-Францішак Брыль і Оля Брыль, якая і ў замужжы пакінула сабе дзедава прозвішча, сталі католікамі...

Данута Бічэль

## Светлы ўспамін пра Янку Брыля

Асілка з Загора пяшчотна клікалі Янка.
Прыгожы, сонечны, цёплы, сунічак палянка...

Спакойны, ветлівы, пазачасовы...
рыцар, узброены словам,
усяленскай любові віцязь.
Сустракалі ў Гародні яго ў захапленні...
Прывозіў сябрам у сонечнай жмені
з Карэліч крынічную Свіцязь...

Спакойна прымаў гэты Край,
вызваляў, вандраваў без спешкі,
праменне Яго збіраў, упрыгожваў усмешкай, —
волат, асілак з дабрынёй немаўляці.
Гарнуліся да Брыля, як да мудрага бацькі...

Усе жанчыны хаваліся за яго плечы,
раўнавалі яго да паэтак наіўных...
Ён туліў сваю Беларусь, як малечу,
вучыў, як людзі з людзьмі сумаўляцца павінны...

Жанчыны на досвітку і цяперачы мараць
аб шчасці, аб свяце, аб святым аб'яўленні,
як Янка-асілак жменяй чэрпае ў Шчары
сонейка жывыя праменні...

Ды не пашлеш ні аўтобус, ні аўтамабіль —
не прыедзе ў Гародню ніколі больш Янка Брыль.
Адно застаецца — раней за сонейка ўстаць,
Памаліцца ды кнігу Брыля пачытаць...

*28 чэрвеня 2017 г.*



# Валеры МАКСІМОВІЧ

**Валеры Максімовіч —** паэт, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1962 г. у вёсцы Траянец на Лагойшчыне. Закончыў філалагічны факультэт БДУ. Аўтар зборнікаў вершаў «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012), «Сярод блукаючых планет» (2014). Даследуе нацыянальную мастацкую традыцыю, а таксама праблемы эстэтыкі і паэтыкі беларускай літаратуры. Працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі. Жыве ў Мінску.

## У МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ

*Рэпрасаваным вёскам,*
*леснічоўкам, хутарам*

Зязюліна, Барок, Вялікі Сад,
Марцінаўка, Урупава, Цяцеркі...
Бязлітасна касіў шалёны град,
Каб і з зямлі, і з памяці вас сцерці.

Каб вытруціць, каб вынішчыць датла,
Касіў знарок пад самае карэнне,
Ды так, каб ні двара і ні кала —
Ні памяці, ні роду, ні наймення.

Нямелі ў скрусе гоні і бары
І сцішана, засмучана глядзелі,
Як вёскі, леснічоўкі, хутары
Бязлюднелі, знікалі, сірацелі.

Балесны мой, пакутніцкі мой край,
Цябе наўсцяж чужынцы дратавалі,
Каб Лужын, Копань, Задарожжа, Гай
Наноў ужо ніколі не паўсталі.

Ды памяць ажывала неўпрыкмет
Валошкай палявою — сіняй-сіняй,
І харашэў наўкола белы свет
У яркім ззянні зыркае шыпшыны.

Мне не забыць — і свету не забыць,
Як людзі тут заўзята шчыравалі, —
Гаспадарамі рупіліся быць,
Ды доліцу няўцешную спазналі.

Такі цяжкі, такі гаротны лёс —
Навек пазбыцца роднага цяпельца...
Здаецца, ў сэрцы зболеным прарос
Лёс кавалёў, цярэшкаў, старасельцаў.

Ходу жыцця гвалтоўна не спыніць
І злыбяду паўсюдна не пасеяць,
Пакуль шыпшына квеценню гарыць,
Пакуль валошкі ў жыце палымнеюць.

## НА ХУТАРЫ БЫЛЫМ

На хутары, дзе я даўно не быў,
Шыпшына расквітнела на дварышчы, —
За столькі год ніхто яе не знішчыў —
І куст паўсюль атожылкі пусціў.

І запалаў шыпшынавы касцёр
У зелені святляна-прамяністай,
Нібы пунсова-яркія маністы
Сабою разуквецілі ўвесь двор.

Старыя ліпы на краі двара
Даўжэзныя раскінулі галіны.
І зноў шумяць набатна вершаліны —
Гукае рэха песню званара...

Як веры даць? — калісь жыццё і тут
Людское віравала, покуль бура —
Бязлітасная шквальная віхура —
Не ссіраціла гэты ціхі кут.

І змоўклі песні-казкі назаўжды,
І сціхлі галасы жанок у полі.
Не сеюць жыта людзі ўвесну болей,
Не лічыць ім зязюля ўжо гады.

На месцы хат — падмуркі-камяні,
А побач — склеп, што ямаю зрабіўся
І шчавуком шыракалістым сшыўся,
І сцены скрозь свідруюць карані...

Ды толькі раптам падалося мне,
Што я, хлапчук — малы, русавалосы —
Бягу па сенажаці роснай босы,
І людзі сустракаюць тут мяне.

Не проста людзі, а гаспадары:
Касяк, Станкевіч, Волах, Дзевятлоўскі,
Смаленскі, Дубаневіч і Рагоўскі —
Сышліся на Манякавай гары.

Каму з іх сын, каму я родны брат,
Мне зразумець, малому, не пад сілу.
Ды чую: ветры ўміг загаласілі —
І чорныя крыжы паўсталі ў рад.

І празвінеў хаўтурны знекуль звон
Няўмольным і жахлівым прыгаворам, —
І да крыжоў прыкутыя, сямёра
Спаткалі тут пакутніцкі свой скон.

А я здранцвеў, як бы ў зямлю урос.
І, сціснуўшы рукамі моцна скроні,
Глядзеў на іх крывавыя далоні,
Прабітыя цвікамі — ўсе, наскрозь.

Я скалануўся і — загаласіў,
Нібыта цвік прабіў няўзнак далонь мне,
Каб я заўсёды іх пакуты помніў,
Каб за пакуты тых людзей любіў...

Калі ж я апрытомнеў — нада мной
Усё яшчэ свяціла ярка сонца,
І над блакітнай далеччу бясконцай
Стаяў вячыста-казачны спакой.

І думаў я: «Дзе праўды ўсёй выток,
У чым яно, зямное суцяшэнне?..»
Ды толькі як літанне, як збавенне
Ўсё палымнеў шыпшынавы грудок.



**Альда Анараці (Aldo Onorati) —** італьянскі паэт, празаік, даследчык літаратуры. Нарадзіўся ў 1939 г. у г. Альбана пад Рымам. Выкладаў італьянскую мову і літаратуру, супрацоўнічаў з газетай «*L'Osservatore Romano*» і іншымі італьянскімі перыядычнымі выданнямі. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы, перакладзеных на 20 моваў, даследчык літаратуры, у прыватнасці, творчасці Дантэ. Супрацоўнічаў з італьянскім тэлебачаннем (перадачы на тэму школы і выхавання), займаўся выдавецкай дзейнасцю. Прымае актыўны ўдзел у папулярызацыі італьянскай літаратуры, шмат выступае з лекцыямі.

# Альда Анараці

## Верасень

На світанку
званіцы цень утварае крыж
з тваёй дарогай,
увечары –
з маёй...

## Крыж чакае

Ты пакутаваў дзеля Тваёй любові, Езус;
я пакутую дзеля маёй любові.

...А ў канцы кожнай сцяжыны
заўжды стаіць крыж і чакае...

## З кнігі вершаў «чалавек + Чалавек і прыйдзем да Бога»[1]

*(Нацыянальная прэмія імя святога Францішка Асізскага за 1963 г.)*

I

*Прысвячаецца Джорджо Барберы Сквароцці*

Сёння раніцай плачуць шыбы.
Прыйшла ап'янелая восень.

На галіне, што гайдаецца ў садзе,
вісіць мая плашчаніца
і не жадае жоўкнуць.

Далятае
з лесу водар грыбоў, з зямлі
плач пахаваных рук.

Вільготная лава таверны
пад шатамі дрэваў на ветры халодным,
які распранае галіны;
падзенне пяшчотнае матылёў,
ружовых і жоўтых,
на мармуры мёртвых і на пустазелле

[1] Onorati Aldo. Uomo + uomo e arriveremo a Dio / Torino : Marietti, 1964.

агульных магілаў, дзе крапіва
ног не пячэ і не змушае чырванець лыткі
таго, хто прыйшоў без кветак
і без намеру вярнуць паснулыя ўспаміны,
дарэмна згаслыя жыцці.

Некалі ў далёкім «заўтра»
пад дажджом квітнеючых вішняў
будзе цішыня без некропаляў
(можа, Зямля сама
саслізне з неба),
без калонаў чыстца і без
прорваў пекла,
а толькі рай, толькі рай...

II

Між гэтых бязмоўных развалін
я — быццам ягнятка, што прайшло
праз тысячагоддзі.
І я п’ю жыццё,
як водар густога разарыя,
які ўжо губляе пялёсткі і адцвітае...
Цалую зёлкі на гэтых каменнях,
бо ведаю, што памру,
як той, хто іх высек,
як авечка, што выскубла траву
паміж шчылінаў.
І пакуль смяецца час на маіх вуснах,
неба цямнее
і, як слёзы быцця, застаюцца
кроплі дожджу на мурах...

*Люты 1962 г.*

## Пасха

1

Застаялася ў мёртвых водах зіма,
Але прарастаюць лісцем галіны
над нясмелымі цыкламенамі.
Я ўбачыў куст, да мяне падобны,
Заўтра будем разам спаць на зямлі.
Больш не будзе вёснаў.

2

У гэтым лесе кожная расліна – крыж.
Кожны чалавек — Хрыстос,
які чакае сваёй чаргі.
Я бачыў уночы свой цень, адбіты месяцам,
Возера было, як вадкае цела.
Я спыніў лодку, але не выйшаў.

3.

Літасцівая смерць не ідзе мяне вызваляць.
Не хачу іншага жыцця,
Хопіць гэтага прысуду, каб зламаць мяне.
Дзякуй, мой Божа, што больш не прыйду на зямлю.

*Раміторыё, 22 красавіка 1962 г.*

## Жнівеньскі накцюрн

1

Між асветленых зорамі сліваў
згубіўся водгалас звона,
музыка сфераў сышла
праз фільтр павуціння
у прывідную ноч.

Двойчы ложак мяне адштурхоўваў,
бессань — няўмольны прысуд,
як халодны бязлітасны дэман
ў галаве.

Што кажуць свяцілы?
Нічога: яны занадта халодныя...
Скажа больш тваё грэшнае сэрца,
што цяпер ад любові згарае.
Учора я Бога шукаў між бясконцых прастораў.
Сёння знайшоў у тваіх пакаянных вачах,
у нашых абдымках, трапяткіх і адчайных,
у тым няўлоўным, што імкнемся схапіць.

2

Над белай дарогай без месяца
голас разгубленай істоты,
перасычанай зернем і пазбаўленай слова,
— таго, што дарам і пакараннем
рассоўвае цемру і робіць датыкальнай пустэчу...

Ты знаходзішся па-за тым
палохаючым даляглядам.
Прасцей лічыць цябе мёртвай, чым ведаць,
што ты далёка.

3

Хутка развіднее;
у даўнейшага чалавецтва быў пастух,
які, адштурхнуўшы ноч,
на блекатанне статку разліў
самоту.
Бог паўтараецца цудоўным чынам.

4.

Брэша недзе сабака рэхам даліны.
Асляня пазяхае з гары.
І зноўку звоніць звон,
Адбівае з сэрцам маім
глухі і сумны
рытм.

*Арвіньё, 1962 г.*

VII

Нядаўна сышла цемра, узышоў месяц... а ўжо зоркі затрымцелі, каб збегчы. Каб я мог затрымаць іх водбліск, пакуль узыду яшчэ на некалькі камянёў, пакуль вярнуся дахаты, зачыню аканіцы ад сонца, што ўсё адкрывае, нават галечу і гнюснасць... Не паспяваю дайсці, як узыходзіць раптоўны дзень! Гэтае святло накрывае думкі, праганяе іх прэч. Вось чаму такая пяшчотная цемра: яна кароткая і таямнічая, як жыццё.

IX

Сёння ўночы месяц
мае смак граната.

Месяц адбіваўся
за тымі дрэвамі,
калі ў вачах тваіх хлапчукоў купаліся
нястрымная гарачнасць і няўтульнасць
жыцця.

Між нашых засяроджаных зрэнкаў
слізгала месяцовае лязо.

Мы выраслі ў целе
(гаварылі: у граху).
Мы абое былі — і нас няма.
Кожны дзень мы змяняемся.
Любімая дзяўчынка з дзіцячых сноў
састарылася і памерла,
так,
як я сам нарадзіўся і быў пахаваны
у маленькай яміне ўспаміну,
вільготнай і цёмнай,
выкапанай уночы месяцовым промнем...

## Нашаму Айцу

Гэтае сонца, што шліфуе
лісце,
што фарбуе промні ў восеньскай вадзе,
гэтае сонца, што разрывае
круг далягляду;
гэтае дыханне Бога, што сыходзіць
на залатыя профілі ўзгоркаў
і праходзіць праз вочы, раскрытыя ў неба;
гэтая раніца, светлая ад голага вецця,
крычыць, што чалавек прыняў
смерць
і ўзнавіў дамовы
аб вечнасці
з Богам!

XXI

Калі на нашым свяце
мы прымем боль як сябра,
то ўзыдзем вышэй за анёлаў няйнач,
у чые дзверы не стукае плач.

## Люблю

Люблю Бога, які абраў мяне за сына,
калі зрабіў чалавекам.
Люблю зямлю, бо змушае мяне
глядзець на неба.

Люблю цела, калі яно бунтуе, як раб,
супраць духу,
схіляе пераможаную галаву
і скараецца.

Люблю сонца, што адкрывае рэчы,
і цемру, што іх хавае.

Люблю блакітную цішу
і навальніцы.

Люблю цябе, бо павядзеш мяне ў сад,
як толькі абвесціцца ноч, а ўсмешка
зробіцца двухсэнсоўнаю.

Люблю самога сябе,
бо жыву і сябе ствараю,
бо хачу скараціць
хоць адлегласць любові
між мною
і Богам.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*

Андрэй Шпунт

# ЛІТОЎСКІ АРЫСТЫД

*«З Белапятровічам каго мы зараз змерым? »*
Адам Міцкевіч, «Пан Тадэвуш».



Герб «Абданк».

Макіявэлі сцвярджаў, што палітыка і мараль — рэчы вельмі розныя, а таму для дасягнення палітычных мэтаў усе сродкі добрыя. У другой палове XVIII ст. наш суайчыннік Юрый Белапятровіч нагадаў і цвёрда засведчыў, што грамадска-палітычная дзейнасць можа і павінна падпарадкоўвацца нормам хрысціянскай маралі.

Трэба было мець сапраўды выдатныя цноты, каб не згубіцца ў тагачасным віры з усімі канфедэрацыямі, рокашамі*, свавольствам магнатаў, іншымі шляхецкімі «забавамі» і быць названым «літоўскім Арыстыдам».

Нярэдка россып адрывачных, ускосных звестак аб пэўнай постаці складаецца ў цэльны, яркі вобраз. Больш за тое, нават калі б і не было гэтых звестак, а была толькі нейкая дэталь, напрыклад, мянушка — і гэтага бывае дастаткова, бо, як ні дзіўна, пра людзей, якія жылі шмат стагоддзяў назад, мы ведаем часцей куды болей. Яны — нібы зорнае святло, водблеск якога падае на кагосьці з нашых забытых суайчыннікаў, і таму іх постаці становяцца выразнымі і зразумелымі. Ведаючы пра Арыстыда, мы ведаем і пра Белапятровіча, і тыя звесткі, што маем, тыя рысы, па сутнасці толькі робяць партрэт (якога няма) нашага героя больш поўным.

Арыстыд (каля 540–467 гг. да Н.Х.) — афінскі палкаводзец і дзяржаўны дзеяч эпохі грэка-персідскіх войнаў. Герой бітваў пры Марафоне, Саламіне і Платэях; камандуючы Афінскім флотам (478 г. да Н.Х.); стваральнік Дэласкага саюзу (Афіны і грэчаскія полісы Малой Азіі); захавальнік саюзнай касы (477 г. да Н.Х.).

На тле разнастайных выдатных афінскіх постацяў — Фемістокла, Кімона, Нікія, Алківіада, Дэмасфена і нават Перыкла — Арыстыд адзіны, у кім шматлікія антычныя аўтары — Герадот, Тымакрэонт Радоскі, Арыстафан, Платон, Карнэлі Непат, Плутарх — не знайшлі ніводнага недахопу: ён заўсёды справядлівы, сумленны, непадкупны і бедны. У XIX ст. да гэтых характарыстык далучыліся такія буйныя даследчыкі старажытнай Грэцыі, як Джордж Грот, Макс Дункер і Эрнст Курцыюс.

З-за інтрыгаў свайго апанента Фемістокла ў 482 г. да Н.Х. Арыстыд быў падвергнуты астракізму і з'ехаў у Эгіну. Паводле Плутарха, калі адбываўся збор астраконаў (чарапкоў), нейкі непісьменны селянін працягнуў Арыстыду — першаму, хто трапіўся яму насустрач, — чарапок і папрасіў напісаць імя «Арыстыд». Той запытаў, ці не пакрыўдзіў яго нейкім чынам гэты Арыстыд. «Не, — адказаў селянін, — я нават не ведаю гэтага чалавека, але мне надакучыла чуць на кожным кроку «справядлівы» ды «справядлівы». Арыстыд нічога не адказаў, напісаў сваё імя і вярнуў чарапок.

Падчас уварвання персаў у Грэцыю Фемістокл, карыстаю-

---

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Статуя Арыстыда ў Ватыкане.

чыся зручным момантам, прапанаваў, як сапраўдны палітык у сучасным разуменні гэтага слова, «план карысны і выратавальны для афінянаў», — спаліць увесь саюзны флот грэкаў, каб Афіны засталіся адзіным полісам Элады з ваенна-марскім флотам. Арыстыд адказаў, «што няма нічога больш карыснага, але ў той жа час больш несумленнага, чым тое, што задумаў Фемістокл», і афіняне адмовіліся ад гэтага плану.

Пасля бітвы пры Платэях, калі персы былі ўшчэнт разбітыя, паміж афінянамі і спартанцамі разгарэлася спрэчка, каму аддаць узнагароду за храбрасць. Арыстыд угаварыў іх аддаць яе нейкаму трэцяму гораду. Гэта былі Платэі.

Пасля адыходу ад палітыкі Арыстыд не стаў прымаць удзелу ў цкаванні свайго старога апанента Фемістокла.

Жыццяпіс Юрыя Белапятровіча (1740 г. – 16 сакавіка 1812 г.), змешчаны ў айчынных і замежных энцыклапедычных выданнях, на першы погляд, нічым асабліва не вылучаецца ў шэрагу шматлікіх пералікаў службовых пасадаў. Але толькі на першы погляд, пакуль вока не чапляюць эпітэты-аздабленні, якіх не ўдастоіўся ніводны з магнатаў (зразумела, адкідваючы ліслівую патаку сучаснікаў і іншых падхалімаў).

Адзіны з найдастойнейшых людзей ВКЛ паходзіў з беларускай шляхты герба «Абданк» — ён быў сын Юзафа, харунжага літоўскага, і Ганны з Панкевічаў; стражнік лідскі, які падпісаў элекцыю Станіслава Аўгуста (1764), лоўчы лідскі (1771), сакратар малой пячаткі літоўскай (1771–1784), суддзя гродскі-наваградскі (1780–1784), сябар Пастаяннай Рады, дарадца Дэпартамента справядлівасці (1780–1784), пісар вайсковы літоўскі (1783–1787), ротмістр Нацыянальнай кавалерыі (1787).

Ва «Успамінах ягамосці пана Севярына Сапліцы, чашніка парнаўскага» (Kraków, 1928), стылізаваным пад творы XVIII ст., творы, якія натхнілі Адама Міцкевіча на стварэнне «Пана Тадэвуша», Генрык Жавускі апісвае падзеі наваградскага сойміка 1781 г., калі на выбары земскага пісара з’ехалася больш за чатыры тысячы шляхты і сутыкнуліся дзве групоўкі ваяводы віленскага Караля Радзівіла (пане Каханку) і ваяводы наваградскага Юзафа Несялоўскага. У адным з эпізодаў чытаем: «На гэта мы ўсе <...> выхапілі шаблі і разбілі бы ўшчэнт партыю пана ваяводы наваградскага, бо нашых было ў чатыры разы болей, але пан Юрый Белапятровіч, які быў паўсюдна шанаваны і ў абодвух партыях меў вялікае значэнне, гэта прадухіліў. Упрасіў, каб мы ўсе склалі шаблі ў ножны».

На гарадзенскім Сойме ў 1784 г. большасць выказалася за пазбаўленне пісараў вайсковых голасу, і Белапятровіч выйшаў з Пастаяннай Рады, а таксама адмовіўся ад шэрагу пасадаў. (У бочку з дзёгцем трапіла і лыжка мёду — у верасні 1784 г. Станіслаў Аўгуст па дарозе на Сойм наведаў Белапятровіча ў яго маёнтку Брыцянкі і на развітанне падараваў жонцы гаспадара «прыгожы гадзіннічак».)

Некалькі гадоў Белапятровіч заставаўся ў баку ад грамадскіх справаў (калі не лічыць удзелу ў дэпутацыі па ўпарадкаванні но-

вага праўнага кодэксу ў 1792 г.), азмрочаных 2-м падзелам Рэчы Паспалітай, але менавіта ён, найдастойнейшы Белапятровіч, 24 красавіка 1794 г. у Вільні, стоячы на ратушнай плошчы на ўзвышэнні пасярод карэ войскаў сталічнай залогі агучыў (і падпісаў) «Акт паўстання народу ВКЛ». Падчас паўстання Белапятровіч быў сябрам Вышэйшай літоўскай Рады, суддзёю крымінальным літоўскім, кіраўніком аддзелу вайсковых патрэбаў у Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ.

Пад назваю Крымінальны суд дзейнічаў рэвалюцыйны трыбунал, які на працягу 24 гадзінаў разглядаў справы, звязаныя са здрадаю Бацькаўшчыне. Адам Міцкевіч у тлумачэннях да «Пана Тадэвуша» дае сціслую характарыстыку Белапятровічу: «апошні пісар Вялікага Княства Літоўскага прымаў чынны ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Ясінскага. Судзіў у Вільні палонных за здраду народнай справе. Чалавек справядлівы і патрыятычны, вельмі ў Літве паважаны». Зразумела, што адпраўляць на шыбеніцу людзей, нават калі гэта і ворагі Бацькаўшчыны, справа, мякка кажучы, малапрыемная, і трэба аддаць належнае кіраўніцтву паўстання, аддаўшага цяжар гэтых рашэнняў у чыстыя рукі Белапятровіча. Гэта таксама характарызуе ўладу, калі, напрыклад, параўнаць Белапятровіча з такімі людажэрцамі, як Андрэй Вышынскі ці Роланд Фрайслер.

Пасля падаўлення паўстання імя Белапятровіча зноў знікае з дакументаў. У 1808 г. яго імя сустракаецца ў якасці сябра судовай камісіі па пытаннях фінансавання асветы, а ў 1810 г. — заснавальніка і першага старшыні Таварыства дабрачыннасці ў Наваградку (аднаго з шэрагу, што паўставалі на землях былой Рэчы Паспалітай у пачатку XIX ст. замест скасаваных акупацыйнымі ўладамі аналагічных касцёльных арганізацый).

Як вядома, адразу пасля Тыльзіцкага міру 1807 г. паміж Францыяй і Расеяй пачалі нарастаць супярэчнасці, у ходзе якіх абодва бакі, рыхтуючыся да іх канчатковага вырашэння на землях былога ВКЛ, разлічвалі на выкарыстанне мясцовых рэсурсаў. Але, пакуль Юзаф Выбіцкі абяцаў Напалеону 100 000 войска, якое будзе сустракаць яго на тым баку Нёмана, Аляксандр I рабаваў наш Край бесперапыннымі рэкруцкімі наборамі і разнастайнымі падаткамі, якія перавышалі агульнаімперскія ў пяць разоў! Нарэшце, калі было высмактана ўсё, што магчыма, расейскі імператар заклапаціўся аб пашырэнні сацыяльнай базы, аслабіў падаткі і пачаў праводзіць усялякія ліберальныя рэформы. Ён разлічваў прыцягнуць на свой бок тую частку вярхоў нашага народу, якая арыентавалася на Напалеона і Варшаўскае герцагства, у чым знайшоў падтрымку былога падскарбія ВКЛ і ўдзельніка паўстання 1794 г., аўтара слыннага паланэза, а тады расейскага сенатара і тайнага саветніка Міхала Клеафаса Агінскага. Напрыканцы 1811 г. Агінскі зрабіў беспаспяховую спробу склікаць у Менску з'езд найбольш аўтарытэтных грамадзянаў былога ВКЛ. Белапятровіч быў далёкі ад усялякіх сумніўных прагматычных разлікаў. Яго імя значылася ў спісе арганізатараў планаванага паўстання ў былым ВКЛ, што змяшчаўся ў «Мемарыяле», які атрымаў Напалеон у Фінкенштэйне яшчэ вясною 1807 года.

...Белапятровічу не хапіла жыццёвага часу, каб прывітаць пераможныя напалеонаўскія войскі. Неўзабаве стане зразумела, што, паміраючы сярод усеагульнага ўздыму і надзеі, той непараўнальна перададзенай Адамам Міцкевічам атмасферы, ён, на шчасце, не ўбачыў зыходу некалі сапраўды Вялікай Арміі...

* Рокаш — недавер каралю.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Емяльянчык У. Белапятровіч Ежы//ЭГБ. Т. 1. — Мінск, 1993. — С. 345.
2. Емяльянчык У. Паланэз для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі). — Мінск, 1994.
3. Аристид//Энциклопедический словарь Брокгауза и Ефрона. Т. 1. — Москва, 1991. — С. 420–421.
4. Аристид [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: file://commons.wikimedia.org/wiki/category:Aristides. Час доступу: 02.12.2015.
5. Białopiotrowicz Jerzy//Encykłopedyja powszechna. T. III. — Warszawa, 1860. — S. 395–396.
6. Iwaszkiewicz. J. Litwa w roku 1812. — Kraków — Warszawa, 1912.
7. Mościcki H. Białopiotrowicz Jerzy//PSB. T. II. — Kraków, 1936. — S. 15–16.
8. Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. — Warszawa — Lublin — Lódź — Kraków — Poznań, 1917.
9. Rzewuski H. Pamiątki Soplicy. — Kraków, 1928. — S. 25–35.



Яніна Грыневіч

# Песня — душа народа

*Да 140-годдзя з дня нараджэння Антона Грыневіча*

У гэтым годзе споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння руплівага збіральніка беларускага музычнага фальклору, педагога, кампазітара, выдаўца Антона Грыневіча. Нарадзіўся ён 3 (ст.ст.) мая 1877 г. на хутары Іваноўшчына Лепельскага павета Віцебскай губерні (цяпер — Полацкі раён). Яго бацькі — Антон Пятровіч Грыневіч і Фаўстына Сымонаўна Кеўліч — паходзілі з беззямельнай шляхты — землябробаў. З 1885 г. Антон вучыўся ў народнай школе, а пасля — у Дзісенскім гарадскім вучылішчы, якое скончыў у 1891 годзе. Наступныя яго гады прайшлі за працаю на гаспадарцы, бо бацька памёр яшчэ ў 1887 г., а старэйшы брат не дбаў пра далейшую адукацыю Антона.

У 1896 г. Антон Грыневіч пераехаў у Пецярбург, дзе ўладкаваўся на службу ў Казённую палату, а праз паўгода — у Дэпартамент гандлю і прамысловасці (займаў канцылярскую пасаду да 1915 г.). Адчуўшы недахоп адукацыі, у 1900 г. Антон Грыневіч прыняў рашэнне працягнуць навучанне на вячэрніх курсах бухгалтэрыі і моваў, а пазней — на сярэднеадукацыйных курсах.

З 1906 г. свой вольны час ён прысвячае дзейнасці на карысць беларускага культурнага адраджэння. Перш за ўсё Антон Грыневіч пачаў збіраць беларускую вусна-паэтычную творчасць, вандруючы ў час летніх адпачынкаў па родным краі. Ён лічыў, што менавіта народныя песні *«адбіваюць у сабе душу чалавека, яго боль і гора, яго патрэбы, жаданні і самое жыццё. Як па твару пазнаюць чалавека, так па песні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар і душа»* [1, с. 82]. Яго мэта — арганізацыя спявацкіх гурткоў і падрыхтоўка песеннага матэрыялу для іх.

Творчы дэбют А. Грыневіча адбыўся падчас выступлення Беларускага студэнцкага хору ў Пецярбургу ў красавіку 1909 года. Ён не перапыняў навучання тэорыі музыкі і спеву. Наведваў заняткі ў сярэднеадукцыйнай музычнай школе С. Лепунова.

У перыяд з 1908-га па 1910 г. А. Грыневіч актыўна дапамагаў беларускаму выдавецтву «Загляне сонца і ў наша аконца», дзе вёў канцылярыю і рахункі. Атрымаўшы неабходны досвед, пачаў самастойна займацца выдавецкай справаю. У 1910–1913 гг. на зробленыя вячэрнімі заняткамі грошы апублікаваў зборнік твораў Я. Купалы «Гусляр», паэму «Адвечная песня», кнігі Я. Коласа «Прапаў чалавек», «Тоўстае палена», «Нёманаў дар», а таксама «Апавяданні» У. Галубка, зборнікі «Праклёнашы» Л. Гвазда, «Аб чым шэпацелі лісьця» Таўруса.

У гэты ж час пабачылі свет «Беларускія песні з нотамі» (у двух сшытках, другі — сумесна з А. Зязюлем), куды ўвайшлі абрадавыя і пазаабрадавыя песенныя творы. Вядомы беларускі фалькларыст Арсень Ліс справядліва адзначыў, што праз гэтыя зборнікі «ў культурна-грамадскі ўжытак уводзілася беларуская народапесенная класіка, што было надзвычай актуальна» [2, с. 370].

У 1911 г. разам з Янкам Купалам Антон Грыневіч запісваў беларускі песенны фальклор у

Акопах, дзе маці паэта арандавала зямлю.

З 1915-га да 1918 г. А. Грыневіч працаваў загадчыкам мастацкай падсекцыі ў Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Маскве, а пасля пераехаў у Мінск, дзе стаў загадчыкам Беларускага народнага дому. Тут Антон Грыневіч разгарнуў актыўную культурную дзейнасць: арганізаваў бібліятэку, драматычную трупу, ставіў спектаклі, канцэрты і г.д. Акрамя таго, ён працягваў чытаць лекцыі па спевах у школе.

У 1920 г. пасля пераезду ў Вільню А. Грыневіч выдаў за ўласны кошт зборнікі «Школьны спеўнік» і «Народны спеўнік». У «Школьным спеўніку» — першым беларускім музычным падручніку для школы — надрукаваныя не толькі народныя вусна-паэтычныя творы, але і песні на словы беларускіх пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, Г. Леўчыка.

У 1921 г. на працягу васьмі месяцаў А. Грыневіч знаходзіўся ў Лукішскай турме за рэвалюцыйную дзейнасць, пасля чаго працаваў сакратаром у Беларускай цэнтральнай школьнай радзе ў Вільні пад узмоцненым наглядам польскай паліцыі.

У 1922 г. А. Грыневіч атрымаў кваліфікацыю педагога па вакале на спецыяльных курсах, у 1923 г. чытаў лекцыі па спевах у Віленскай беларускай гімназіі. У гэты ж час ён уклаў і надрукаваў уласным коштам дапаможнік «Навука спеву», задачаю якога была папулярызацыя беларускай народнай творчасці праз арганізацыю школьных хароў. У 1925 г. у Вільні быў апублікаваны «Дзіцячы спеўнік», у які ўвайшлі творы дзіцячага фальклору, запісаныя ад розных грамадскіх дзеячаў. Даследуючы дзейнасць збіральніка, А. Ліс прыйшоў да высновы, што Антон Грыневіч — «узор руплІўца на ніве народнага мастацтва, самаахвярнага барацьбіта за яго ўздым» [3, с. 151].

У канцы 1924 г. польская ўлада аднавіла судовую справу супраць А. Грыневіча, што змусіла яго да ўцёкаў у Мінск у пачатку 1925 года.

Перыяд з 1925-га да 1928 г. займала праца ў Інстытуце беларускай культуры на пасадзе сакратара створанай у сакавіку 1925 г. музычнай падсекцыі. Калі была створаная Камісія беларускае песні, яе ўзначаліў менавіта А. Грыневіч. Асноўным кірункам дзейнасці камісіі было «збіранне беларускай народнай песні, яе вакальная апрацоўка і выкарыстанне праз школьныя і народныя хоры, а таксама выданне іх у друку» [4, с. 55]. Для заахвочвання збіральніцкай дзейнасці А. Грыневіч апублікаваў «Праграму-інструкцыю для зьбіральніка беларускай музычна-этнографічнай творчасьці» на старонках часопіса «Наш край», які адыграў значную ролю ў развіцці беларускай фальклярыстычнай навукі [5, с. 45—48], друкаваўся таксама ў газеце «Савецкая Беларусь» [2, с. 370], прымаў удзел у выездах на Палессе, у паўночныя раёны Беларусі для збору народных твораў.

Падчас працы ў музычнай падсекцыі А. Грыневіч правёў значную навуковую работу, апрацаваўшы і выдаўшы кнігу па беларускай музычнай тэрміналогіі (каля 900 словаў-тэрмінаў). Таксама былі экспертаваныя яго выданні «Школьны спеўнік» і «Зборнік народных песень».

За гэты час ім былі падрыхтаваны да друку такія працы як: «Гудочак» — дзіцячы спеўнік з гульнямі, «Родныя гукі» — спеўнік для аднародных хораў, «Пачатковыя музычныя правілы і практыкаванні ў сьпеве для школ і харавых гурткоў». Акрамя таго, рыхтаваў да друку кніжачку «Асновы мастацкага спеву», зборнік «Матэрыялы аб беларускіх народных танцах, гульнях, карагодах, танках і г.д.», сабраных за 23 гады сваёй працы», якія, на жаль, не былі апублікаваныя.

Далейшы лёс Антона Грыневіча склаўся трагічна: ён быў арыштаваны НКУС у верасні 1933 г., зняволенны ў лагеры і расстраляны ў 1937 годзе. Рэабілітаваны 16.08.1956 года.

Антон Грыневіч пакінуў значны след у гісторыі беларускай фальклярыстыкі і этнамузыкалогіі. Вынікам яго шматгадовай дзейнасці сталі запісы народных песняў (больш за 900), зробленыя ў розных кутках Беларусі. Ён не толькі сабраў значную колькасць беларускіх народных песняў, але і вывеў у шырокі свет сапраўдныя шэдэўры лірычнай песні, папулярызаваў песенныя творы на словы Я. Купалы.

Спадчына нястомнага збіральніка, якая сёння захоўваецца ў Інстытуце літоўскай літаратуры і фальклору (Вільнюс) у рукапісным фондзе літоўскага фальклору (каля 300 песняў), у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (каля 300 песняў), а таксама змяшчаецца ў многіх спеўніках, не страціла сваёй навуковай значнасці і сёння.

**Літаратура:**

1. Беларускі каляндар «Нашай Нівы» на 1912 г. — Вільня : Друк. Марціна Кухты, 1912. — 105 с.
2. Ліс, А.С. Грыневіч Антон Антонавіч / А.С. Ліс // Беларускі фальклор : энцыклапедыя : у 2 т. Т.1. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БелЭн, 2005. — С. 370.
3. Ліс, А. С. Песня прасілася ў свет / А. С. Ліс // Полымя. — 1966. — № 2. — С. 151.
4. Цьвікевіч А. І. Інстытут Беларускае Культуры / А.І. Цьвікевіч. — Мінск : Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. — С. 55.
5. Грыневіч А. Праграма-інструкцыя для зьбіральніка беларускай музычна-этнографічнай творчасьці / А. Грыневіч. — Наш край. — №1. — 1925. — С. 45—48.

Святлена Немагай

# АРГАННЫЯ РЭФЛЕКСІІ СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

*«Няхай спявак далучае голас свой да найсур'ёзнейшага інструмента музыкі, якім з'яўляецца арган, які з усім багаццем сваіх сродкаў гатовы да паслугаў Майстра».*

С. Манюшка

Пасля малітвы ў Вастрабрамскай капліцы, якая вітае і благаслаўляе кожнага падарожнага ў колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, шпацыруючы па вулках старадаўняй Вільні, немагчыма прамінуць утульны дворык Віленскага ўніверсітэта і касцёл святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста. Прысутнасць у тытуле святыні імёнаў двух магутных для хрысціянскай веры постацяў нібы запраграмавала яе шматзнакавасць для ліцвінска-беларускай культуры. Менавіта ў гэтым касцёле ў розных часавых прасторах-вымярэннях сыходзіліся жыццёвыя пуцявіны многіх велічных, легендарных для нашай гісторыі асобаў. У адной з капліцаў касцёла — родавым маўзалеі, аздобленым Тадэвушам Агінскім, завяшчаў пахаваць сябе аўтар паланэза «Развітанне з Радзімай» Міхал Клеафас. У мурах касцёла свае малітвы і надзеі ўзносілі да Бога Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Антоні Адынец, Ігнацы Дамейка, Уладзіслаў Сыракомля. Каля сямнаццаці гадоў жыцця аддаў творчаму служэнню ў гэтай святыні і Станіслаў Манюшка, светлы бюст якога на фоне велічных арганаў сёння ўпрыгожвае балюстраду хораў касцёла. На шляху да 200-гадовага юбілею нашага таленавітага земляка мы ўзгадваем яго дзейнасць арганіста і таленавітага касцёльнага музыканта.



Станіслаў Манюшка.
Партрэт з «Віленскага альбома»
Я. К. Вільчынскага.

Творчы партрэт Станіслава Манюшкі — вялікага опернага Майстра, аўтара цудоўных песняў — будзе няпоўным без успаміну пра яго багаты плён на ніве рэлігійнай музыкі. Узнёслыя, невыказна прыгожыя і вельмі глыбокія творы для касцёла, поўныя крышталёвай духоўнай чысціні, выходзілі з-пад пяра кампазітара на працягу ўсяго жыцця. Шчырая вера ў Бога была для яго жывой крыніцаю натхнення, а касцёльная музыка — натуральным і нават жыццёва неабходным выяўленнем яго асобы. Сярод дзевяноста твораў кампазітара з сакральнаю тэматыкаю — сем месаў на лацінскі і польскі тэксты, чатыры манументальныя «Вастрабрамскія літаніі», харавыя матэты, гімны і псальмы, сольныя рэлігійныя песні і дуэты, а таксама арганныя транскрыпцыі вядомых касцёльных спеваў.

Многія з гэтых твораў сталі надзвычай любімымі сярод вернікаў — яны выконваліся і ў часе штодзённых Імшаў, і падчас розных урачыстасцяў.

Жыццядайнаю глебаю для касцёльных кампазіцый Станіслава Манюшкі стала яго нястомная дзейнасць сапраўднага хрысціяніна і музыканта. Ён стаяў каля вытокаў адраджэння сакральнай музыкі ў Вільні, апярэджваючы Цэцыліянскі рух, які афіцыйна зацвердзіўся ў Еўропе толькі ў канцы 1860-х[1]. Ініцыятар стварэння Таварыства

**Святлена Немагай** — музыказнаўца-беларусіст, кандыдат мастацтвазнаўства. Нарадзілася ў Мінску ў 1974 годзе. У 1998 г. скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Музычная беларусістыка» і ў 2007 г. — па спецыялізацыі «Арган». У 1998-1999 гг. стажыравалася ў Акадэміі музыкі імя І. Я. Падэрэўскага ў Познані. Лаўрэат прэміі НАН Беларусі імя В. Ф. Купрэвіча для маладых навукоўцаў (2008). З 2008 г. — намеснік мастацкага кіраўніка Творчага аб'яднання «Беларуская капэла» пры НАВТ оперы и балета Рэспублікі Беларусь. Аўтар манаграфіі «Жыццё і творчасць М. К. Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнага асяроддзя» (2007).



С. Манюшка за мануаламі арганаў касцёла святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста ў Вільні. Малюнак Чэслава Манюшкі.

аматараў касцёльнай музыкі пры касцёле святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста, кампазітар арганізоўваў духоўныя канцэрты, кіраваў хорам, заснаваў музычную школу для сіротаў пры Таварыстве дабрачыннасці, ладзіў заняткі ў прыкасцёльных залах, зрэшты, уласнай творчасцю будаваў падмурак для цалкам новага для свайго часу гучання і ўспрымання музыкі ў святынях.

Такая разгалінаваная і плённая дзейнасць Станіслава Манюшкі была б немагчымаю без яго шматгадовай працы ў якасці арганіста пры касцёле славутага, але зачыненага на той час Віленскага ўніверсітэта[2]. Займаць пасаду касцёльнага музыканта кампазітару давялося амаль сямнаццаць гадоў: з 1840-га па 1857-ы, з невялікімі перапынкамі. Першы біёграф кампазітара Аляксандр Валіцкі ўзгадваў, што ўмова абавязвала Станіслава Манюшку іграць на Сумах, урачыстасцях і святах, аднак пабожнасць кампазітара і ўнутраняя патрэба рэгулярнага наведвання касцёла звычайна прыводзіла яго да інструмента штодзённа, і свой ранак ён пачынаў за арганнаю клавіятураю на самых першых Імшах, прымарыях[3].

Сваёю рупліваю працаю С. Манюшка дэманстраваў цалкам новы, творчы падыход да абавязкаў арганіста. Яго высокапрафесійная ігра парушала і разам з тым змяняла стэрэатыпныя ўяўленні віленскай грамадскасці аб дзейнасці касцёльнага музыканта і яго нізкім статусе ў сацыяльнай іерархіі: «Асвечаныя асобы шанавалі вопытнага і адукаванага музыканта пры арганах, <...> аднак пераважная большасць, прызвычаеная да мясцовых арганістаў, нярэдка музычна «напаўпісьменных» самавукаў, якіх выкарыстоўвалі, як правіла, для штодзённых паслугаў пры пробашчах, не мела даверу да кваліфікацыі музыканта, які сядаў за арганную клавіятуру», — зазначаў выдатны знаўца творчасці С. Манюшкі прафесар В. Рудзінскі[4].

Зразуменне нюансаў «невыгоднай» у вачах соцыума дзейнасці арганіста магло б у хуткім часе адштурхнуць ад яе Манюшку. На шчасце, вялікую падтрымку — найперш маральную — ён атрымаў у асобе ксяндза-дэкана, пробашча касцёла Яна Меню, які ў 1839 г. арганізаваў дэбютны канцэрт кампазітара ў Вільні. Сярод святароў краёвай сталіцы Меню меў рэпутацыю аднаго з найбольш адукаваных, бо вылучаўся сваімі перадавымі поглядамі. Нават падчас выездаў С. Манюшкі ў Пецярбург і Варшаву ён выплочваў кампазітару рэгулярны заробак, што давала яму магчымасць утрымліваць сям'ю, мець творчы рост і спадзявацца на далейшыя жыццёвыя перспектывы.

Думаецца, аднак, што на малаперспектыўнай пасадзе арганіста Манюшку ўтрымлівала яшчэ і яго глыбокая вера. Да самага канца жыцця яна была ў яго, быццам у дзіцяці, — светлая, чыстая, удзячная, незаплямленая сумненнямі і расчараваннямі. Яе не маглі пахіснуць ні матэрыяльныя цяжкасці, з якімі кампазітар сутыкаўся ажно да скону, ні смерць яго дзяцей, ні цяжкая, нястомная праца. Ролю рэлігійнага светапогляду ў працэсе творчага натхнення кампазітара выразна акрэслівае ўспамін яго сына Станіслава:



Віктар Кажынскі і Станіслаў Манюшка (з правага боку) пры касцёльных арганах. Малюнак Чэслава Манюшкі (1842).



Ксёндз Ян Меню прамаўляе казанне ў касцёле святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста. Малюнак Чэслава Манюшкі.

«Мой бацька ўставаў вельмі рана, а пятай гадзіне, і выходзіў у касцёл на першую святую Імшу, прымарыю. Быў ён заўсёды вельмі пабожным, і рэлігійныя творы плылі з найглыбейшых пластоў яго душы. Пасля Імшы ён ішоў на даўжэйшы шпацыр ... і звычайна тады сачыняў, прынамсі, у яго нараджаліся першыя ідэі»[5].

Велічнае гучанне арганаў суправаджала С. Манюшку ад самых пачаткаў яго музычнага шляху, хоць вучобу ў Варшаве ў «слаўнага арганіста»[6] Карла Аўгуста Фраера для яго далейшай дзейнасці касцёльнага музыканта варта разглядаць хутчэй у катэгорыях сімвалічных, чым адукацыйна-практычных. Вядома, што аўтар «Галькі» і «Страшнага двору» пачаў вучыцца музыцы даволі позна і, такім чынам, урокі з Аўгустам Фраерам былі для Манюшкі толькі яго першасным знаёмствам з фартэпіяна і элементарнай тэорыяй музыкі. Праўдападобна, аднак, што падчас побыту ў Варшаве С. Манюшка неаднойчы слухаў арганную ігру свайго настаўніка, якому ў сталічных касцёлах тады не было роўных у выкананні вялікіх арганных твораў Ё. С. Баха: прэлюдый, фантазій, такатаў і фугаў. Сын нямецкага арганіста, А. Фраер дасканала валодаў педальнай тэхнікай, а яго ігра ў свой час здабыла прызнанне Ф. Мендэльсона, Л. Шпора і М. Глінкі.

Знаёмства з арганамі магло працягвацца і падчас вучобы С. Манюшкі ў Мінску. Цяпер ужо вядома, што яго «неацэнны пан Дамінік Стэфановіч»[7] быў не толькі звычайным настаўнікам фартэпіяна, але таксама і кампазітарам, аўтарам рэлігійных твораў. Мужчынская гімназія, якую наведваў Манюшка, глядзела вокнамі на мінскую катэдру, і музычна адораны юнак не мог не захапляцца гучаннем яе выдатнага, на той час досыць «маладога» інструмента, а можа, нават меў магчымасць і іграць на ім. Збудаваныя каля 1803 г. з ініцыятывы біскупа Якуба Ігнацыя Дадэркі адным з прадстаўнікоў вядомай арганнай дынастыі Янсанаў[8] «арганы на 24 галасы, закупленыя з ахвяры дзесяці паветаў Мінскай губерні, аздобленыя геральдычнымі шчытамі імперыі, губерні і паветаў»[9], у 1830-я гг. спазналі свае залатыя часы. Не меншы інструмент, «вядомы сваім дасканалым гучаннем»[10], знаходзіўся ў былым дамініканскім касцёле св. Тамаша Аквінскага, якраз насупраць дома, дзе Станіслаў Манюшка жыў са сваёю сям'ёю. Велічныя гукі «прыгожа збудаваных» арганаў на 22 галасы[11] разам з хорам айцоў бэрнардынаў даносіліся да слыху ўражлівага юнака і з касцёла св. Язэпа.

Але, безумоўна, найважнейшым этапам спасціжэння будучым кампазітарам таямніцаў рэлігійнай музыкі і арганнага майстэрства сталі гады яго вучобы ў Берліне ў *Singakademie* (Пеўчай акадэміі), якая спецыялізавалася на выкананні касцёльных і аратарыйных твораў. Яе дырэктар, настаўнік Манюшкі кампазітар Карл Рунгенхаген, знаходзіў свой эстэтычны ідэал у музыцы Палестрыны, Лоці, Дурантэ, Баха і Гендэля[12]. Вядома, што ва ўласнай методыцы навучання вялікае значэнне ён надаваў музычнай практыцы і таму нярэдка даручаў свайму вучню рэпетыцыйны працэс манументальных інструментальна-харавых твораў, якія найлепшым чынам адточваў яго дырыжорскія і выканальніцкія навыкі. Пэўнага ўніверсалізму музычных ведаў ад С. Манюшкі вымагаў удзел у падрыхтоўцы

і выкананні такіх кампазіцый, як «Месія» і «Александрфэст» Г. Ф. Гендэля альбо «Павел» Ф. Мендэльсона.

Менавіта берлінскія штудыі сфарміравалі і ўмацавалі ў С. Манюшкі ўяўленні аб кірунку яго далейшай працы ў касцёле. Падчас вучобы ён у дэталях мог назіраць за прафесіяй і абавязкамі нямецкіх *кантараў* (ням. *Kantor*), якія сумяшчалі функцыі дырыжора (як хору, так і інструментальнага ансамбля), кампазітара, арганіста, настаўніка музыкі і спеваў. Высокія патрабаванні да пасады кантара — кіраўніка богаслужбовай музыкі — дазвалялі займаць яе выключна высокапрафесійным, адукаваным, шанаваным у музычных колах музыкантам. Пры таленавітых і дзейсных кантарах святыні нярэдка станавіліся сапраўднымі цэнтрамі музычнага мастацтва гарадоў.

Выдатным сведчаннем аб атрыманых Станіславам Манюшкам навыках арганіста і імправізатара з'яўляецца эпізод, занатаваны лібрэцыстам кампазітара Янам Хэнцінскім: «Калі



Інтэр'ер Вастрабрамскай капліцы ў Вільні.
Малюнак В. Садоўнікава (літаграфія 1847 г.)

Манюшка вяртаўся з Берліна на Радзіму, пасля перасячэння нямецкай мяжы ён затрымаўся ў першай напатканай ім польскай вёсцы. А паколькі была нядзеля, ён увайшоў у касцёл, падняўся на хоры і, ветліва адсунуўшы арганіста, сеў за арганы і іграў на Імшы з падзякаю Пану Богу за шчаслівае вяртанне на Радзіму. Музыка зрабіла вялікае ўражанне на ксяндза пробашча, які, сустрэўшы пасля Імшы «імправізаванага» арганіста, запытаўся ў яго з вялікаю павагаю: «А адкуль жа, Ваша міласць, Вы прывезлі такую нямецкую музыку?!»[13]

Рознабаковая музычная дзейнасць пры касцёле цалкам адпавядала актыўнай натуры С. Манюшкі, які пасля вяртання з Берліна меў намер удыхнуць новае жыццё ў рэлігійную музыку Вільні. Арганы, на якіх С. Манюшка выконваў свае штодзённыя абавязкі, былі аднымі з самых лепшых на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. «Большага, чым гэты інструмент, Літва дагэтуль не мела і не мае», — пісаў у артыкуле «Аб арганах у Вільні» ксёндз Ян Галіч[14]. Варта ўзгадаць, што спачатку інструмент касцёла святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста мясціўся ў адным з найбольш велічных храмаў Полацка — знішчаным у савецкія часы касцёле св. Стэфана. Збудаваныя ў сярэдзіне 1760-х гг., гэтыя арганы традыцыйна прыпісваліся аднаму з прадстаўнікоў дынастыі вядомых майстроў Каспарыні — Адаму Готлабу ці Дамініку Адаму, аднак, паводле новых даследаванняў, яны належалі, хутчэй за ўсё, майстэрні Мікалая Янсана (*Nicolas Jentzen*)[15]. Непаўторнае аблічча інструменту, які меў 22 рэгістры, два мануалы і педальную секцыю, надаваў захаваны па сённяшні дзень познебарочны праспект, раскошу якога трапна «занатаваў» у цудоўным малюнку бацька кампазітара, Чэслаў Манюшка.

У 1837–1839 гг. з замененага на царкву полацкага касцёла арганы былі перавезеныя ў Вільню і там пераўсталяваныя арганным майстрам Тэадорам Тыдэманам (Тытманам) разам з сынамі — Тэадорам і Францішкам. У 1839 г. павялічаны на адзін мануал



Вялікі дзядзінец Віленскага ўніверсітэта і касцёл святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста ў Вільні.
Хромалітаграфія з «Віленскага альбома» Я. К. Вільчынскага.

і 19 галасоў інструмент прымала камісія, узначаленая самім Юзафам Эльснерам. Паводле дыспазіцыі, змешчанай у публікацыі кс. Я. Галіча, трохмануальныя цяпер ужо арганы касцёла святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста мелі 41 голас. Аднак пры вялікіх тэмбравых магчымасцях, звязаных з разнастайнасцю і багаццем рэгістравага спектра, інструмент меў «досыць тугую клавіятуру; таму змушаў да сур'ёзнай ігры»[16]. Гэтая асаблівасць магла паўплываць і на арганную фактуру многіх рэлігійных сачыненняў С. Манюшкі.

Але не толькі арганы былога ўніверсітэцкага касцёла звязаныя з творчай дзейнасцю С. Манюшкі ў Вільні. Найважнейшым цэнтрам духоўнага і музычнага жыцця сталіцы былой беларуска-літоўскай дзяржавы і ўсяго вялікага абшару былога ВКЛ заставалася Вострая Брама. Менавіта для гэтага санктуарыя кампазітар напісаў чатыры ўзнёслыя «Вастрабрамскія літаніі». Асаблівае значэнне гэты асяродак Марыйнага культу меў і ў жыцці самога кампазітара: менавіта тут у 1836 г. адбыліся заручыны 17-гадовага Станіслава з яго будучай жонкаю Аляксандраю Мюлер.

Несумненна, С. Манюшку не раз даводзілася іграць на арганах у Вастрабрамскай капліцы — інструменце, з дакладнасцю зафіксаваным на малюнку Васіля Садоўнікава і зробленай паводле яго літаграфіі для «Віленскага альбома» Я. К. Вільчынскага. У дзвюх секцыях-«блізнятах» з фігуркамі анёлаў, якія атачалі алтар у класічным стылі, мясціліся ўсяго шэсць галасоў-рэгістраў. Арган не меў педальнай секцыі, быў камерным, і па сваіх тэмбравых характарыстыках, па ўсёй верагоднасці, ідэальна адпавядаў акустыцы малой капліцы. Гэты інструмент, які слухалі Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і Юльюш Славацкі, на жаль, не змог выстаяць пад націскам ініцыятываў арганабудаўнічых — ён быў разабраны і заменены новымі арганамі. Рэшткі ж таго легендарнага інструмента, як даводзіць даследчык М. Зглінскі, цяпер знаходзяцца ў касцёле Св. Тройцы ў невялічкай беларускай вёсачцы Данюшава Смаргонскага раёна[17].



Арганы А. Кавайе-Коля ў касцёле св. Марыі Магдалены ў Парыжы.

Нават пасля варшаўскага трыумфа «Галькі» і атрымання пасады дырыжора Вялікага тэатра ў Варшаве, калі С. Манюшка спыніў сваю дзейнасць касцёльнага арганіста, цікавасць кампазітара да рэлігійнай і арганнай музыкі не згасае, пра што сведчаць многія факты біяграфіі варшаўскага перыяду яго творчасці.

Шматгадовая праца С. Манюшкі ў якасці арганіста, безумоўна, зрабіла яго не толькі вопытным выканаўцам і праніклівым кампазітарам, але і дасведчаным, чуйным знаўцам «караля інструментаў», яго механізмаў і тэмбравых асаблівасцяў. Нядзіўна, што ў жыццяпісе кампазітара захаваліся некалькі цікавых эпізодаў, якія сведчаць аб асаблівым статусе арганаў у яго жыцці, яго заўсёднай увагі, цікавасці і чуйнасці да арганнай тэматыкі. Красамоўным у гэтым святле з'яўляецца ўспамін С. Манюшкі аб адным з найлепшых інструментаў знакамітага арганнага майстра Арыстыда Кавайе-Коля (*Cavaille-Coll*, 1811–1899) у касцёле святой Марыі Магдалены ў Парыжы, які яму давялося наведаць падчас творчага падарожжа ў 1858 годзе. Усталяванне гэтага велічнага інструмента на 48 галасоў — свайго рода шэдэўра арганнага будаўніцтва — было завершана ў 1846 годзе. Сваё захапленне ім С. Манюшка перадае ў лісце да дачкі Альжбеты ад 17 чэрвеня 1858 г.: «Тут я ўпершыню ў жыцці слухаў арганы, на якіх можна рабіць *crescendo* і *decrescendo*. Гэтыя арганы нябачныя, змешчаныя пры вялікім алтары. Музыка разлягаецца па ўсім будынку. Іх гук ад найцішэйшага ўзрастае да найвышэйшай магутнасці, нібы вялікімі хвалямі плыве па касцёле, а той, хто стаіць пры ўваходных дзвярах, здалёк ад вялікага алтара, найбольш выразна можа ўявіць, што з нябачнай крыніцы плынь гармоніі то пагрозліва набліжаецца, вось, вось, ажно да яго, ледзь яго не пераскочыць, то потым паволі аддаляецца, слабее, сціхае, супакойваецца, і ўжо яе чуеш нібыта за касцёлам, далей і далей... і канец дзесьці знікае, так, што заслуханы сам не ведае, калі скончыўся гэты нябесны канцэрт. Гэта адзіная касцёльная музыка, якую я дагэтуль чуў. Але я аб гэтым не шкадую, бо пасля арганаў Магдалены ўсё мусіла б падацца слабейшым»[18].

Відаць, толькі аднойчы С. Манюшка выступіў у друку ў якасці эксперта новых арганаў. У часопісе «Музычны рух» за 1861 г. ён змясціў невялічкую нататку аб новазбудаваным інструменце ў касцёле св. Станіслава ў вёсцы Каралішчавічы пад Мінскам. Свайго роду рэкламная нататка, падпісаная аўтарытэтным у музычных колах аўтарам «Галькі», «Фліса» і «Графіні», у першую чаргу мела на мэце падтрымаць віленскага і мінскага арганабудаўнічага Яна Бяляўскага, але нават у ёй С. Манюшка не прамінае выказаць уласную пазіцыю аб «неабходнасці ўпарадкавання... нашай касцёльнай музыкі», аб «патрэбе ўзвышэння святой песні»[19].




Першадрук нотаў «Багародзіцы» для арганаў з «Песняў нашага касцёла…» С. Манюшкі (1862).

Мяркуючы па водгуках сучаснікаў, узровень выканальніцкіх і імправізатарскіх навыкаў Манюшкі-арганіста быў досыць высокім. Дыхтоўнасць выканальніцкай падрыхтоўкі С. Манюшкі адлюстроўваюць тагачасныя ўспаміны, а таксама напісаная ў 1838–1840 гг. і прысвечаная яму фуга *C-dur* Антонія Сакульскага — своеасаблівае «слова на дарогу» старэйшага сучасніка[20]. Аднак ва ўласнай творчай скарбонцы С. Манюшкі мы не знойдзем вялікіх канцэртна-віртуозных кампазіцый для арганаў, напісанне якіх, безумоўна, было яму пад сілу. З сольных арганных твораў яго пяру належаць усяго два зборнікі-цыклы апрацовак касцёльных песняў («Песні нашага касцёла, укладзеныя для арганаў і прызначаныя да выканання на чытанай Імшы», «Нешпары і Вастрабрамская песня»), а таксама некаторыя фрагменты больш разгорнутых опусаў (напрыклад, з музыкі да трагедыі «Гамлет»). Арганы таксама выступаюць амаль нязменным, часам адзіным інструментам суправаджэння многіх рэлігійных твораў кампазітара — месаў, сольных песняў і дуэтаў, харавых псальмаў, матэтаў і гімнаў.

Прычыны фарміравання менавіта такога аблічча арганнай спадчыны С. Манюшкі трэба шукаць, як падаецца, у грамадскай і творчай пазіцыі кампазітара, яго поглядах на касцёльную музыку і ролю ў ёй музыканта-творцы. Манюшка трактаваў сваё кампазітарскае пакліканне, у першую чаргу, як с л у ж э н н е Богу, Радзіме і яе людзям. Пазітывісцкая пазіцыя кампазітара яшчэ болей узмацнялася ў рэлігійнай творчасці. Пакора Усявышняму, падпарадкаванне індывідуальных памкненняў калектыўнаму пачатку сфарміравалі погляд кампазітара на рэлігійную музыку і на ўласную дзейнасць для Касцёла. Дзеля найвышэйшай Боскай мэты касцёльнай музыкі ён заклікаў нават да пэўнай рэдукцыі творчых і тэхнічных магчымасцяў музыкантаў: «*З поўным адмаўленнем любові да сябе няхай [Майстар] выракаецца жадання самавыяўлення і бліщэння сілай уласнага таленту; а злучаных адзінай мэтаю свайго паклікання [музыкантаў] Святы Дух, адзіная іх Муза, натхніць безадмоўна*»[21], — пісаў С. Манюшка ў неапублікаванай пры жыцці «Нататцы аб касцёльнай музыцы». У ёй кампазітар выразна выказваўся за яснасць, простасць і празрыстасць рэлігійнай творчасці, фармулююючы «катэгорыю поўнай прыгажосці прастаты»[22]. Менавіта яе С. Манюшка прытрымліваўся і ва ўласных арганных творах, а таксама большасці месаў, песняў і дуэтаў. Спалучэнне чыстай веры і музычнай празорлівасці дазваляла яму з дасканалай дакладнасцю адбіраць найбольш



Арганы касцёла святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста ў Вільні з бюстам С. Манюшкі (сучасны выгляд).

выразныя сродкі, якія адпавядаюць і па сённяшні дзень літургічным нормам і паняццям аб сапраўднай музыцы Касцёла. Адначасова, пры сціпласці тэхнічных рэсурсаў сачыненняў, С. Манюшка — Майстар і Прафесіянал — не адмаўляецца і ад найвышэйшых мастацкіх ідэалаў: нават у нескладаных творах бачны яго вялікі талент.

У сваіх арганных апрацоўках С. Манюшка ў першую чаргу імкнуўся да простасці і практычнасці матэрыялу, яго адпаведнасці соцыякультурным патрабаванням. Кампазітар не мог не ўлічваць «непрывабнага» стану касцёльнай музыкі ў былой Рэчы Паспалітай і, у прыватнасці, у колішнім Вялікім Княстве Літоўскім, і таму свае рэлігійныя сачыненні арыентаваў на выканальніцкія магчымасці паўпрафесійных спевакоў і арганістаў, якіх на той час у касцёлах працавала большасць. Асэнсоўваючы неабходнасць адраджэння касцёльнай музыкі, С. Манюшка задаўся мэтаю стварэння якаснага і разнастайнага літургічнага і пазалітургічнага рэпертуару — як уласна сольных, ансамблевых і харавых твораў, так і арганных апрацовак для ажыўлення супольнага парафіяльнага спеву. Пры гэтым ён імкнуўся пісаць музыку сапраўды нацыянальную, інтанацыйна блізкую і зразумелую для яго сучаснікаў, і ў гэтым святле кампазітар у праекце «Касцёльнага спеўніка» ставіў перад сабою такія ж грамадска-патрыятычныя задачы, як і ў цыкле знакамітых «Хатніх спеўнікаў». Магчымасць узняць рэлігійную музыку на годны ўзровень кампазітар бачыў у яе рэфармаванні ад самых асноваў, у яе ўгрунтаванні на рэлігійных песнях фальклорнага і напаўфальклорнага паходжання, якія бытавалі ў айчынным касцёле.

Многія задачы, якія ставіў перад сабою С. Манюшка, застаюцца актуальнымі да сённяшняга дня. Рэлігійнай музыцы нашых святыняў патрэбная адпаведнасць літургіцы, глыбіня, вяртанне да вытокаў народнай інтанацыйнасці, якую так тонка адчуваў кампазітар і змог таленавіта ўвасобіць ва ўласнай творчасці. Таму думаецца, што зборнікі арганных, сольных і харавых рэлігійных твораў С. Манюшкі, якія цяпер рыхтуе да публікацыі творчы калектыў «Беларуская капэла», будуць запатрабаваныя ў сучаснай музычнай прасторы і паспрыяюць спаўненню запаветаў Майстра. Няма сумнення ў тым, што творы С. Манюшкі стануць прыдатнымі ў штодзённых літургічных патрэбах касцёльных музыкантаў, а таксама цікавымі для выкарыстання ў канцэртнай практыцы.

---

1 Пачаткам Цэцыліянскага руху лічыцца 1868 год, калі святаром Францам Ксаверам Хаберлем (1834–1888) у баварскім горадзе Бамбергу было заснавана Таварыства святой Цэцыліі (*Allgemeiner Cäcilienverein*).

2 Пасля таго, як у 1832 г. Віленскі ўніверсітэт быў зачынены, касцёл перайшоў у распараджэнне Медыка-хірургічнай акадэміі і зваўся Акадэмічным касцёлам святога Яна. Са скасаваннем акадэміі ў 1842 г. касцёл пазбавіўся афіцыйнага казённага ўладальніка і стаў парафіяльным.

3 Walicki, A. Stanisław Moniuszko / A. Walicki. — Warszawa: Gebethner i Wolff, 1873. — S. 43.

4 Rudziński, W. Stanisław Moniuszko: studia i materiały [Okres wileński] / W. Rudziński. — Kraków: PWM, 1955. — Cz. I. — S. 79.

5 Цыт. па: Rudziński, W. Stanisław Moniuszko: studia i materiały, cz. II: W Warszawie / W. Rudziński. — Kraków: PWM, 1961. — S. 758–759.

6 Так характарызаваў С. Манюшка свайго настаўніка ў аўтабіяграфічным лісце да А. Кіркора 21 лістапада 1856 г. Гл.: Moniuszko S. — op. cit. — S. 236.

7 Ibidem.

8 Zgliński, M. Budownictwo organowe na terenie dawnego Wielkiego księstwa Litewskiego do około 1850 roku w świetle najnowszych badań / M. Zgliński // Muzyka. — 2003. — № 3. — S. 82.

9 Borejko Chodźko, J. Diecezja mińska około 1830 roku. — T. I: Struktury parafialne. Opr. Marian Radwan / J. Borejko Chodźko. — Lublin: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 1998. — S. 181.

10 Ibidem. — T. II: Struktury zakonne. — S. 44.

11 Ibidem, s. 95.

12 Rudziński, W. — op. cit. — Cz. I. — S. 50.

13 Цыт. па: Grucza, R. Stanisław Moniuszko i jego muzyka religijna / R. Grucza // Musica sacra 2. — red. Janusz Krassowski et al. — Gdańsk, Wydawnictwo Akademii Muzycznej, 2006. — S. 93.

14 Galicz, J. O organach w Wilnie / J. Galicz // Ruch muzyczny. — 1861. — № 8. — S. 118.

15 Zgliński, M. Budownictwo organowe… — Op. cit. — S. 86–87.

16 Galicz, J. — op. cit. — S. 119.

17 Zgliński, M. O wileńskich organach Stanisława Moniuszki / M. Zgliński // Ruch Muzyczny. — 2000. — № 5. — S. 30.

18 Moniuszko, S. — op. cit., S. 314.

19 Moniuszko, S. [Аб арганах у Караліשчавічах] Gazeta muzyczna / S. Moniuszko. — Ruch muzyczny. — 1861. — № 35. — S. 559.

20 Sokulski, A. Fuga / A. Sokulski. — Kraków: PWM, 1974. — 6 s.

21 Moniuszko, S. — op. cit. — S. 619.

22 Dąbek, S. Twórczość litanijna Stanisława Moniuszki i jej konteksty / S. Dąbek. — Warszawa: Wydawnictwo Uniwersitetu Muzycznego Fryderyka Chopina, 2011. — S. 22.

Тамара Габрусь



Троіцкі касцёл у в. Аборак (Маладзечанскі р-н). Фота пачатку XX ст.

# ПРЫГАЖОСЦЬ У ПРАСТАЦЕ

Філіяльны **касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Юрыя на могілках в. Гарадзішча (Вілейскі р-н)** быў пабудаваны ў 1683 г., перабудаваны ў пачатку XIX ст., у выніку чаго ён набыў рысы класіцызму. Двухзрубавы храм з пяціграннаю алтарнаю апсідаю накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і застрэшкамі ў месцы далучэння зрубаў. Да яго была прыбудаваная сакрыстыя з аднасхільным дахам. Галоўны фасад аформлены ў выглядзе 4-калоннага порціка, завершанага трохвугольным франтонам з чацверыковаю сігнатуркаю. Шалёўка сценаў вертыкальная, з нашчыльнікамі, на франтоне — гарызантальная.

Адным з найбольш позніх узораў двухзрубавых храмаў са свабодным франтонам з'яўляецца драўляны **касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў в. Лоск (Валожынскі р-н).** Каталіцкая парафія была заснаваная тут у 1480 г. удавою князя Івана Карыбутавіча Ганнаю. У сярэдзіне XVI ст. Ян Кішка пабудаваў у мястэчку рэфармацкі храм, перададзены католікам ў 1639 годзе. Драўляны касцёл, пабудаваны ў XVIII ст., у 1886 г. перайшоў да праваслаўных і быў перабудаваны. Верагодна, на яго аснове ў 1919–1924 гг. парафіяне аднавілі існуючы сёння касцёл: двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з пяцігранным прэсбітэрыем і вузкім унутраным бабінцам з харамі. Зрубы касцёла рознай вышыні (больш высокі алтарны), накрытыя вальмавым дахам з агульным падоўжным вільчыкам і перападам карнізаў. Сцены з цёсанага брусу, не ашаляваныя, вокны маюць паўцыркульныя імпасты.

Пад уплывам эстэтыкі барока вянчаючыя масы драўляных храмаў базылікальнай канцэпцыі паступова рабілі ўсё больш кампазіцыйна багатымі. З айчынных мураваных узораў сармацкага барока драўляным храмабудаўніцтвам быў запазычаны характэрны аб'ёмны галоўны фасад-нартэкс з дзвюма сіметрычнымі чацверыковымі вежамі па баках, накрытымі пакатымі шатрамі-«каўпакамі» з крыжамі на высокіх штыберах.

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2017 г.*

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, членкарэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.



Былы Троіцкі касцёл ордэну дамініканаў
у в. Валеўка (Навагрудскі р-н).

У сярэдзіне XVIII ст. па ўзоры мураваных базылік віленскага барока пластыка галоўных фасадаў была ўзмоцненая вытанчанымі вежамі са шмат'яруснымі фігурнымі галоўкамі-«банькамі». Вежы драўляных храмаў звычайна не служылі званіцамі і не мелі ніякага функцыянальнага прызначэння, а толькі эстэтычна ўзбагачалі сілуэт збудавання. Менавіта відавочнае падабенства двухвежавых драўляных касцёлаў да мураваных святыняў беларускага барока стала прычынаю пазнейшых перабудоў храмаў пры перадачы іх праваслаўным у часы канфесійнага прыгнёту ў Расійскай імперыі, і ў першую чаргу гэта тычылася вежавых дамінантаў, змянення формы дахаў, шалёўкі, прыбудовы да фасадаў раней асобна пастаўленых званіцаў.

Драўляны парафіяльны **касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Задвея (Баранавіцкі р-н)** быў пабудаваны ў 1617 г. па фундацыі харунжага наваградскага Юрыя Галаўні; у сярэдзіне XVII ст. «спалены маскоўцамі», адбудаваны ў 1697 г. на ахвяраванні задвейскай плябаніі. Зачынены ў 1867 годзе. Вядомы паводле візітацыі 1720 г. і фотаздымка Я. Балзункевіча пачатку XX ст. Гэта быў двухзрубавы храм з пяцігранную алтарнаю апсідаю і ўнутраным бабінцам: «уваход у яго закрываецца, а з яго не». Першапачаткова быў, верагодна, з дзвюма вежамі на галоўным фасадзе, якія пазней былі замененыя масіўным франтонам з паўкруглаю люнетаю ў цэнтры. Злева ад алтара размяшчалася сакрыстыя, пад касцёлам — склеп. Будынак меў 5 акон вялікіх і 2 маленькіх (у вежах) з «шкла белага, у волаў апраўленых» (г.зн. у свінцовых рамках. — Т.Г.); двухсхільны гонтавы дах з дзвюма галоўкамі-«банькамі» на вільчыку. Перад храмам стаяла невялікая каркасная званіца «аб чатырох слупах» (НГАБ, ф.1781, воп. 27, спр. 493, арк. 2).

**Троіцкі касцёл ордэну дамініканаў у в. Валеўка (Навагрудскі р-н)** быў пабудаваны ў 1685 г. па фундацыі ваяводы брэсцкага Стэфана Курча, адбудаваны нанава ў 1736 г.; у 1832 г. быў зачынены, а пазней перададзены праваслаўным. Двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з пяцігранным алтарным зрубам і вузкім аб'ёмам фасада-нартэкса, першапачаткова двухвежавага (вежы знятыя ў 1840-я гг.). Зрубы аб'яднаныя вальмавым дахам з прафіляваным карнізам і трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння. Па баках алтарнага зруба размешчаны невысокія, квадратныя ў плане сакрыстыі. Пры перабудове галоўны фасад быў завершаны пакатым трохвугольным франтонам, да ўваходу праз невялікі бабінец была прыстаўлена трох'ярусная чацверыковая вежа-званіца, якая раней стаяла асобна. Захавалася традыцыйная вертыкальная шалёўка з нашчыльнікамі.

**Троіцкі касцёл у в. Струбніца (Мастоўскі р-н)** быў пабудаваны ў 1740 г. на сродкі Я. Сяменьскага і У. Абрамовіча. Інтэр'ер аздоблены ў 1798–1799 гг. на сродкі Я. Біспінка. Двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з унутраным бабінцам. На галоўным фасадзе выступаюць чацверыкі вежаў, завяршэнні якіх былі знішчаныя ў XIX ст. Вальмавы дах мае трохвугольныя застрэшкі абапал пяціграннага алтарнага зруба. Раней франтон на галоўным фасадзе меў прыгожую геаметрычную мазаічную ашалёўку і маленькую галоўку, у наш час усё груба перароблена. Паўночная сакрыстыя прамавугольная ў плане, паўднёвая — васьмігранная, накрытая шатром, падведзеным пад застрэшак. Шалёўка сценаў гарызантальная, вокны спараныя. Сакральная аздоба інтэр'ера ў стылі позняга барока ўключае 5 разьбяных алтароў з пазалочанаю скульптураю, арнаментальны і сюжэтны роспісы фрыза, даўні арган. Асобна пастаўлена мураваная двух'ярусная званіца (1856 г.) з чарапічным шатровым дахам.

Драўляны **Троіцкі касцёл у в. Стараельня (Дзятлаўскі р-н)** быў пабудаваны ў 1650 г. па фун-

дацыі Льва Казіміра Сапегі, перабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. Вядомы паводле фотаздымка Віленскага таварыства аматараў навук (ЦДГА Літвы, г. Вільнюс, ф.1135, воп. 3, спр. 577, л 8; тамсама, спр. 639, л.3). Клецевы храм базылікальнай канцэпцыі складаўся з роўнавысокіх, квадратнага асноўнага, пяціграннага алтарнага зрубаў і вузкага двухвежавага аб'ёма нартэкса пад агульным высокім гонтавым дахам з галоўкаю над фасадам. Невысокія сакрыстыі па баках алтара накрытыя гонтавымі дахамі з дыяганальным вільчыкам. Шалёўка вертыкальная, з нашчыльнікамі. Вежы былі знятыя ў 2-й палове XIX ст., калі касцёл прыстасавалі пад праваслаўную царкву; у пачатку XX ст. быў прыбудаваны высокі ўваходны аб'ём з бутавага каменя.

Каталіцкая парафія ў **в. Нача (Воранаўскі р-н)** была заснаваная ў 1529 годзе. Драўляны **касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі** пабудаваны ў 1750–1759 гг. намаганнямі ксяндза Язэпа Курчэўскага і парафіянаў. На яго месцы ў 1910–1927 гг. быў змураваны новы касцёл у неагатычным стылі. Папярэдні будынак вядомы паводле фотаздымка Я. Балзункевіча пачатку XX ст. Храм складаўся з выцягнутага прамавугольнага асноўнага зруба (33 х 18 локцяў), пяціграннага прыруба прэзбітэрыя і вузкага аб'ёма бабінца, аб'яднаных агульным дахам з падоўжным вільчыкам і вальмамі над алтаром. У месцы злучэння зрубаў былі трохвугольныя застрэшкі і пластычныя хвалі даха. Па баках прэзбітэрыя размяшчаліся невысокія, але абшырныя сіметрычныя прыбудовы сакрыстый, таксама накрытыя вальмавымі дахамі, якія надавалі тэктоніцы храма форму лацінскага крыжа і выразную дынаміку аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, характэрную для стылістыкі віленскага барока. Будынак меў традыцыйную вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі, быў крыты гонтам. Вокны мелі лучковыя арачныя перамычкі. Аб'ём бабінца-нартэкса раскрапоўвалі чацверыковыя вежы, завяршэнні якіх былі зняты пры перабудове святыні ў 1849 годзе. Вільчык прарэзвалі 2 шатровыя вежачкі з рысамі несапраўднай готыкі.



Касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Гудагай (Астравецкі р-н).

**Касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Гудагай (Астравецкі р-н)** у аўтэнтычным выглядзе з'яўляўся класічным узорам сармацкага барока ў дрэве. Пабудаваны ў 1764 г. па фундацыі Язэпа і Ганны Вайнаў пры кляштары кармэлітаў босых; зачынены ў 1866 г., перабудаваны ў 1905 г. і 1990-я гады. Храм складаецца з выцягнутага прамавугольнага асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, аб'яднаных вальмавым дахам з агульным вільчыкам. Па баках зрубаў сіметрычна размешчаны аднолькавыя квадратныя ў плане невысокія прыбудовы сакрыстый і чацверыкі вежаў, што надае кампазіцыі строгасць і завершанасць. Пры перабудовах верхнія чацверыкі вежаў былі знятыя, фасад завершаны грувасткім трохвугольным франтонам з гарызантальнаю шалёўкаю, прыбудаваны прытвор-«крухта» з двухсхільным дахам, падведзеным пад карніз асноўнага зруба. У інтэр'еры — плоская столь і музычныя хоры на двух апорных слупах.

Каталіцкая парафія ў **в. Аборак (Маладзечанскі р-н)** была заснаваная ў 1443 г. уладальнікам маёнтка Андрэем Саковічам. Драўляны **Троіцкі касцёл** быў першапачаткова збудаваны ў Груздаве ў 1720 г., у 1773 г. перанесены ў вёску Аборак на ахвяраванні кухмістра літоўскага Францішка Ксаверыя Агінскага. Двухзрубавы храм з пяцісценнаю алтарнаю часткаю накрыты агульным шматсхільным дахам з вальмамі над алтаром і сігнатуркаю ў месцы іх злучэння. Па баках алтарнага зруба мясціліся невысокія, квадратныя ў плане сакрыстыі. Уваходная частка вырашана ў выглядзе вузкага аб'ёма бабінца, заглыбленага паміж чацверыковымі вежамі. Вышэй за ўзровень карніза даха вежы першапачаткова мелі тры чацверыковыя ярусы, якія тэлескапічна скарачаліся



Касцёл пад тытулам Імя Найсвяцейшай Панны Марыі
ў вёсцы Хоўхлава (Маладзечанскі р-н).

па памерах; яны былі накрытыя пакатымі шатрамі з крыжамі на штыберах, але пры гэтым былі ніжэй за вільчык асноўнага даха. У пачатку XX ст. вежы былі перабудаваныя — яны набылі 2 высокія ярусы (васьмерык на чацверыку) і стромкія шатровыя завяршэнні. Сцены і вежы мелі вертыкальную шалёўку з «лісіцамі», франтон — гарызантальную. Уваход быў аформлены дзвюма паўкалонамі. На паўночны захад ад касцёла стаяла двух'ярусная зрубна-каркасная званіца з шатровым дахам. Пасля вайны касцёл перагварылі ў склад, сёння ён не існуе. Вядомы па гравюры канца XIX ст. і фотаздымку 1930-х гг. Захаваліся фрагменты бутавай агароджы касцёла і брамы.

Драўляны парафіяльны **Троіцкі касцёл у м. Івянец (Валожынскі р-н)** быў пабудаваны ў 1606 г. Янам Давойнам. Знішчаны пажарам у 1702 г., ён быў нанава адбудаваны ўладальнікам маёнтка графам Салагубам у 1707 годзе. Двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі меў 2 вежы на галоўным фасадзе. Зачынены ў 1868 годзе. Меў высокія мастацкія вартасці, што адзначаецца ў даведніку «Нашы касцёлы» Я. Жыскара і мастацвазнаўцам віленскага кола Марыянам Маралёўскім.

Драўляны парафіяльны **касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Шкаплернай у в. Прывалкі (Гродзенскі р-н)** быў заснаваны ў 1609 г. каралём Жыгімонтам III Вазам, у сярэдзіне XVIII ст. адбудаваны нанава. Гэта быў тыповы для таго часу двухзрубавы варыянт храма базылікальнай канцэпцыі з двухвежавым фасадам-нартэксам і дзвюма сіметрычнымі сакрыстыямі. У 1866–1913 гг. належаў праваслаўным. На яго месцы ў 1913–1919 гг. пабудаваны драўляны касцёл у гонар апостала Юды Тадэвуша ў стылі неаготыкі.

Першы драўляны парафіяльны **касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі** быў пабудаваны ў **в. Налібакі (Стаўбцоўскі р-н)** у 1447 г. віленскім кашталянам Пятром Гедыголдавічам. Наступны касцёл, фундаваны ў 1630 г. вялікім канцлерам літоўскім Альбрыхтам Станіславам Радзівілам, быў адбудаваны нанава ў 1699 годзе. Меў дзве вежы на галоўным фасадзе і фігурны «свабодны» франтон паміж імі. Асобна стаяла двух'ярусная званіца-брама. На месцы старога касцёла ў 1935–1939 гг. быў змураваны новы храм у стылі эклектыкі.

Каталіцкая парафія ў **вёсцы Хоўхлава (Маладзечанскі р-н)** была заснаваная ў 1437 г. літоўскім князем Міхалам, сынам Жыгімонта Кейстутавіча, пляменнікам Вітаўта. Драўляны парафіяльны **касцёл пад тытулам Імя Найсвяцейшай Панны Марыі** пабудаваны ў 1738 г. у стылі сармацкага барока, у 1846 г. быў перабудаваны на сродкі В. Язвінскага і набыў элементы архітэктуры класіцызму. У 1866 г. ён быў зачынены, але ў 1919 г. вернуты каталікам (пасля вайны тут знаходзіўся калгасны склад). У 1990-я гг. касцёл рэстаўравалі. Двухзрубавы храм складаецца з прамавугольнага асноўнага зруба з унутраным бабінцам-нартэксам і выцягнутай пяцісценнай апсіды, накрытых агульным шматсхільным гонтавым дахам з падоўжным вільчыкам, адзначаным па канцах крыжамі. Над бабінцам з хорамі, вышэй за карніз даха, узвышаюцца дзве чацверыковыя вежы, накрытыя чатырохсхільнымі шатрамі-«каўпакамі». Паміж імі заглыблены трохвугольны франтон у спалучэнні з двух'яруснай паўвальмаю з прычолкам. Вуглы нахіла граняў вежавых шатроў і даха асноўнага аб'ёма аднолькавыя, што надае кампазіцыі фасада своеасаблівы рытм і гармонію формаў. З паўночнага боку да алтарнага і асноўнага зрубаў прыбудавана двухкамерная сакрыстыя. У сярэдзіне XIX ст. да галоўнага фасада быў прыбудаваны магутны класіцыстычны порцік на 4-х мураваных калонах. Шалёўка сценаў вертыкальная, з нашчыльнікамі і «лісіцамі», падвойныя вокны-біфорыумы маюць паўцыркульныя арачныя завяршэнні.

*Заканчэнне будзе.*

Міхась Скобла

# САПЕГАЎСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ — ПОГЛЯД З ДЗЯРЭЧЫНА

*Гісторыя Сапегаў: жыццяпісы, маёнткі, фундацыі. — Мінск, Выдавецтва Віктара Хурсіка, 2017. — 604 стар.*




Найлепшую формулу патрыятызму, успёршыся на свой друкарскі варштат, накрэсліў для нас Францішак Скарына. Кожны беларус мусіць ведаць гэтыя словы на памяць, іх не зашкодзіць і ў соты раз паўтарыць: «Як звяры, што блукаюць у пушчах, ведаюць норы свае, як птушкі, што лётаюць у паветры, помняць гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і рэках, адчуваюць віры свае, як пчолы бароняць вуллі свае — гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся, вялікую ласку маюць».

Пяцьсот гадоў таму сказаныя словы не састарэлі, не пабляклі і ў нашым зырка-шумлівым часе. Пэўна ж, пішучы гэтыя радкі, беларускі першадрукар думкамі вяртаўся ў свой родны Полацак. Чытаючы іх, кожны прыгадае мясціну, дзе ўпершыню зірнуў на свет з калыскі. Мяне ж памяць кліча ў знаёмае змалку мястэчка Дзярэчын, якому летась споўнілася 600 гадоў. Са студэнцкай лаўкі мне здавалася, што Скарынавы словы адрасаваныя таксама ж і дзярэчынцам. Сказана ж — «пчолы бароняць вуллі свае». А Дзярэчын, на маю думку, заснавалі калісьці якраз пчаляры-бортнікі. Бо *дзярэча* — гэта выдзіранне мёду з калодаў. Этымалогія, як бачым, даволі празрыстая, хоць савецкія тапанімічныя слоўнікі назву майго роднага мястэчка чамусьці выводзілі ад словаў *драться*, *драчуны* (іх у XV стагоддзі проста не існавала).

…Гулі пчолы на дзярэчынскіх пасеках, смакавалі грэчку і канюшыну з навакольных палеткаў, мёд і воск мае землякі па Шчары вазілі на продаж у блізкія і далёкія гарады – ажно да Караляўца. Паселішча багацела і пашыралася, пераходзячы ад Дрэмутаў да Копцяў, ад Копцяў да Сангушкаў, ад Сангушкаў да Вішнявецкіх, ад Вішнявецкіх да Адзінцэвічаў, Валовічаў, Нарбутаў, Палубінскіх, Сапегаў…

Пры Сапегах Дзярэчын і спазнаў свой зорны час — як Рым пры Актавіяне Аўгусце.

Канцлер ВКЛ Аляксандр Міхал у 1786 годзе перанёс у Дзярэчын галоўную родавую рэзідэнцыю, якая перад гэтым знаходзілася ў Ружанах. Ягоны сын Францішак (генерал літоўскай артылерыі ў 21 год!) нанова адбудаваў дзярэчынскі палац, значна ўзбагаціў і без таго нябедную фамільную карцінную галерэю, папоўніў бібліятэку, кнігі для якой выпісваліся з Вільні, Варшавы і Лондана. Наступны Сапега — Яўстах Каятан — праявіў сябе добрым гаспадарнікам, але, калі выбухнула паўстанне 1830 года, без ваганняў прадаваў і закладаў маёнткі, каб дапамагчы паўстанцам. Урэшце сам пажыццёва стаў Паўстанцам — пад такой мянушкай і дажываў свой век у Парыжы…

Падрабязныя жыццяпісы названых асобаў (і яшчэ звыш васьмідзесяці выдатных прадстаўнікоў роду) чытач знойдзе на старонках кнігі «Гісторыя Сапегаў». Многія з іх вартыя адмысловых даследаванняў — як прыхільнікі незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, творцы ягонай гісторыі, удзельнікі нацыянальна-вызвольных паўстанняў, як той жа малады генерал Францішак — паплечнік Тадэвуша Касцюшкі, заўзяты падарожнік і шукальнік прыгодаў, якому ў Пецярбургу было захаладна, у Лісабоне — загорача,

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі ХХ ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі ХХ ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.



Сапегаўскі палац у Дзярэчыне. 1940-я гг.

у Лондане — завільготна, у Варшаве і Вільні бракавала адпаведнай кампаніі. Усё, чаго князю не хапала ў еўрапейскіх сталіцах, ён знаходзіў, дайце веры, у Дзярэчыне. Гэткае нечаканае прызнанне пачуў ад Францішка і ў «паперку запісаў» граф Лявон Патоцкі — нараджэнец Віцебшчыны, якога наўрад ці можна западозрыць у «дзярэчынскім патрыятызме», як аўтара гэтых радкоў. ("Дзярэчынскі патрыятызм" аўтара кінуўся ў вочы некаторым рэцэнзентам пасля выхаду ў свет маёй кнігі «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999).)

Пятнаццаць пакаленняў Сапегаў адчувалі сябе патрыётамі ВКЛ, шмат зрабілі для яго эканамічнага і палітычнага ўмацавання (адзін Літоўскі Статут чаго варты!). Даходзіла да таго, што Сапегі за ўласныя грошы ўтрымлівалі войска на ўсходняй мяжы, баронячы супольную дзяржаву Рэч Паспалітую ад агрэсіўнай Масковіі.

Прызнацца, я лічыў, што беларуская форма імя *Алесь* узнікла прыкладна ў 20-я гады мінулага стагоддзя, калі маладыя пісьменнікі (найперш Уладзімір Дубоўка) старанна збеларушвалі свае і чужыя імёны і прыдумвалі новыя словы. Аднак яшчэ ў 1740 годзе адзін з Сапегаў — Юзаф Станіслаў, — аддаўшы на дзядзькаванне свайго пляменніка, потым ледзь атрымаў яго назад і радаваўся ў лісце да сваяка, што нарэшце "*вытаргаваў Алеся*", у якасці маральнай кампенсацыі паабяцаўшы таму, яшчэ непаўналетняму, цэлае староства.

А ў 1751 годзе, пасварыўшыся з маці, шаснаццацігадовы Міхал Ксавэры Сапега ўцёк да дзядзькі Міхала Антонія, падляшскага ваяводы. Трэба думаць, той не быў у захапленні ад пляменніка, бо неўзабаве напісаў брацісе-ўдаве, што *наш Міхась — невук.*

І сярод Сапяжанак сустракаюцца не толькі заморскія Герміініі ці Тэафілы — князі называлі сваіх дочак Тэклямі, Гальшкамі, Тадорамі, Анэлямі і Васілісамі…

У Дзярэчын у XVIII–XIX стагоддзях прыязджалі не толькі віцебскія графы. Сапегаўская зорка высока ззяла над Краем і вабіла да сябе французскіх дон-жуанаў, італьянскіх артыстаў, нямецкіх прадпрымальнікаў і турэцкіх гандляроў коньмі, якія прыганялі цэлыя табуны на знакамітыя Ганненскія кірмашы ў недалёкай Зэльве, што ладзіліся штогод з лёгкай рукі яшчэ аднаго Сапегі — Антонія Казіміра.




Мемарыяльная дошка
ў дзярэчынскім касцёле Унебаўзяцця
Найсвяцейшай Панны Марыі,
усталяваная ў 1998 г.

У тагачасным Дзярэчыне знатныя іншаземцы маглі паглядзець модны спектакль у Сапегавым прыдворным тэатры, патанцаваць мазурку з княгіняю Пелагеяй Сапяжынаю з Патоцкіх (якая, трэба зазначыць, не вельмі нудзілася падчас адсутнасці мужа Францішка), паслухаць страшнаватыя гісторыі пра мясцовую «чорную даму» — княгіню Палубінскую, якая сярод начы любіла з'яўляцца ў спальнях захмялелых гасцей.

Той жа Лявон Патоцкі пакінуў нам падрабязнае апісанне Сапегавай скарбніцы, дзе на ўласныя вочы пабачыў вялізны залаты кубак з гербам князёў Шуйскіх, дванаццаць срэбных міфалагічных фігураў, гетманскія рэгаліі Льва Сапегі, аздобленую дыяментамі шаблю канцлера Аляксандра Міхала, ордэн Беззаганнага Зачацця Панны Марыі, які існаваў у Рэчы Паспалітай хіба ў адзінкавым экзэмпляры, паколькі не быў зацверджаны Соймам (што не перашкодзіла аднаму з Сапегаў атрымаць той ордэн з рук караля Уладзіслава IV).

На жаль, у сённяшнім Дзярэчыне пра былую славу амаль нічога не нагадвае. На ўездзе ў мястэчка з боку Мастоў сіратліва ўзвышаецца мураваная калюмна, узведзеная калісьці манахамі дамініканамі (іх кляштар быў заснаваны ў Дзярэчыне ў 1629 годзе), ды з вежы збудаванага ў 1910 годзе касцёла час ад часу падасць голас стары звон, што калісьці гучаў у тым самым дамініканскім кляштары (год адліўкі — 1717). Сапегаўскі палацператрываў усе войны і быў дарэшты разбураны пасля Другой сусветнай — на загад старшыні калгаса, былога партызанскага камандзіра, чыім імем у сённяшнім Дзярэчыне названыя ажно дзве вуліцы. Праўда, ашчадныя



Звон, адліты майстрам Янам Тамашэвічам у часы Сапегаў – у 1717 г.



Выгляд са званіцы дзярэчынскага касцёла.

дзярэчынцы не далі прападаць дабру — хто з палацавай цэглы змайстраваў печ, хто разжыўся паліванай кафляй, у каго дзверцы ў грубцы да гэтай пары — Сапегавы…

Прагульваючы ўрокі, мы, старшакласнікі Дзярэчынскай СШ, нярэдка бавілі час у занядбаным касцёле, што стаяў без страхі і вокан, са спарахнелай лесвіцай на хоры. Аднойчы, разгрэбшы смецце на касцёльнай падлозе, я пабачыў мармуровыя пліты з помніка, на якіх ледзь прачытваліся надпісы на лаціне, — там некалькі разоў паўтаралася слова *Сапега*. Дзе стаяў той помнік — невядома. Ад дзярэчынскай пахавальні Сапегаў не засталося і следу, як, зрэшты, і ад тых плітаў — падчас аднаўлення касцёла (ужо ў пачатку 90-х) заезджыя рэстаўратары пахавалі іх пад тоўстым слоем бетону…

І ўсё ж удзячная памяць пра Сапегаў жыла ў Дзярэчыне: кафляю на печы, дзверкаю ў грубцы, звонам на касцёльнай вежы, легендамі пра ўлюбёнага ў дзярэчынскія краявіды Францішка, мемарыяльнай дошкай Яўстаху Каятану Паўстанцу, усталяванай у касцёле дзярэчынскім прадпрымальнікам Валянцінам Дубатоўкам (пазней В. Дубатоўка даследаваў былыя сапегаўскія маёнткі і напісаў цікавую кнігу — «Архіпелаг Сапегаў» (2002) — акурат над тымі забетанаванымі плітамі.

Аднойчы мы з Валянцінам, выпадкова даведаўшыся, што ў далёкай Кеніі жыве прамы нашчадак дзярэчынскіх Сапегаў, даслалі яму тэлеграму з запрашэннем пашпацыраваць дарогамі продкаў. Князю Яўстаху Севярыну было тады ўжо за восемдзесят, і, шчыра кажучы, мы не вельмі спадзяваліся на ягоны прыезд. Але ён адказаў сцвярджальна, і праз нейкія два тыдні мы ўжо сустракалі тытулаванага госця на гарадзенскім чыгуначным вакзале.

Пераадолеўшы самалётам і цягнікамі звыш сямі тысячаў кіламетраў, апошні пазасталы ў жывых прадстаўнік ружанска-дзярэчынскай лініі Сапегаў аказаўся дасведчаным сапегазнаўцам — мы слухалі ягоныя аповеды, затаіўшы дыханне.

Пра тое, як расійскія ўлады разрабавалі Дзярэчын у 1831 годзе, вывезшы ў Пецярбург больш за 200 скрыняў з фамільнымі каштоўнасцямі, карцінамі і кнігамі.

Пра тое, як ягоны выгнаны з Бацькаўшчыны прадзед па мянушцы Паўстанец, жывучы на горкім эміgranцкім хлебе, рыхтаваў у Парыжы новае паўстанне ў забраным Краі, але яму не суджана было дажыць да 1863 года.

Пра тое, як бацька князя, міністр замежных спраў ва ўрадзе Пілсудскага, у 1939 годзе трапіў на Лубянку і некалькі месяцаў правёў у камеры смяротнікаў.

Пра тое, як сам князь ваяваў у Арміі генерала Андэрса, а потым, каб пракарміць сям'ю, стаў паляўнічым у Афрыцы і паміж выездамі на сафары, пры газніцы ў намёце, пад ільвінае рыканне пісаў гісторыю свайго славутага роду...

На другі дзень знаходжання ў Беларусі Яўстах Севярын Сапега папрасіў звазіць яго ў Дзярэчын. Папярэджаныя аб візіце, дзярэчынцы вялікай грамадой сустрэлі князя хлебам-соллю на даматканым ручніку. Адмыслова на ўрачыстасць прыехаў біскуп Аляксандр Кашкевіч, які пасля Імшы ў касцёле звярнуўся да шаноўнага госця з прывітальнай прамовай. Ад імя дзярэчынцаў, а заадно чамусьці і за цара Мікалая I, які адабраў княскія маёнткі, і за бальшавікоў, якія ледзь не расстралялі бацьку князя, у госця папрасіў прабачэння старшыня мясцовага калгаса.

А калі расчулены да слёз Яўстах Севярын пакіда́ў Дзярэчын, на вежы развітальна бомкнуў старадаўні звон. «Ён пазнаў мяне!» — эмацыйна ўсклікнуў князь і папрасіў запісаць тыя гукі на дыктафон.

У Гародні, у гасцінным доме Валянціна Дубатоўкі, князь ледзь не за кожным тостам прасіў паўтарыць голас звона і неяк



Сустрэча ў Дзярэчыне. Валянцін Дубатоўка, Міхась Скобла, Яўстах Севярын Сапега і Мікола Дзябёла. 1999 г.



Я. С. Сапега знаёміцца з кнігай «Дзярэчынскі дыярыюш». Гродна, 1999 г.

замілавана паглядаў на мой, яшчэ плёначны, дыктафон. Скарыстаўшыся тым замілаваннем, я запісаў тады з князем невялікую гутарку (яна сталася першым і апошнім інтэрв'ю Яўстаха Сапегі ў Беларусі).

*— Шаноўны князь, сёлетні кастрычнік у Беларусі выдаўся з замаразкамі. Ці ўтульна Вы сябе адчуваеце без звыклага афрыканскага сонца?*

— Я на гэтай зямлі нарадзіўся і больш за дваццаць гадоў пражыў, таму мне гэты клімат добра вядомы. Я адчуваю сябе добра, мне тут не холадна, хоць і жыву я цяпер на экватары.

*— Беларусь восемдзесят тры гады таму сталася для Вас радзімай. Аднак вось ужо больш за паўвека вы жывяце ў Кеніі. Чым для Вас Беларусь з'яўляецца сёння?*

— Тут я ў 1916 годзе нарадзіўся. Але, як Сапега, я тут ужо 500 гадоў. Менавіта тут, а не дзесьці ў іншым месцы. Мы паходзім адсюль. Мае продкі мусілі быць на эміграцыі — у Англіі, у Галіцыі — і вярнуліся сюды. Для мяне гэты Край — гэта мой Край, нягледзячы на тое, што я потым апынуўся ў Афрыцы, а тут пазаўчора была Расія, учора — Польшча, а сёння ёсць Беларусь. Гэта мой Край, мая Айчына, тут мае карані.

*— Калі б у Беларусі быў прыняты закон аб вяртанні зямлі і маёмасці былым уладальнікам, як гэта зроблена ў Прыбалтыцы, ці прэтэндавалі б Вы на колішнія ўладанні Сапегаў?*

— Аднойчы мы гэты Край ужо страцілі — пасля вядомага паўстання ў 1831 годзе. На сто гадоў забралі, але ў 1933 годзе вярнулі. І вядома, калі б цяпер я мог вярнуць сваю зямлю, то зрабіў бы гэта з прыемнасцю. Ружаны існуюць, Спуша існуе, Дзярэчын існуе... Вядома, каб вярнулі... Але хадзіць і прасіць альбо купляць, кажучы, што маю на гэта грошы, я не хачу.

*— Падчас сваіх прыездаў з Афрыкі Вы спыняецеся ў Варшаве. Калі б у Вас была магчымасць, дзе б Вы пабудавалі дом у Беларусі?*

— Я хацеў бы вярнуцца ў Спушу пад Шчучынам, дзе яшчэ стаіць наш лес, пажыць у сваім радзінным кутку. Ведаеце, быў вельмі шчымлівы момант, калі я ў Спушы сустрэў старэнькую бабульку, якая памятала мяне малადым і пазнала праз шэсцьдзясят пяць гадоў! Але будаваць дом... Мабыць, я ўжо занадта стары для гэтай справы. Я ж у Афрыку выязджаў не назаўсёды. Думаў, папрацую там і вярнуся сюды, дзе з'явіліся на свет пятнаццаць пакаленняў Сапегаў. Не атрымалася. Ці захочуць вярнуцца ў Беларусь мае дочкі? Пра гэта трэба ў іх спытаць. Яны нарадзіліся ў Афрыцы, былі замужам у Швецыі і Польшчы, але пасля смерці мужоў прыехалі дадому ў Найробі. На жаль, у іх ужо няма такога сантыменту да Беларусі, як у бацькі.

*— Сёння ў дзярэчынскім касцёле Вы прысутнічалі пры асвячэнні мемарыяльнай дошкі Вашаму прадзеду Яўстаху Каятану Сапегу (Паўстанцу). Мой сябра Валянцін Дубатоўка спрабаваў знайсці яго магілу ў Парыжы. На якіх могілках ён пахаваны?*

— На старых могілках на Манмартры. Трыццаць гадоў таму да мяне звярнуўся загадчык тых могілак. Размова ішла пра апеку над магілаю майго прадзеда. Я аднавіў пахавальню і паставіў прыгожы помнік. Тады ж я выкупіў усю пахавальню ў парыжскіх гарадскіх уладаў. Потым побач з прадзедам пахаваў свайго брата. Мабыць, і самога там пакладуць. Гэта яшчэ канчаткова не вырашана. Але я, пакуль жывы, раблю захады, каб дастаць добрае месца ў якім-небудзь сапегаўскім касцёле ў Беларусі. Фамільная пахавальня ў Парыжы — святое для нашага роду месца, і я цяпер ім апякуюся. Ведаю, што гэта нерэальна, але мне хацелася б перанесці яе ў Беларусь.

*— Якімі ўражаннямі Вы падзеліцеся са сваімі дочкамі, вярнуўшыся ў Найробі?*

— Калі мы ад'язджалі з Дзярэчына, на касцёльнай званіцы зазваніў звон. Як мне растлумачылі, гэта яшчэ сапегаўскі звон, на ім выбіта дата — 1717 год. Мне здаецца, што ягоны

голас я цяпер буду чуць і ў Афрыцы. Усё ў гэтым Краі за мінулае паўстагоддзе моцна змянілася. Адзінае, што засталося без зменаў, — гэта зямля і лес. Разумееце, каля Ружанаў яшчэ расце наш лес! Я ў Афрыцы дваццаць гадоў быў прафесійным паляўнічым. І мне прыемна было б папаляваць у сваім лесе. Але, кажуць, трэба пісаць ліст Лукашэнку, каб дазволіў... Мая старэнькая сястра жыве ў Лондане, і я хацеў завезці ёй хоць кавалачак цагліны ад нашага старога маёнтка ў Спушы. І — не знайшоў. Нічога не засталося. Людзі таксама змяніліся. Раней мы не ведалі, што такое «калхозы», іх не было. Я хацеў бы бачыць вольных людзей, якія працуюць на сваёй зямлі, а не працаўнікоў «калхозаў».

*— На гербе Сапегаў спрадвеку была і «Пагоня». У аздабленні кнігі «Dom Sapieżyński», якую Вы падрыхтавалі і выдалі тры гады таму ў Варшаве, выкарыстаныя ўзоры слуцкіх паясоў, але на яе старонках нячаста згадваецца Польшча. Ці не азначае гэта, што этнічна Вы адчуваеце сябе ўсё ж беларусам?*

— На гэтае пытанне мне складана адказаць... Усе мы, Сапегі, і я ў тым ліку, былі грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага, што ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай. І я адчуваю сябе грамадзянінам Рэчы Паспалітай, але, бясспрэчна, паходжаннем з Вялікага Княства. Цяпер тут Літва, Беларусь, Украіна... Мы ж былі грамадзянамі Княства. І потым, заўважце, гэта вельмі істотна: мы, Сапегі, чатырыста гадоў змагаліся за незалежнасць свайго Краю, мы не хацелі быць жыхарамі Польскага Каралеўства.

Апошнія словы з таго інтэрв'ю нечакана для мяне пацвердзіліся і назаўтра, калі мы з Валянцінам, плануючы вандроўку ў Спушу (там князь нарадзіўся ў 1916 годзе), прапанавалі Сапегу з'ездзіць і ў Нясвіж, агледзець замак Радзівілаў.







Вокладка мемуарнай кнігі Я. С. Сапегі «Так было» (1999) з аўтографам князя.

Яўстах Севярын рашуча адмовіўся і патлумачыў, што калі яны, Сапегі, змагаліся за Айчыну, Радзівілы пілі гарэлку і каталіся на мядзведзях, а таму мы з Валянцінам, сыны сялянаў-хутаранцаў, вырашылі не ўмешвацца ў княскія разборкі...

У знак удзячнасці за пагасціны на радзіме князь падараваў нам укладзены ім важкі фаліянт на польскай мове «Dom Sapieżyński» з гэткім надпісам: «Спадарам Валянціну Дубатоўку і Міхалу Скоблу на памяць пра мілае спатканне ў новым Гродне і з пажаданнем поспеху ў працы над гісторыяй Дзярэчына». І на словах дадаў, што марыць убачыць выданне кнігі на мове таго Краю, за незалежнасць якога са зброяй у руках змагаліся яго продкі. Я паабяцаў зрабіць усё магчымае, каб тая мара спраўдзілася.

З таго часу прайшло амаль два дзясяткі гадоў.

У 2004 годзе ў Кеніі Яўстах Севярын Сапега пакінуў гэты свет, паспеўшы даслаць нам з Валянцінам па асобніку сваіх мемуараў «Tak było», дзе апісанае і падарожжа па Беларусі. Тыя мемуары таксама чакаюць сустрэчы з варштатам Скарыны, бо ў іх — пераважна пра жыццё ў міжваеннай Заходняй Беларусі. Пакуль жа да чытача прыйшоў беларускі варыянт «Domu Sapieżyńskiego» — «Гісторыя Сапегаў», якую можна назваць своеасаблівай Сапегаўскай энцыклапедыяй. У ёй — падрабязныя жыццяпісы найбольш вядомых прадстаўнікоў роду (іх ажно 85), апісанні фамільных маёнткаў (іх налічваецца 72) і фундацый — пераважна храмаў розных канфесій, многія з якіх захаваліся да нашых дзён, напрыклад, Троіцкі касцёл у Ружанах, Троіцкая царква ў Быхаве, касцёл і кляштар бэрнардынак у Гродне...

Нарэшце я ўздыхнуў з палёгкаю — мара беларускага князя з Найробі збылася, а маё абяцанне выкананае.

Абяцанне, дадзенае ў маім родным старадаўнім Дзярэчыне, які прыгадвае, нібы гістарычны пароль, слова-першапачатак — *дзярэча,* дзе, як і шэсцьсот гадоў таму, гудуць мёдадайныя ліпы і чабаровыя лугі. Дзе і сёння не зваліся пчаліныя раі, што «*бароняць вуллі свае*»...

*Фотаздымкі з архіва аўтара.*

## CONTENTS

We open the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the cycle of materials dedicated to the 500th anniversary of Belarusian book printing: articles by A. Zhlutka "Francysk Skaryna: Life for the Sake of the Word", Y. Lauryk "The Manifestation of the Franciscan Spirituality in Akathist of Skaryna", M. Kupava "Portrait of Francysk Skaryna", K. Laurynenka "Sources of Inspiration" and a fragment of the poem "Bees Protect Their Hives" by V. Zhukovich (p. 2-20).

We continue to publish translation of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (translated from Spanish by S. Gresvi) as well as translation from English (by Y. Shedzko) of "The Four Loves" by C.S. Lewis (Section V) (p. 21-29).

In memory of the former parish priest of Minsk archcathedral father Jan Szutkiewicz we publish materials by deacon M. Grakau "Priest of the Renaissance", K. Lialko "Moments of Life in Photos and Memories", A. Shpunt "He Was a Romantic...", as well as verse by D. Bichel "Instead of White Peonies on the New-made Grave of Father Jan Szutkiewicz" (p. 30-37).

Literary critic I. Bagdanovich in her essay "Klyushchany of Kazimir Svajak" tells the readers about the church in Klyushchany, which was burned down in June this year. Here we also place her verse "Church in Klyushchany" (p. 38-39).

To the 135th anniversary of the birth of People's poet of Belarus Yanka Kupala we print article by A. Valchuk "Family Traditions of Education as a Factor in the Formation of the Christian Worldview of Yanka Kupala" (p. 40-41).

To the 100th anniversary of the birth of the People's writer of Belarus Yanka Bryl we present article by L. Kaminskaya "I Will Call Only Light...". Here you can also read the verse by D. Bichel "Bright Memories of Yanka Bryl" (p. 42-45).

In column "Poetry" we publish poems by V. Maksimovich (p. 46-47).

Literary critic and poetess A. Danilchyk offers to the readers her translation of poems by Italian poet Aldo Onorati (p. 48-50).

Historian A. Shpunt in his article "Lithuanian Aristide" introduces one of the esteemed representatives of Belarusian gentry Y. Belapiatrovich (p. 51-53).

To the 140th anniversary of the birth of famous folklorist A. Grynevich we print article by Y. Grynevich "A Song Is the Soul of People" (p. 54-55).

Musicologist S. Nemagay in her article "Organ Reflections of Stanislaw Moniuszko" tells the readers about the work of the famous composer (p. 56-62).

Doctor of Arts T. Gabrus in her article "Beauty in Simplicity" continues the talk about wooden churches in Belarus (p. 63-66).

Well-known researcher of literature, poet M. Skobla in his article "Encyclopaedia of Sapieha. Look from Dziarechyn" presents a new book "History of the Sapieha Family: Biographies, Estates, Funds" (2017) (p. 67-71).

## RESÜMEE

Die neue Ausgabe der Vierteljahreszeitschrift „Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit einer Reihe von Beiträgen, die dem 500. Jahrestag des belarussischen Buchdruckes gewidmet sind. Es handelt sich um folgende Artikel: „Franzysk Skaryna: Leben für das Wort" von A. Shlutka, „Ausdruck der Spiritualität der Franziskaner in den Akathisten von F. Skaryna" von J. Lauryk, „Das Porträt von Franzysk Skaryna" von M. Kupawa, „Quellen der Inspiration" von K. Laurynenka sowie Fragmente aus dem Poem „Bienen verteidigen ihre Bienenstöcke" von W. Shukowitsch (S. 2-20).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Traktates des heiligen Johannes vom Kreuz „Aufstieg auf den Berg Karmel" (aus dem Spanischen von S. Greswi) und der Übersetzung des Buches „Vier Arten der Liebe" von C. S. Lewis (Abschnitt V, aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 21-29).

Dem Andenken an den Priester Jan Schutkewitsch, den ehemaligen Vorsteher der Minsker Erzkathedrale, sind folgende Beiträge gewidmet: „Der Priester der Renaissance" des Diakons M. Grakau, „Augenblicke des Lebens auf Bildern und in Erinnerungen" von K. Lialko, „Er war ein Romantiker…" von A. Spunt sowie das Gedicht „Statt weißer Pfingstrosen auf das frische Grab des Priesters Jan Schutkewitsch" von D. Bischel (S. 30-37).

Die Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch berichtet im Essay „Das Kljuschtschany von Kasimir Swajak" von der katholischen Kirche in Kljuschtschany, die im Juni des laufenden Jahres abgebrannt ist. Abgedruckt ist auch ihr Gedicht „Die katholische Kirche in Kljuschtschany" (S. 38-39).

Anlässlich des 135. Geburtstags des Volksdichters von Belarus Janka Kupala wird der Artikel „Erziehungstraditionen innerhalb der Familie als Faktor für die Bildung der christlichen Weltanschauung von Janka Kupala" von A. Waltschuk veröffentlicht (S. 40-41).

Dem 100. Geburtstag des Volksschriftstellers von Belarus Janka Bryl ist der Artikel „Ich rufe nur das Helle ins Gedächtnis…" von L. Kaminskaja gewidmet. Hier findet sich das Gedicht „Die helle Erinnerung an Janka Bryl" von D. Bitschel (S. 42-45).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von W. Maksimowitsch (S. 46-47).

Die Literaturwissenschaftlerin und Poetin A. Daniltschyk stellt den Leserinnen und Lesern ihre Übersetzungen der Gedichte des italienischen Poeten Aldo Onorati vor (S. 48-50).

Der Geschichtswissenschaftler A. Spunt berichtet im Artikel „Der litauische Aristeides" über J. Belapjatrowitsch, einen der würdigsten Vertreter des belarussischen Adels (S. 51-53).

Anlässlich des 140. Geburtstages des bekannten Volkskundlers A. Grynewitsch wird der Artikel „Das Lied ist die Seele des Volkes" von J. Grynewitsch veröffentlicht (S. 54-55).

Die Musikwissenschaftlerin S. Nemagaj äußert im Artikel „Orgelreflexionen von Stanislaw Manjuschka" interessante Überlegungen zum Schaffen des berühmten Komponisten (S. 56-62).

Die Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj setzt in ihrem Artikel „Die Schönheit in der Einfachheit" das Gespräch über hölzerne Heiligtümer von Belarus fort (S. 63-66).

M. Skobla, ein bekannter Literaturforscher, berichtet im Artikel „Sapegas Lexikon – Blick aus Dsjaretschyna" vom neuen Buch „Die Geschichte der Sapegas: Lebensbeschreibungen, Güter, Stiftungen" (2017) (S. 67-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer kwartalnika «Nasza wiara» rozpoczyna się cyklem publikacji poświęconych 500-leciu drukarstwa białoruskiego. Zamieszczone są artykuły A. Złutki «Franciszek Skaryna — życie dla Słowa», J. Łauryka «Przejaw duchowości franciszkańskiej w akatystach Skaryny», M. Kupawy «Portret Franciszka Skaryny», K. Łaurynienki «Źródło natchnienia» i fragmenty poematu W. Żukowicza «Pszczoły bronią ule swoje» (s. 2-20).

Kontynuujemy publikację traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) oraz pracy C. S. Lewisa «Cztery miłości» (rozdział V, tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (s. 21-29).

Pamięci pierwszego po wojnie proboszcza archikatedry mińskiej ks. Jana Szutkiewicza zostały poświęcone publikacje diakona M. Hrakawa «Kapłan epoki odrodzenia», K. Lalko «Momenty życia w zdjęciach i wspomnieniach», A. Szpunta «Był romantykiem…» i wiersz D. Biczel «Zamiast białych piwonii...» (s. 30-37).

Literaturoznawca I. Bahdanowicz w eseju «Kluszczany Kazimira Swajaka» pisze o kościele w Kluszczanach, który spłonął w czerwcu tego roku, tutaj też został umieszczony wiersz autorki p.t. «Kościół w Kluszczanach» (s. 38-39).

Z okazji 135-lecia z dnia urodzin narodowego poety Białorusi Janki Kupały drukuje się art. A. Walczuk «Wychowawcze tradycje rodzinne jako czynnik kształtowania chrześcijańskiego światopoglądu Janki Kupały» (s. 40-41).

100-leciu z dnia urodzin narodowego pisarza Białorusi Janki Bryla poświęcony został art. L. Kamińskiej «Tylko co dobre zawołam…». Tutaj również umieszczony został wiersz D. Biczel «Jasne wspomnienie o Janku Brylu» (s. 42-45).

W rubryce «Poezja» umieszczone zostały wiersze W. Maksymowicza (s. 46-47).

Literaturoznawca i poetka A. Danilczyk proponuje czytelnikom swoje tłumaczenie wierszy włoskiego poety Aldo Onorati (s. 48-50).

Historyk A. Szpunt w art. «Litewski Arystydes» pisze o jednym z najdostojniejszych przedstawicieli białoruskiej szlachty J. Białopiotrowiczu (s. 51-53).

Z okazji 140-lecia z dnia urodzin znanego folklorysty A. Hryniewicza drukuje się art. J. Hryniewicz «Pieśń duszą narodu» (s. 54-55).

Muzykolog S. Niemahaj w art. «Refleksje organowe Stanisława Moniuszki» w sposób ciekawy rozważa o twórczości znanego kompozytora (s. 56-62).

Doktor historii sztuki T. Habruś w swoim art. «Piękno w prostocie» kontynuuje opowiadanie o drewnianych świątyniach Białorusi (s. 63-66).

Znany badacz literatury, poeta M. Skobła w art. «Encyklopedia Sapiehowska — spojrzenie z Dereczyna» opowiada o nowej książce — «Historia Sapiehów: życiorysy, majątki, fundacje» (2017) (s. 67-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con la saggistica dedicata al 500° anniversario dell'editoria bielorussa: articoli di A. Žlutka "Franzisk Skaryna: una vita per Parola", di J. Lauryk "la manifestazione della spiritualità francescana negli acatisti di Skaryna", di M. Kupava "Il ritratto di Franzisk Skaryna", di K. Laurynenka "Le fonti dell'ispirazione e con i brani del poema di V. Žukovič ""Le api tutelano le sue arnie" (p. 2-20).

Continua la pubblicazione del trattato di San Giovanni della Croce «La salita al monte Carmelo» (tradotto dallo spagnolo da S. Gresvi) e del libro di C. S. Lewis "Quattro Amori" (Parte V) tradotto dall'inglese da J. Šedzko (p. 21-29).

Alla memoria del già parroco della Cattedrale Arcidiocesale sacerdote Jan Šutkevič sono dedicati gli articoli di M. Grakau "Un sacerdote dell'Epoca del Rinascimento", di K. Lalko "Gli istanti della vita nelle fotografie e nei ricordi", di A. Špunt "Fu un romatico…" e la poesia di D. Bicel "In sostituzione dei pioni bianchi sulla tomba del parroco Jan Šutkevič" (p. 30-37).

Il critico di letteratura I. Bagdanovič nel saggio "Kliuščany di Kazimir Svajak" scrive della chiesa cattolica di Kliuščany briciata nel giugno dell'anno corrente, accanto è collocata la sua poesia "La Chiesa di Kliuščany" (p. 38-39).

Al 135° anniversario della nascita del poeta Janka Kupala, insignito del titolo "Poeta del popolo della Bielorussia", si pubblica l'articolo di A. Valčuk "Le tradizioni dell'educazione familiare di Janka Kupala come fattore di formazione della concezione cristiana del mondo" (p. 40-41).

Al 100° anniversario della nascita dello scrittore Janka Bryl, insignito del titolo "Scrittore del popolo della Bielorussia", è dedicato l'articolo di L. Kaminskaya "Chiamerò solo cose serene…". Qui è collocata anche la poesia di D. Bicel "Un ricordo sereno di Janka Bryl" (p. 42-45).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le liriche di V. Maksimovič (p. 46-47).

La poetessa e critica di letteratura A. Danilčyk sottopone all'attenzione dei lettori le traduzioni delle poesie del poeta italiano Aldo Onorati (p. 48-50).

Lo storico A. Špunt nell'articolo "Aristide lituano" scrive di uno dei più meritevoli rappresentanti della nobiltà bielorussa J. Belapiatrovič (p. 51-53).

Al 140° anniversario della nascita del famoso folclorista A. Grynevič si pubblica l'articolo di J. Grynevič "Il canto è l'anima del popolo" (p. 54-55).

La musicologa S. Nemagai nell'articolo "Le riflessioni di organo di Stanislau Maniuška" analizza gli aspetti dell'attività creativa del famoso compositore (p. 56-62).

La Dottoressa di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus nel suo articolo "La bellezza è nella semplicità" continua a raccontare dei sacrari bielorussi in legno (p. 63-66).

Il famoso studioso di letteratura, poeta M. Skobla nell'articolo "L'enciclopedia di Sapiega vista da Dziarečyn" racconta del nuovo libro "La storia dei Sapiega: biografie, tenute, proprietà terriere" (2017) (p. 67-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — Віктар Жукаў, «Сафійскі сабор над Дзвіной» (фрагмент), 2015 г. Фотарэпрадукцыя Анатоля Бандарчука-Вошлава.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (81)/2017.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 26.07.2017 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 000 экз. Зак № 843.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

# Крыніцы натхнення



Андрэй Міхайлаў. «Полацк. Дзвіна».
2016 г. ДВП, алей.



Аляксей Яўсееў. «Камень».
2016 г.



Зміцер Мшар. «Полацк. Від на Спасаўскі манастыр».
2016 г.



Сяргей Чарцілін. «Краявід у Полацку».
2016 г.

